Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ**



**№ 11 (26) Лістапад 1927**

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927



## Да ўсіх сяброў краязнаўчых організацый.

Хутка тры гады як Цэнтральнае Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры выпускае часопіс „Наш Край“. На сваіх старонках часопіс дае адбітак працы краязнаўчых таварыстваў і гурткоў на мясцох і друкуе анкеты, інструкцыі і програмы па дасьледваньні экономічных і культурных багацьцяў краіны; зьмяшчае мэтодычныя матар'ялы спэцыялістых па розных галінах навукі і розныя досьледы.

За тры гады працы „Наш Край“ даў магчымасьць на сваіх старонках выявіцца кадру маладых краязнаўцаў як па гарадох Рэспублікі таксама і па глухіх мясцох.

Да Кастрычніка Беларусь была колёніяй царскай расійскай імпэрыі—„Северо-Западным краем“, які калі і дасьледваўся, дык вельмі аднабакова. Уся энэргія большасьці вучоных царскіх часоў была накіравана на тое, каб даказаць, што тут „іськона-рускі край“.

З пераходам да социялістычнага будаўніцтва пытаньне аб шырокім, усебаковым дасьледваньні Беларусі зьявілася актуальным і першарадным. Гэтым тлумачыцца вялікі развой краязнаўчага руху ў БССР, вывучэньне ўсіх яго вытворчых сіл і багацьцяў, а таксама і разнастайнасьць матар'ялаў, якія друкуюцца ў часопісе „Наш Край“.

Пераскокі ў тэматыцы ад археолёгічных раскопак, апісаньня фрэсак Полацкага манастыра да экскурсіі ў сучасную фабрыку, старасьвецкае замчышча побач з дасьледваньнем санітарна-гігіенічнага становішча сучаснай вёскі ілюструюць перад чытачом „Нашага Краю“ ход працы на мясцох і паказваюць на той краязнаўчы голад, які існаваў у нас да Кастрычніка.

Разнастайныя матар'ялы ў „Нашым Краі“ зьяўляюцца яркім люстрам усебаковага разьвіцьця нашай краязнаўчай справы. Перад маладымі краязнаўцамі ў гэтым напрамку—сьвежая глеба для працы. Праца расьце, пашыраецца і паглыбляецца. У ёй прымаюць удзел і настаўніцтва і студэнцтва вышэйшых і сярэдніх вучэбных установ, таксама шмат хто з рабочых і сялян.

Ніводны куток БССР не павінен быць недасьледваным!

Каб даць поўны, жывы адбітак краязнаўчага руху ў нашым органе друку, вельмі скупы тыя сродкі, якія вызначаны для „Нашага Краю“ ў агульным бюджэце Інбелкульту. Каб забясьпечыць рэгулярны выхад часопісу, каб друкаваць у ім патрэбныя клішэ, пры адсутнасьці якіх краязнаўчыя матар'ялы трацяць вялікую частку сваёй вартасьці, трэба павялічыць сродкі на выданьне часопісу.

З гэтай прычыны Цэнтральнае Бюро Краязнаўства зьвяртаецца да ўсіх сяброў краязнаўчых організацый падтрымліваць адзіны на Беларусі краязнаўчы часопіс як прысылкай матар'-ялаў да друку, таксама і пашырэньнем падпіскі.

Пашырэньне ліку падпішчыкаў зьяўляецца галоўнай базай існаваньня часопісу і палепшаньня яго якасьці.

Кожны краязнаўца павінен быць і супрацоўнікам і падпішчыкам „Нашага Краю“.

Кожны краязнаўца павінен рэкомэндаваць „Наш Край“ сваім сябром і знаёмым.

Кожны краязнаўца павінен лічыць справу разьвіцьця „Нашага Краю“ сваёй уласнай справай.

Толькі пры ўмовах агульнага супрацоўніцтва і падтрыманьня з боку ўсіх сяброў краязнаўчых організацый „Наш Край“ разгорнецца ў энцыклёпэдыю экономічных і культурных багацьцяў БССР.

Ц. Б. Краязнаўства.



В. Самцэвіч.

# Краязнаўства ў політасьветнай працы.

Уся політасьветная праца на вёсцы і ў горадзе мае сваёю мэтаю комуністычнае выхаваньне шырокіх колаў грамадзянства, дапамогу савецкаму і соцыялістычнаму будаўніцтву, правядзеньне ў шырокія масы новай, пролетарскай па зьместу і нацыянальнай па форме культуры, новых форм быту. Перад апаратам і органамі політасьветы ставіцца задача конкрэтнай практычнай працы ў вызначаным напрамку, а гэтая акалічнасьць вымагае ад політасьветных працаўнікоў дасканалага веданьня ўсіх умоў жыцьця і працы насельніцтва *данай мясцовасьці*, нацыянальных і культурна-бытавых асаблівасьцяй, соцыяльнага складу насельніцтва свайго краю[1]) і г. д. На гэта ўказвае Н. К. Крупская, калі гаворыць: „Кожны адказны працаўнік, кожны кіраўнік народнае асьветы, у прыватнасьці кожны політасьветнік павінны грунтоўна ведаць асаблівасьці свайго краю“.

На падставе практычных запатрабаваньняў у культурным і гаспадарчым будаўніцтве вёскі, сельсавету, раёну, павінны складацца гадавыя, квартальныя і каляндарныя пляны політасьветных установ: нардамы, хаты-чытальні, клюбы і інш. Вызначаныя ў пляне тэмы павінны падрыхтоўваць, распрацоўваць, паглыбляць, пашыраць і популярызаваць пытаньні, якія намечаны для вырашэньня ў плянах савецкіх органаў улады (сельсавету, РВК). З распрацоўкі гэтых пытаньняў *мясцовага практычна-жыцьцёвага значэньня* вынікаюць само сабой адпаведныя вывады. Дзеля гэтага далёка не парадоксальна гучаць словы т. Луначарскага на ўсесаюзным зьезьдзе загадчыкаў хат-чытален: „Избач должен строить мост от коровы к Чемберлену“.

Павінна быць цесная ўвязка ў політасьветнай і краязнаўчай працы. Вынікі вывучэньня мясцовай краязнаўчай організацыяй ці паасобнымі краязнаўцамі сваёй мясцовасьці павінны быць выкарыстаны політасьветнай установай у яе працы ў форме дыяграм, графік, табліц, колекцый, выставак, дакладаў на розныя тэмы і г. д. На некалькіх прыкладах разгледзім, як краязнаўчая праца будзе ўвязвацца з працай політасьветнай. Мясцовая савецкая ўлада, праводзячы дырэктывы партыі, ставіць сваёй задачай правесьці зямляўпарадкаваньне ў тэй ці іншай вёсцы сельсавету. Хата-чытальня мобілізуе сялянскі актыў, вывучае экономічнае становішча сялян, іх бытавыя ўмовы, зьбірае ма-

---

1) Пад краем мы разумеем раён дзейнасьці політасьветнай установы: раён, сельсавет, вёска.

тар'ялы (аб сел.-гасп. тэхніцы, ураджаях), якія павінны высьвятляць выгады правядзеньня земляўпарадкаваньня, і пасьля гэтага, з фактамі і лічбамі ў руках падыходзіць да агітацыі сярод сялян. Вось у гэтай справе вывучэньня пастаўленага жыцьцёвага пытаньня і патрэбна будзе дапамога і супрацоўніцтва мясцовага краязнаўчага гуртка, асобных краязнаўцаў.

Нельга з посьпехам агітаваць за інтэнсыфікацыю гаспадаркі, калі добра ня ведаць прыродных умоў свайго краю, уласьцівасьцяй мясцовых глеб, эканамічнага стану і тэхнічных ведаў насельніцтва. Гаспадарка кожнай мясцовасьці мае свае асаблівасьці, свой напрамак: у адным месцы трэба зьвярнуць увагу на разьвіцьцё малочнае гаспадаркі, у другім—на разьвядзеньне тых ці іншых тэхнічных культур, у трэцім—на пашырэньне зернавой культуры і г. д. Тут патрэбна дасканалае вывучэньне; веданьне магчымага кірунку гаспадаркі ў данай мясцовасьці, каб весьці працу ў належным напрамку без памылак і няўдач. І тут-жа ў сутнасьці мы маем справу з палітасьветна-краязнаўчай працай.

Праводзіцца, напр., „Свята ўраджаю"і і вельмі шаблённа, аднастайна з году ў год. Робіць даклад часам агроном, а часамі загадчык хаты-чытальні, говораць аб посьпехах сельскай гаспадаркі з часоў рэволюцыі, аб мерапрыемствах Савецкае ўлады ў справе падняцьця сельскай гаспадаркі, сяляне прызываюцца да новых форм зямлякарыстаньня, да лепшых спосабаў вядзеньня гаспадаркі, часамі ставіцца якая-небудзь інсцэніроўка ці спэктакль. Усё гэта патрэбна. Але куды лепш было-б, каб к гэтаму дню перад сялянамі даны былі яскравыя і зразумелыя малюнкі аб становішчы і посьпехах сельскай гаспадаркі ў данай мясцовасьці, паказана была ў лічбах і дыяграмах дынаміка гэтае гаспадаркі; добра было-б правесці ў належны час экскурсіі ў найбольш культурныя гаспадаркі.

Часамі бывае так, што энэргічны загадчык хаты-чытальні пры дапамозе актыўных комсамольцаў, мясцовага настаўніка даводзіць сялян да адчыненьня сельска-гаспадарчага спажывецкага т-ва, але ў першыя-ж месяцы сваёй дзейнасьці гэтыя т-вы занепадаюць ня толькі затым, што там працаўнікі дрэнныя,—вельмі часта тут бывае іншая прычына: ня былі вывучаны мясцовыя запатрабаваньні, мясцовы рынак, попыт на тыя ці іншыя тавары і г. д. Вось у нас зараз вялікае месца адводзіцца пытаньню пашырэньня мясцовай прамысловасьці. Коопэратывы, РВК, арцелі адчыняюць то тут, то там цагляныя заводы, лесапілкі, млыны і часамі вельмі няўдала: для цагляных заводаў няма належных гатункаў гліны, замест паравога млыну, выяўляецца, лепш было-б паставіць вадзяны і г. д.

Дзеля таго, каб агітаваць насельніцтва за разьвіцьцё таго ці іншага віду саматужнага промыслу, трэба гэтае пытаньне вывучыць, ведаць, ці ёсьць для гэтага належныя ўмовы, ці будзе попыт на мясцовым рынку на тавары, якія будуць вырабляцца.

Такія пытаньні, як процэс клясавага расслаеньня вёскі, падзел сялян на беднякоў, серадпякоў і кулакоў, нацыянальны склад насельніцтва данае масцовасьці, настроі, быт кожнае групы насельніцтва—павінны быць фактычна дасьледваны, іначай палітасьветная справа сярод масы можа стаць на ня зусім правільны шлях; можна недааца-

ніць ці пераціаніць сілы тае ці іншае групы, і ў лепшым выпадку праца політасьветнае ўстановы будзе некарыснай.

Вось яшчэ некаторыя краязнаўчыя пытаньні, якія павінен высьветліць кожны політасьветны працаўнік для продукцыйнае працы: 1) мэдыцына і народнае здароўе, лекавая дапамога насельніцтву, народная мэдыцына; 2) становішча народае асьветы, сетка вучэбных устаноў, народныя забавы; 3) адносіны насельніцтва да рэлігіі і народныя вераваньні: 4) дабрабыт вёсак і г. д.

Мы застанавіліся і адзначылі ролю краязнаўчае працы ў політасьветнай справе толькі на вёсцы. Праца ў тым ці іншым мястэчку ці горадзе таксама павінна лёкалізавацца. У прамысловым раёне сярод рабочай масы павінен быць адзін характар працы, у раёне з рамесьніцкім пасяленьнем неабходна мець другі падыход да масы і зусім іначай павінна праводзіцца праца ў раёне з пераважна мяшчанскім насельніцтвам. Каб правільна, напр., паставіць культасьветную працу сярод рабочай масы, мала яшчэ ўлічваць толькі рабочы склад, трэба ведаць яшчэ нацыянальны, партыйны склад, ступені граматнасьці рабочых, іх бытавыя ўмовы і г. д.

Паўстае пытаньне: якім-жа чынам і з якіх крыніц чэрпаць патрэбныя веды аб сваім краі? Неабходна, бязумоўна, у першую чаргу грунтоўна азнаёміцца з тэй літаратурай, якая ёсьць аб мясцовым краі па розных пытаньнях, патрэбна выкарыстаць здабытыя мясцовай краязнаўчай організацыяй ці паасобнымі краязнаўцамі матар'ялы; магчыма ў значнай меры азнаямленьні і выкарыстоўваньне офіцыйных матар'ялаў розных устаноў, прадпрыемстваў і організацый (справаздачы, протоколы, статыстычны матар'ял і інш.); значныя патрэбныя весткі можна знайсьці ў мясцовым пэрыодычным друку, нават, у насьценных газэтах і разам з тым кожны політасьветны працаўнік павінен карыстацца багатым вопытам і ведамі аб мясцовым краі некаторых старажылаў, партыйных, савецкіх і грамадзкіх працаўнікоў.

Мы думаем, што ў кожнай бібліотэцы пры нардоме, хаце-чытальні, чырвоным кутку павінна быць побач з іншай і популярная краязнаўчая літаратура і мясцовыя краязнаўчага характару часопісы. Таксама трэба лічыць неабходным утварэньне пры нардоме ці хаце-чытальні калі ня музэю, дык кутка мясцовага краю, дзе-б колекцыі, дыяграмы, карты і інш. высьвятлялі насельніцтву асаблівасьці мясцовай прыроды і яе богацьці, дынаміку разьвіцьця гаспадаркі ў данай мясцовасьці, яе культурнае становішча і г. д.

Як паасобны від політасьветнай працы хацелася-б зьвярнуць увагу на правядзеньне з рабочымі і сялянамі экскурсій у прыроду, у культурныя гаспадаркі, паказальныя вучасткі, на фабрыкі і заводы. Такія экскурсіі ў нас амаль што не практыкуюцца (асабліва з сялянамі). А між тым дзесяткі дакладаў ня могуць даць таго, што дасьць адна прадумана організаваная і праведзеная экскурсія.

Гэты кароткі артыкул дае толькі прынцыповую ўстаноўку вельмі важнага і сур'ёзнага на наш погляд пытаньня. Пры практычным падыходзе да справы павінны будуць зьявіцца асобныя мэтодычныя артыкулы на паасобныя тэмы. На вялікі жаль, аб месцы і ролі краязнаўства ў політасьветнай працы ў нашай краязнаўчай і політасьветнай літаратуры не гаварылася, не ставілася пытаньне аб гэтым і на краязнаўчых зьездах і конфэрэнцыях.




М. А. Фрыдэ.

# Колекцыі па этнографіі беларусаў у Этнографічным аддзеле Дзяржаўнага Рускага Музэю.

Этнографічны аддзел Дзяржаўнага Рускага Музэю заснаваны ў 1901 г., але для агляду адчыніўся ў 1922 г. Пэрыод часу з 1901 па 1914 г. быў затрачаны на зьбіраньне матар'ялу і організацыю выстаўкі, якая была гатова да адчыненьня ў 1914 г., калі вайна і выкліканая ёю эвакуацыя найбольш каштоўных экспонатаў надоўга адхіліла магчымасьць паказаць сабраны матар'ял. Толькі ў 1922 г. пасьля звароту эвакуаваных рэчаў удалася адчыніць музэй.

Зьбіраньне, вывучэньне і экспозыцыя матар'ялаў па этнографіі Беларусі ўваходзіць у лік заданьняў II аддзяленьня. Матар'ялы, якія сабраны Музэем, падзяляюцца на тры групы: да 1-ай групы адносяцца колекцыі этнографічных рэчаў, да 2-ой фотографіі і да 3-яй архіўны і літаратурны матар'ял.

Што датычыцца першай групы, дык у сучасны момант Музэем сабрана 2917 прадметаў па этнографіі Беларусі, з якіх каля 1/3 знаходзіцца на выстаўцы, а астатнія складаюць рэзэрвовы фонд Музэю. На жаль, праца па зьбіраньні матар'ялу не магла быць праведзена роўнамерна па усёй тэрыторыі Беларусі. Найбольш поўна абсьледваны і экспонаваны б. губэрні Менская і Магілеўская; б. губэрні Віцебская і Горадзенская прадстаўлены слабей, а Смаленская і Віцебская таксама як і беларускія засяленьні на тэрыторыях Украіны і Вялікарусі амаль зусім не прадстаўлены. Папаўненьне паказаных прабелаў складае задачу бягучай працы Музэю. Але і сабраныя колекцыі маюць вялікую навуковую вартасьць, бо зьбіралася сыстэматычна для найбольш поўнага асьвятленьня асноўных элемэнтаў як матар'яльнай культуры народу, так і яго вераваньняў і звычаяў.

Па пытаньні аб сродках здабываньня стравы ў Музэі сабраны колекцыі па паляўніцтве, рыбацтве, жывёлагадоўлі і ральніцтве, якое зьяўляецца асноўным заняткам беларусаў. Ёсьць асноўныя тыпы прылад для апрацоўкі зямлі, уборкі хлеба і сена, малацьбы, веяньня і для далейшай апрацоўкі зернят. Дзякуючы таму, што гэтыя прылады ў некаторых раёнах захавалі яшчэ вельмі архаічныя формы, удалася паказаць паступовае разьвіцьцё некаторых з іх. Так, напр., барана ёсьць

у форме прастога камля дрэва з завостранымі сукамі, затым у форме бараны, зробленай з раскепленых напалам і перавязаных між сабою галін з завостранымі сукамі замест зубцоў і ўрэшце ў форме бараны звычайнага тыпу. Рыбацтва, якое адыгрывае значную падсобную ролю ў гаспадарцы беларускага селяніна, таксама падрабязна прадстаўлена разнастайнымі рыбацкімі прыладамі і прыналежнасьцямі розных відаў рыбацтва. Менш поўны колекцыі па паляўніцтве і жывёлагадоўлі. У пчалярстве зьвернута асаблівая ўвага на старажытную яго форму—бортніцтва, агульную беларусам і украінскім паляшуком, і сабраны ўзоры вялікіх калод; якія ставяцца высака на дрэвах, а таксама розныя прыспасобы для іх уздыманьня і для ўзьлязаньня на дрэвы.

Па народнай тэхніцы ёсьць інструмэнты розных рамёстваў—па апрацоўцы скуры, па ганчарстве, між якімі асабліва цікавым па сваёй архаічнасьці зьяўляецца ручное ганчарнае кола; асабліва падрабязны колекцыі па апрацоўцы дрэва ва ўсіх яго галінах (цясьлярства, сталярства, бондарніцтва) і па апрацоўцы валакністых матар'ялаў і воўны, пачынаючы з першых момантаў іх апрацоўкі і канчаючы ткацкім варштатам.

Сярод сродкаў перасуваньня ёсьць вельмі значныя проблемы, бо адсутнічаюць вазок і санкі. Спасабы перасуваньня пры дапамозе каня і вала прадстаўлены конскай запражкай і ёрмамі, парнымі і адзінарнымі, перасуваньне па вадзе—чоўнам і, урэшце, ёсьць некаторыя прыспасобы для пешаходаў, як напр., лыжы.

Прадметы хатняга ўжытку беларуса носяць рысы глыбокай старажытнасьці, чым выклікаюць асаблівую зацікаўленасьць. З іх Музэй мае галоўным чынам драўлянае начыньне—каўшы, талеркі, лыжкі, міскі, некаторыя прыналежнасьці кухні і розныя прылады для асьвятленьня хаты лучынай, якая ў шмат якіх мясцох яшчэ шырака ўжываецца. Лучына альбо ўкладваецца ў сьветцы, альбо гарыць на асобных лучнікох. „Лучнік"—драўляная вялікая труба, выдаўбленая з цэлай калоды; труба спускаецца пасярод хаты; да ніжняга яе краю прымацоўваецца жалезная кратка, на якой гараць невялікія кавалкі дрэва. Іншы раз труба замяняецца палатняным мяшком, абмазаным глінай.

Адзеньне, як элемэнт, на якім яскрава адбіліся мясцовыя асаблівасьці і ўплывы суседзяў, сабрана вельмі дасканала і падрабязна, па магчымасьці, ва ўсіх вывучаных галіцах. Формы беларускай вопраткі і некаторыя яе орнамэнтальныя падрабязнасьці паказваюць яе блізасьць да вопраткі палескіх украінцаў, хоць вопратка заходніх раёнаў Беларусі часта носіць сьляды польскага ўплыву, а вопратка паўночна-ўсходняй яе часткі мае ўхіл у бок вялікарускай вопраткі. Музэем сабраны як цэльныя гарнітуры, якія зьяўляюцца цэльным комплексам, так і паасобныя іх часткі, цікавыя старажытнасьцю формаў, асаблівасьцямі крою ці орнамэнтам. Так, ёсьць колекцыі розных шапак, надзвычайна характэрных для беларусаў, вялікая колькасьць розначынна завязаных намётак і шэраг сьвітак і кажухоў, якія прадстаўляюць варыянты ў крої. Падабраны таксама розныя віды вопраткі адпаведна сэзону—летнія і зімовыя вопраткі, сьвіты, кажухі, цёплыя шапкі і і летнія капэлюшы.

Асаблівая ўвага была аддана збору колекцый па народным мастацтве. З прычыны таго, што народнае мастацтва беларусаў характарызуецца галоўным чынам орнамэнтам вышывак і тканін, дык



Музэем сабрана вялікая колькасьць вышываных сарочак і ручнікоў і колекцыі розных відаў тканін. Апошнія складаюцца з узораў хатніх вырабаў тканіны, розных пасьцілак, настольнікаў, разатканых ручнікоў і паясоў, узор якіх вельмі блізкі з узорам вышывак, а фарбавальная гама найбольш багата.

Духоўная культура народу толькі часткова праяўляецца і адбіваецца на рэчах і таму большая частка матар'ялаў па вераваньнях і звычаях беларусаў захована ў запісах зьбіральнікаў і толькі невялікая колькасьць рэчаў характарызуе іх. Да гэтага шэрагу прадметаў адносіцца купальскае дрэва з колам на версе, якое зьяўляецца яскравым прыкладам перажываньняў паганскай веры, таксама як і заломы—довад таго, як доўга трымаецца вера ў чараўніцтва і замовы. Калядная гвязда, чацьвярговыя пячэньні ў форме крыжа адбіваюць уплывы хрысьціянства. Выключна цікавым зьяўляецца бэтлейка, г. зн. народны лялечны тэатр, вельмі добрай захаванасьці і з вялікай колькасьцю дзеячых асоб. Сцэна бэтлейкі падзелена на два паверхі; дзея магла адбывацца ў абодвых паверхах, але верхні займаўся нярухомай сцэнай нараджэньня Хрыста, дзея адбывалася толькі ў ніжнім. У рэпэртуар гэтага тэатру ўваходзілі як містэрыі, так і сьвецкія п'есы. Сярод дзеячых асоб ёсьць і пэрсонажы біблііі—Адам і Эва, цары, д'ябал і сьмерць, але ёсьць і цэлы шэраг бытавых фігур, пачынаючы з цыгана, яўрэя і жаўнера і канчаючы паняй і нязьменнай казой. Запіс тэксту некаторых п'ес захоўваецца ў бібліотэцы Музэю.

Неабходным дадаткам да прадметных колекцый Музэю зьяўляецца яго збор фотографій, якімі папаўняюцца няўнікнёныя прабелы ў этнографічным матар'яле. Пры дапамозе фотографій прадстаўлены розныя тыпы жылых і дапаможных пабудаваньняў, іх эволюцыя, характар вуліц і пасяленьняў; значна пашыраны і папоўнены даныя аб вопратцы, зафіксаваны спосаб ужываньня розных інструмэнтаў і процэс працы; урэшце дадзена шмат бытавых малюнкаў—кірмаш, сьвята, некаторыя звычаі і г. д.

Запісы зьбіральнікаў, як комэнтарыі да колекцый, і ненадрукаваныя яшчэ навуковыя працы, перададзеныя Музэю, складаюць яго навуковы архіў, які знаходзіцца ў веданьні Бібліотэкі Музэю, таксама, як і навуковая літаратура па этнографіі Беларусі.

Пры экспозыцыі колекцый рэчы згуртоўваліся ў пэўныя групы паводле элемэнтаў народнай культуры, незалежна ад месца пахаджэньня саміх рэчаў. Такім чынам кожная група ці цыкль зьяўляюцца абгуленымі для ўсёй Беларусі. Для зьмяшчэньня на выстаўцы ўзяты толькі найбольш тыповыя і характэрныя рэчы і найгалоўныя адмены асноўных тыпаў. Большая ці меншая падрабязнасьць, з якой паказаны кожны цыкль, залежыць ад большай ці меншай ролі данага элемэнту ў жыцьці народу. Выключэньне зроблена толькі для вопраткі, якая, зьяўляючыся адным з найбольш пераходных элемэнтаў народнай культуры, паказана найбольш падрабязна і разьбіта на групы адпаведна мясьцовасьцям. У асобных шкалах паказана вопратка Палесься, цэнтральнай Беларусі, Магілеўшчыны і паўночна-ўсходняй Беларусі. На манэкэнах паказана мужчынская і жаноцкая вопратка як летняя, так і зімовая, а на сьценах шафаў зьмешчаны паасобныя часткі гарнітуру, якія ў якіх-небудзь адносінах зьяўляюцца цікавымі. Такім чынам паказаны варыянты крою



Агульны выгляд выстаўкі беларускага аддзелу ў Ленінградзкім Дзярж. Рускім Музэі.

сьвітак і кажухоў, розныя формы шапак і спосабы завязваньня хустак і намётак.

З сродкаў здабываньня стравы найбольшая ўвага зьвернута на земляробства, як асноўны занятак беларусаў, і падрабязна паказаны прылады для апрацоўкі зямлі, для зьбіраньня і пераапрацоўкі зернят. Менш падрабязна паказана рыбацтва, паляўніцтва і жывёлаводзтва. Пчалярства прадстаўлена галоўным чынам бортніцтвам.

Народная тэхніка прадстаўлена двома галоўнымі ў гаспадарцы беларуса промысламі: апрацоўкай дрэва і апрацоўкай валакністых расьлін і воўны.

Сродкі перасуваньня прадстаўлены толькі запражкай, ярмом і чоўнам.

Жыльлё беларусаў паказана на выстаўцы толькі ў фотографіях. На асобным шчыце зьмешчаны фотографіі розных тыпаў жыльля: часовыя пабудаваньні, як, напр., курэнь пастуха, простыя па конструкцыі і па пляну неабходныя ў гаспадарцы будынкі (сьвіран, лазьня і г. д.), хаты—курныя і белыя, выгляд унутранога абсталяваньня хаты, вуліца і г. д. З рэчаў хатняга ўжытку на выстаўцы ёсьць драўлянае начыньне, палічкі для начыньня і хлеба і celu рознага тыпу сьветцы і лучнік.

Народнае мастацтва беларусаў паказана ўзорамі тканін, тканымі паясамі і асноўнымі тыпамі вышывак на ручнікох і сарочках. Народная кэраміка, якая слаба разьвіта на Беларусі, прадстаўлена шэрагам розных формаў пасудзін і некалькімі міскамі. Прадстаўлены таксама розныя народныя музыкальныя інструмэнты, прычым асабліва цікавым зьяўляецца падбор пастырскіх труб рознага тыпу, якія ўжываюцца ня толькі ў мэтах скліканьня быдла але яшчэ і як музыкальныя інструмэнты.

Шчыт з глінянымі і драўлянымі цацкамі знаёміць нас з дзіцячымі заняткамі і гульнямі.

Духоўнае жыцьцё беларусаў—іх вераваньні, абраднасьці і звычаі таксама да вядомай ступені асьвятляюцца выстаўкай. З рэчаў, якія маюць да гэтага адносіны, паказаны: купальскае дрэва, заломы, калядная гвязда, маскі і некаторыя другія. Паказана таксама бэтлейка і ўсе яе дзеячыя асобы.

Экспозыцыя этнографічных колекцый дапаўняецца шэрагам фотографій. Імі ня толькі замяняюцца вялізныя рэчы, якія ня можна прадставіць у орыгіналах, як напр., хаты і іншыя пабудовы, але яны добра высьвятляюць і экспозыцыю розных заняткаў і рамёстваў, паказваючы спосаб ужываньня інструмэнтаў і процэс працы. Фотографіі зьмешчаны непасрэдна каля рэчаў, чым дасягаецца большая наглядальнасьць экспозыцыі.

Як было ўжо сказана, колькасьць выстаўленых экспонатаў складае ўсяго каля $^1/_3$ агульнага ліку сабраных па этнографіі Беларусі колекцый. Рэчы, якія складаюць рэзэрвовы фонд музэю, зьяўляюцца, варыянтамі і дадаткамі да тых, якія выстаўлены. Яны існуюць для абнаўленьня сталай выстаўкі, для наладжваньня пэрыодычных выставак па спэцыяльных пытаньнях і для навуковых досьледаў. Імі могуць карыстацца ня толькі супрацоўнікі музэю, але і ўсе асобы, якія вядуць

навуковую працу, таксама як і фотографічнымі колекцыямі і матар'яламі навуковага архіву. У найбольшай колькасьці сабраны тканіны і вышыўкі і сярод іх асабліва шмат ручнікоў і паясоў, што зьяўляецца зусім зразумелым з прычыны неабходнасьці мець поўныя колекцыі орнамэнту.

Заканчваючы кароткі агляд беларускіх колекцый музэю, неабходна зьвярнуць увагу на колекцыю Слуцкіх паясоў, якія, хоць і выходзяць за межы народнага быту і мастацтва ў строгім сэнсе слова, але шчыльна з імі зьвязаны. Колекцыя гэта сабрана ў розных мясцох—у Польшчы, Беларусі і Украіне. Яна мае каля 20 паясоў і цікава сваёю добраю захаванасьцю. На некаторых з паясоў вытканы ініцыялы і подпіс „vo Slucke“ ці проста „Sluck“.





М. Мялешка.

# Краязнаўства і архівы Беларусі.

Пры вывучэньні мінулага свайго краю, архівы зьяўляюцца найбагацейшымі і найпэўнейшымі крыніцамі. З гэтай прычыны лёс архіваў, а асабліва мясцовых, павінен цікавіць краязнаўчыя таварыствы, якія хочуць падняць заслону над гістарычным мінулым краю.

Зацікаўленасьць краязнаўчых таварystваў да архіваў можна разглядаць з трох пунктаў гледжаньня. Папершае, краязнаўцы зацікаўлены, каб усе архіўныя документы, якія адносяцца да іх раёну, былі адшуканы, сабраны і знаходзіліся на захове ў адпаведным архіве; падругое, каб паказаныя вышэй архіўныя документы знаходзіліся ў такім парадку, які даваў-бы магчымасьць выкарыстаньня архіваў: каб яны былі сыстэматызаваны, апісаны, складзены да іх паказчыкі, надрукаваны і да т. п. і, патрэцяе, каб краязнаўцы ведалі, у якім архіве ёсьць крыніцы, якія-б дазволілі распрацоўваць намечанае тое ці іншае пытаньне па гісторыі, экономіцы. культуры і інш.

Пытаньні гэтыя вельмі важныя, як для архівістых, у веданьні якіх знаходзяцца архіўныя матар'ялы, так і для краязнаўцаў, якія зараз імкнуцца па сьвежых архіўных крыніцах вывучаць гісторыю сваёй мясцовасьці. Між тым, сустракаюцца выпадкі, калі паміж краязнаўчымі таварыствамі і архівамі па гэтых пытаньнях бывае недагаворанасьць. Краязнаўцы лічаць, што ня іх справа зьбіраць документы для архіва, а архівісты кажуць, што іх службовая справа—упарадкаваньне архіваў, а не адшуканьне матар'ялаў для дасьледчыкаў. Вось тут у кароценькіх рысах мне і хацелася-б некалькі высьветліць гэтыя пытаньні.

Як вядома, закон аб архівах БССР не дапускае іншага месца заховы архіваў у акрузе, як толькі ў акруговым архіве. Некаторыя-ж краязнаўчыя таварыствы выказваюць жаданьне, каб сабраныя імі архіўныя документы пакідаць на захове ў раённым таварыстве.

Чаму Цэнтраархівам праводзіцца такая цэнтралізацыя архіўных документаў у акрузе і ці могуць заставацца на захове ў краязнаўчым таварыстве, якія-небудзь архівы? Усе архіўныя документы пасьля Кастрычніка сталі дзяржаўнай маемасьцю. Нават уласныя архівы, якія маюць гістарычную вартасьць, павінны быць на вучоце ў архіўных установах. Такая цэнтралізацыя архіваў мае пад сабой сталы грунт. Яна дае магчымасьць аб'яднаць распыленыя нашы архіўныя фонды, дае магчымасьць дасьледчыку па цікавым пытаньні мець поўны

збор докумэнтаў, якія становяцца даступнымі для гісторыкаў, краязнаўцаў усёй акругі і прытым архівы маюць пэўнае забясьпечанае месца для сваёй заховы.

Што-ж уяўлялі-б сабой архівы акругі раскіданыя часткамі па раённых таварыствах, па саўхозах, па цэрквах, касьцёлах і прыватных руках? Гэта былі-б невялічкія сабраньні адрывачных крыніц, часам можа „цікавыя“, якія-б былі вядомы толькі іх трымацелям, што з грамадзкага і навуковага погляду зьяўляецца недапусьцімым. Ніякая навукова-дасьледчая праца, нават для раёну, па гэтых архівах весьціся ня можа, таму што пытаньні, якія закранаюць гэтыя кавалачкі архіваў, высьвятляюцца паўней докумэнтамі акруговага і нават былога губэрскага архіву.

Пры раскіданасьці архіваў ня было-б ніякай магчымасьці ведаць, якія гістарычныя пытаньні можна разглядаць у акрузе і якія па мясцовых архівах. Ня можна скласьці ні паказчыкаў гэтых архіваў, ні згрупаваньня матар'ялаў для іх публікацыі з аднолькавымі докумэнтамі іншых месц і г. д.

Групаваць архівы ў краязнаўчым таварыстве, як музэйныя экспонаты нельга. Архіўныя докумэнты цікавы сваім зьместам, а ня выглядам. Здавалася-б ясна, што краязнаўцы павінны быць зацікаўлены, каб докумэнты на раёне былі як-мага шчыльней выяўлены, сабраны і зьмешчаны ў акруговы архіў, што дасьць магчымасьць поўнага ўсебаковага вывучэньня данага раёну краязнаўчымі таварыствамі. Краязнаўцы раёну стаяць бліжэй да раскіданых па раёне архіваў, чымсяархівістыя і дзеля гэтага маюць большую магчымасьць скарэй выявіць і сабраць архівы з усіх месц, дзе-б яны ні былі і каб докумэнты нашае гісторыі не загінулі. Калі краязнаўцы, узгодніўшы плян з акруговым архівам, правядуць працу па выяўленьні і зборы архіўных докумэнтаў, яны зробяць вялікую для вывучэньня нашае гісторыі справу. Краязнаўчыя таварыствы павінны прысьці на дапамогу архівістым, спасьці шматлікія докумэнты, якія зараз яшчэ знаходзяцца ня там, дзе ім трэба быць. Праводзячы такую працу, краязнаўчыя таварыствы ўбачаць усю выгаду для краязнаўцаў у згрупаваньні гістарычных докумэнтаў акругі ў адным месцы.

Сабраць архіўныя матар'ялы ў архівасховы, гэта значыць зрабіць першую справу, выратаваць докумэнты ад зьнішчэньня. За гэтым адбываецца тэхнічнае ўпарадкаваньне матар'ялаў: адлучэньне аднаго фонду ад другога, устаноўка на паліцы, высейваньне архіўнага хламу, інвэнтарызацыя і інш., якой працай зараз заняты архівістыя Беларусі. Але паколькі концэнтрацыю галоўнае масы архіваў зараз можна лічыць праведзенай і больш-менш, з некаторымі выключэньнямі, тэхнічна архівы ўпарадкаваны, паўстае пытаньне і аб навуковай распрацоўцы архіваў у бліжэйшы час. Гэта праца павінна выконвацца не адным архівістым, а нашымі агульнымі гістарычнымі сіламі. Навуковая распрацоўка архіваў—справа цяжкая, марудная, патрабуе ад выканаўцаў адпаведных ведаў і зацікаўленасьці самой справай. Уся гэтая праца павінна весьціся, мяркуючыся з нашымі навукова-культурнымі патрэбамі.

Навуковая распрацоўка беларускіх архіваў—справа ня новая. Распрацоўка праводзілася яшчэ ў дарэволюцыйны час. Але гэтая праца абмяжоўвалася архівамі старадаўнымі, да падзелу Рэчы Паспалітай.

Увага была зьвернута на публікацыю докумэнтаў, якія-б сьведчылі, што Беларусь была „ісконі“ руская, праваслаўная, каб гэтым адхіліць польскія тэндэнцы на Беларусі.

Нам гэтыя „довады“ спэцыяльна непатрэбны. Мы нашу архіўную працу ўвязваем з нашым савецкім будаўніцтвам, з нашым культурным ростам. У нашых архівасховах галоўная маса докумэнтаў адносіцца да XIX-XX ст. Таксама значная колькасьць матар'ялаў сабрана да часу пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Вось гэтыя архівы і павінны стаць об'ектам для вывучэньня ў першую чаргу. Мы, вядома, павінны ўлічыць праведзеную працу па распрацоўцы нашых архіваў пры царызьме, але іх шлях для нас не падыходзіць. Архіваў старадаўняга часу ў нас так мала, што яны мажліва па ўсёй БССР будуць сабраны і зьмешчаны ў адным месцы. Старадаўнія архівы распрацоўвае і друкуе зараз Інбелкульт.

Уявіўшы сабе мэту распрацоўкі архіўных докумэнтаў, значнасьць гэтай працы ў савецкім будаўніцтве, трэба будзе ўстанавіць і мэтоды працы. У Заходняй Эўропе распрацоўка архіваў перажыла некалькі відаў. Там спачатку за распрацоўку архіўнага матар'ялу ўзяліся аматарскія гурткі, пасьля быў да гэтай працы прыцягнуты масавы супрацоўнік. Аднак вытворчасьць іх была вельмі разнавідная і нізкая па якасьці. У выніку было прызнана найлепшым падобную працу весьці праз спэцыяльна для гэтага ўтвораныя гістарычныя камісіі, у якія павінны ўваходзіць высокакваліфікаваныя работнікі.

Распрацоўка архіўных матар'ялаў у нашых умовах павіннаісьці па двух напрамках: папершае, выяўленьне зьместу матар'ялаў, якія захоўваюцца ў архівасховах і, падругое, друкаваньне ў першую чаргу розных паказчыкаў і сьпісаў і ў далейшым саміх докумэнтаў. Гэтая праца на мясцох можа быць выканана толькі сумеснымі сіламі краязнаўцаў і архівістых. Як могуць прыняць удзел краязнаўцы ў гэтай працы, лепш за ўсе ўстанавіць на месцы.

Распрацоўка архіваў мясцовай значнасьці ў нас павінна стаць заданьнем нашых краязнаўцаў і акруговых архіваў. Дзяржава ня зможа ў бліжэйшыя гады адпусьціць сродкі на распрацоўку мясцовых архіваў, бо ў першую чаргу будзе зварочвацца ўвага на архівы агульна дзяржаўнай значнасьці. Уся гэтая праца ляжа на плечы мясцовых гісторыкаў і архівістых. У цэнтры павінны быць выпрацаваны ўдасканаленыя прыёмы працы, распрацован пэўны плян, каб вынікі працы мелі як-мага меней хібаў. На мясцох краязнаўцы павінны больш цікавіцца лёсам архіваў, не глядзець на архівы, як на нешта чужое, казённае, мала даступнае. На мясцох архівісты і краязнаўцы павінны шчыльней зьвязацца, аказваць адзін аднаму магчымую дапамогу, не прад'яўляючы запатрабаваньняў, якіх немагчыма выканаць. Трэба сумесна на месцы абгаварыць пытаньне і намеціць шлях да распрацоўкі архіўных докумэнтаў. Калі мы ня прыступім грамадзкімі сіламі да распрацоўкі нашых архіўных докумэнтаў, то вывучэньне нашае гісторыі XIX-XX стагодзьдзя будзе адсунута на доўгі час. Вось чаму на месцы трэба ўлічыць свае сілы, сродкі і ўтварыць адпаведныя ўмовы для распрацоўкі архіваў, каб архівы існавалі не для шчураў, а былі скарыстаны ў нашым будаўніцтве.

Што датычыцца выкарыстаньня архіўных докумэнтаў зараз, пры краязнаўчых досьледах, то праца гэтая мае вельмі шмат перашкод у

тым, што пакуль у архівах ня будзе выяўлены зьмест докумэнтаў, якія тут захоўваюцца, амаль што немагчыма дакладна ўказаць дасьледчыку, ці ёсьць патрэбныя яму даныя. У гэты час архівы БССР улічылі фонды, якіх прыблізна каля тысячы і інвэнтарызывалі каля паўмільёна спраў. Пакуль няма выдрукаваных ні опісаў, ні паказчыкаў і г. д. дасьледчыку прыходзіцца самому ў архівах па опісах вышукваць патрэбны матар'ял. Патрэбна як найхутчэйшае навуковае апісаньне архіваў і выдрукаваньне справачнікаў і важнейшых докумэнтаў. Як раней было зазначана, галоўная маса архіўных докумэнтаў у архівасховах БССР—офіцыйная перапіска ўрадавых установ XIX-XX ст. пры царызьме і справа Савецкіх установ пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Ёсьць некаторыя царкоўныя архівы, усадзьбовыя і інш. Пры патрэбе зараз тых ці іншых архіўных докумэнтаў лепш за ўсё зварачвацца ў адпаведны архіў за спраўкамі і ўказаньнямі. Калі будзе наладжана сумесная праца архіваў і краязнаўчых таварыстваў, тады ў значнай меры палепшыцца справа па адшуканьні краязнаўцам патрэбных матар'ялаў у архівах.

У бліжэйшыя часы гэтыя пытаньні неабходна паставіць на абгаварэньне; трэба знайсьці найлепшыя організацыйныя формы для сумеснай працы архіваў і краязнаўчых таварыстваў у галіне распрацоўкі нашае гісторыі і прыступіць да працы.

Праца гэта карысная і патрэбная для нашага будаўніцтва, для нашага культурнага ўзмацненьня.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

П. Стрыгуцкі, В. Самцэвіч.

## Шкляная гута імя „Домбаля“ ў Н.-Барысаве*).

### І. Месцапалажэньне і кароткая гісторыя заводу.

Шкляны завод імя „Домбаля“ знаходзіцца ў пасадзе Н.-Барысаў з правага боку ад шасы Барысаў—вакзал, у адлегласьці 1 клм. ад чыгуначнай станцыі Барысаў. Некалі (гадоў 20—25 таму назад) мясцовасьць каля гуты была пакрыта хваёвым лесам, а ў сучасны момант у значнай меры заселена; з левага боку ад шасы пабудованы „Рабочы гарадок“.

Пабудавана гута ў 1898 г. Менскім купцом Кабанавым. Для пабудовы былі досыць спрыяючыя ўмовы: добрыя шляхі зносін па чыгунцы і па р. Бярэзіна і выстарчаючая колькасьць лесу для апалу. Пабудова гуты каштавала каля 40 тысяч рубл. У першыя гады на гуце працавала 105 чал. (65 мужчын, 25 жанчын і 15 падлеткаў). Выраблялася выключна аркушнае шкло. Праца праводзілася ў дзьве зьмены па 12 гадз. Зарплата была 15—25 рубл. у месяц для дарослых і 5—10 рубл. для падлеткаў; выдача зарплаты рабочым адбывалася неакуратна; часамі рабочыя не атрымоўвалі запрацованай платы па 2-3 месяцы.

У 1899 годзе Кабанаў прадаў гуту віленскім фабрыкантам Краеўскаму і Панкевічу за 40 тыс. рубл. Вытворчасьць гуты паступова расьце, і лік рабочых к 1904 г. павялічваецца на 100 проц. Імпэрыялістычная вайна 1914--18 г. значна адбіласа на вытворчасьці гуты. Найбольш кваліфікаваныя рабочыя былі ўзяты ў армію і іх прышлося замяніць у значнай меры жанчынамі і падлеткамі. У 1915 г. гута здаецца ў арэнду купцу Маеўскаму, які пераабсталёўвае яе для вырабу алоўкаў і вайсковай зброі, але зброя чамусь не выраблялася. Выраблялiся алоўкі да 1917 г. У часы нямецкай окупацыі праца спынілася; у часы польскай окупацыі Краеўскі вывез у Польшчу ўсё абсталяваньне гуты.

З прыходам Савецкай улады распачалася праца гуты пры 80 ра-

*) Артыкул напісаны на падставе матар'ялаў праведзенай на гуту экскурсіі з курсантамі летніх настаўніцкіх курсаў у 1927 г. і матар'ялаў Барысаўскай Акруговай плянавай камісіі.

бочых пры амаль што зусім зьнішчаным і зношаным абсталяваньні. Выраблялася аркушнае шкло і дробная шкляная пасуда.

У 1923 г. гуту неведала група політэмігрантаў з тав. Домбалем, пасьля чаго гута стала звацца яго імем. Вытворчасьць гуты з кожным годам расьце, павялічваецца лік рабочых і зарплата. 1925 г. зьяўляецца гадам максымальных дасягненьняў на гуце. У сучасны момант гута працуе пры 850 рабочых у 3 і 4 зьмены. Выробляецца выключна шкляная пасуда.

## II. Рэволюцыйныя моманты.

Умовы жыцьця і працы рабочых гуты да 1905 г. былі цяжкія: як вышэй было зазначана, рабочы дзень быў ровен 12 гадз.; зарплата 15—25 рубл. у месяц выдавалася неакуратна. Клясавая сьвядомасьць рабочых была неаднолькавая: частка рабочых, бедната вёсак, была досыць цякучым элемэнтам на гуце і амаль што зусім ня мела клясавага выхаваньня, але на гуце ўжо была група (12 чал.) рабочых, якія ўваходзілі ў організацыю „Бунд“ і вялі належную працу сярод рабочых. 1-га жніўня 1905 г. рабочыя гуты прад'явілі трэбаваньне да ўласьніка гуты аб палепшаньні іх матар'яльнага становішча і аб'явілі забастоўку. Уласьнік гуты прымушаны быў згадзіцца на 6 проц. павышэньне зарплаты, але рабочыя патрабавалі выпаўненьня ўсіх іх патрабаваньняў (якіх—дакладна невядома). 4 жніўня забастоўка спынілася пасьля таго, як уласьнік гуты пайшоў на некаторыя ўступкі рабочым, а рабочыя ад некаторых запатрабаваньняў адмовіліся [1]. У сувязі з агульным ростам рабочага руху ў Барысаве [2] і рабочыя гуты прымаюць удзел у дэмонстрацыях (напр., 18 кастрычніка 1905 г.) і сходах пад кіраўніцтвам організацыі „Бунду“. У 1906 г. рабочыя гуты дабіваюцца палепшаньня свайго становішча і рабочы дзень каля ванны быў паменшаны да 10 гадз., а ў іншых аддзяленьнях да 9 гадз., зарплата павялічана на 10—15 проц. Пад кіраўніцтвам „Бунду“ на заводзе была праведзена чатырохдзённая забастоўка рабочых. Праца вялася і сярод вайсковых часьцей, якія былі ў Н.-Барысаве. Урэшце група ў 12 чал. найбольш актыўных рабочых была заарыштавана і прысуджана да турмы (ад 1 да 3 м-цаў). Цікава адзначыць што ўсе рабочыя па адбыцьці наказаньня зноў вярнуліся на свае месцы. 1907—1914 г. г. у гісторыі рабочых заводу праходзяць без усякіх выступленьняў. З пачаткам імпэрыялістычнай вайны найбольш кваліфікаваная і клясава сьвядомая частка рабочых, як ужо гаварылася, была ўзята на вайну; іх месцы на гуце занялі жанчыны і падлеткі з вёсак. Зразумела, што рабочы рух на гуце павінен быў у значнай меры спыніцца.

## III. Рабочая сіла і зарплата.

У першыя часы адчыненьня на гуце працавала 105 чал. (65 мужчын, жанчын 25, 15 падлеткаў), перад 1905 г. гэты лік павялічыўся проц.

[1]) Данясеньне Менскага губэрнатара Дэпарт. Паліцыі ад 9-VIII 1905 г. № 7146 („1905 г. у Беларусі“, зборнік архіўных докумэнтаў, Менск 1925 г.

[2]) В. Самцэвіч. Барысаў. (Рабочы рух. Барысаў у 1905 г.) „Наш край“ № 2 (17) 1927 год



на сто; у 1920 г. гута адчынілася пры 80 раб., а ў сучасны момант працуе 873 чал., з якіх рабочых 839 чал. і служачых 34. З агульнага ліку рабочых—мужчын 631 і жанчын 242, падлеткаў—158. Па цэхах рабочыя разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| Назва аддзяленьняў | Колькасьць рабочых |
|---|---|
| Гута . . . . . . | 443 чал. |
| Абрэзачная . . . . | 44 „ |
| Шліфовачная № 1 і 2 . | 206 „ |
| Гаспадарчых рабочых . | 137 „ |
| На складзе леса . . . | 15 „ |

У мінулым гадзе нацыянальны склад рабочых быў наступны:

| Нацыяльнасьць | Кваліфікаваныя | | Некваліфікаваныя | |
|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | Проц. | Колькасьць | Проц. |
| Беларус. . . | 32 | 25 | 460 | 84,4 |
| Палякаў . . | 25 | 20 | 30 | 5,5 |
| Яўрэяў . . | — | — | 42 | 7,6 |
| Расійцаў . . | 70 | 55 | 14 | 2,5 |
| | 127 | 100 | 546 | 100 |

Заработная плата ў дарэволюцыйная часы была досыць нізкая (20—30 р., за 12-гадзінны рабочы дзень). У сучасны момант рабочыя атрымоўваюць ад 1 р. 12 к. да 2 р. 62 кап. у дзень; сярэдні месячны заробак рабочага 52 р. 70 к.*) Усяго за май месяц выплачана рабочым 45.521 р. і служачым 3.964 р. Зарплата выдаецца памесячна і некаторым катэгорыям рабочых зьдзельна.

## IV. Умовы працы і ахова здароўя.

На гуце для рабочых, якія працуюць у ванным і састаўным аддзяленьнях, устаноўлены 6-гадзінны рабочы дзень, а для усіх іншых—8-гадзінны. На гуце рабочыя працуюць у 4 зьмены, у шліфовачным аддзяленьні ў 3 зьмены, абрэзачным—у 2 зьмены, у іншых у адну зьмену. Асабліва цяжкай зьяўляецца праца на гуце: рабочыя працуюць пры печах, дзе плавіцца маса пры 1.600° і пераносяць жару ў 30—40°: вельмі цяжкім і шкадлівым для лёгкіх зьяўляецца процэс выдуваньня пасуды з шкляной расплаўленай масы праз асобныя трубкі, з прычыны чаго 75—80 проц. рабочых гэтае спэцыяльнасьці

*) Лічбы паказаны за другі квартал 1926-27 году.

хварэюць на лёгкія. Адсюль выцякае неабходнасьць мэханізацыі гэтае справы. Пры рабоце ля печак патрэбна вялікая спрытнасьць, каб працуючы па некалькі чалавек пры аднэй печы, не перашкаджаць адзін аднаму і не абпаліць таварыша пры паваротах з гарачай масай і прадметамі ў стадыі іх апрацоўкі. Аднак-жа такія выпадкі сустракаюцца. У шліфовачным і абрэзачным аддзяленьнях бываюць здарэньні, калі дробныя кавалкі шкла пападаюць у вочы рабочым, хаця ім выдаюцца асобыя акуляры на час працы. Досыць шкадлівай зьяўляецца праца ў састаўным адзяленьні, дзе зьмешваюцца крэйда, пясок, сода, мыш'як, сульфат, фарбы (окс-снікер), паташ і дзе рабочым прыходзіцца ўдыхаць гэтыя матэрыі ў відзе пылу.

За апошні час зварочваецца досыць вялікая ўвага на палепшаньне санітарна-гігіенічных умоў працы на фабрыцы: ёсьць належная вэнтыляцыя, кіпячоная вада, рукамыйнікі, рушнікі, мыла. Пры гуце працуе амбуляторыя і зубалячэбны габінэт, якія аказваюць дапамогу рабочым і іх сем'ям. За сакавік м-ц амбуляторыю наведала 2.055 чал., за красавік—2.111 ч. і за май—2.524 чал. На 75 проц. рабочыя хварэюць ад розных няшчасных выпадкаў : раненьні шклом, апал (ожоги) і інш. Адпускоў у сярэднім выдавалася 8 чал. (1 проц.). За лета паслана на курорты 12 чал. і ў дом адпачынку 30 чал. Мэдыцынскі агляд робіцца пры прыёме на службу і адзін раз у год.

### V. Энэргія.

Гута абслугоўваецца паравым катлом сыстэмы Бітснэр і Гампэр (Варшава) сілай у 46 конскіх сіл пры ціску ў 6 атмосфэр. Кацёл працуе ўжо 23 гады і мае некаторыя дэфэкты (адна труба згарэла і забіта шпунтам). На апал катла ідзе 1,5 куб. саж. дроў у суткі. Парай гэтага катла прыводзяцца ў рух 2 машыны: у 40 і 6 конскіх сіл. Першая (большая) машына прыводзіць у рух 2 дынама-машыны ў 42 і 25 кілёват. Для абслугоўваньня гуты патрэбна толькі адна машына, а другая зьяўляецца запаснай на той выпадак, калі для першай патрэбны будзе рамонт. Дынама-машына прыводзіць у рух 11 электраматораў (сілай ад 0,75-13 конскіх сіл), якія абслугоўваюць станкі: у двух шлейфэрных аддзяленьнях ( 20.5 конскіх сіл), 2 абрэзачных (па абрэзцы графінаў—4 кон. с. і па абрэзцы шкляняк—2 кон. с,) вэнтылятары (6,3 і 1 кон. с.). Электрычны ток, апрача прыводу ў рух вышэйпамянёных электраматораў, дае асьвятленьне для гуты да 4.000 сьвечак.

Малая машына прыводзіць у рух 2 такарных станкі, 1 насос і наждачны камень.

### VI. Сыравіна.

Для вырабу пасуды патрэбна: белы кварцавы пясок, крэйда, сульфат, сода, паташ, сялітра, мыш'як. Сульфат, пясок, сода і крэйда дастаўляюцца аддзяленьнем забясьпечаньня шклянога трэсту (у Менску) з РСФСР, паташ—з Каўказу, сялітра і мыш'як—з Нямеччыны. Сыравіна дастаўляецца па чыгунцы да ст. Барысаў, а потым на фурманках на гуту. Запасы пяску захоўваюцца на двары, а ўсе іншыя запасы пад павецьцю (сульфат і паташ у бочках, сода ў мяшкох).

Расход сыравіны за II квартал быў наступны (у кілёгр.):

| Назва сыравіны | Студзень | люты | Сакавік | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Сульфат . . . . . | 2040 | 2720 | 2666 | 7426 |
| Крэйда . . . . . | 16520 | 22113 | 21677 | 60411 |
| Кварцавы пясок . . | 134200 | 179208 | 166100 | 479508 |
| Сода . . . . . | 20400 | 27400 | 26700 | 74500 |
| Паташ . . . . . | 10200 | 33600 | 33300 | 37100 |

Дроў разыходзіцца па 10 куб. саж. у суткі. Сыравінай гута забясьпечана.

## VII. Процэс вытворчасьці.

*Састаўное аддзяленьне*. У гэтым аддзяленьні састаўляецца маса для выплаўкі і вырабу шкла. Маса складаецца з наступных матэрый: чыстага белага кварцавага пяску (200 клгр.). соды (40 клгр.), крэйды (30 клгр.), паташу (20 клгр.), сялітры (6 клгр.), сульфату (4 клгр.), мыш'яку (1 клгр.) і фарбы окс-снікер (0,250 клгр.). Уся гэтая маса перамалваецца двума „бягунамі" і зьяўляецца ўжо гатовай для паступленьня ў ванну.

*Гута*. Прыгатаваная ў састаўным аддзяленьні маса з прымешкаю лому шкла паступае ў ванну, якая пабудована з пліт агнятрывалай гліны, таўшчынёй у 0,35 мэтр. Ванна награваецца газам наступным чынам: на дварэ гуты ёсьць асобная печ-топка, куды праз кожныя паўгадзіны кладуцца дровы; дровы гэтыя ў закрытай топцы толькі тлеюць, ад чаго атрымоўваецца гарачы газ, які па асобных ходах пападае пад ванну і награвае масу ў ёй да 1.500°. Усяго закладваецца ў ванну 8.000 пуд. масы, а шкла выходзіць 4.000 пуд., бо частка масы выгарае, частка ідзе ў лом. Маса закладваецца ў ванну праз кожныя паўгадзіны па 20 пуд. Каб расплаўленая маса не выцякала праз шчыліны ў дне ванны, пад дно яе [ванны] прапускаецца халоднае паветра пры дапамозе вэнтылятара, ад чаго ніжні слой масы ў ванне [да 4-5 см.] застаецца у застыўшым стане і не дае магчымасьці выцякаць расплаўленай масе.

У ванне ёсьць 13 вакон, праз якія рабочыя асобымі трубачкамі бяруць масу з ванны. На гуце вырабляюцца: графіны, вазы, стаканы, чаркі, лямпавыя шклы, цукерніцы і інш. Праца ідзе у 4 зьмены па 115 чал. Вось, напр., процэс вырабу шклянкі [стакана]: рабочы набірае трубкай расплаўленую масу, выдувае банку і перадае яе другому рабочаму—наборшчыку, які яшчэ дабірае масы і ўкатвае шкло ў драўлянай посудзіне з вадой, пасьля чаго перадае гэтае шкло трэцяму—майстру. Майстар выдувае шклянку ў „капе" [драўлянай форме] і перадае шклянку ў чацьвертыя рукі, шклянка загладжваецца і перадаецца далей у закалку пры моцным агні на паўгадзіны. Потым шклянка прасушваецца ў асобнай печцы да 6 гадзін.

Аналёгічным спосабам адбываецца процэс вырабу і іншых рэчаў. Некаторыя рэчы, як, напр., чаркі, гранёныя шклянкі вырабляюцца паўмэханічным спосабам, пры дапамозе прэса: набіральшчык набірае масу і перадае майстру ў прэс-форму, адкуль рэч перадаецца грэльшчыку, які яе награвае, загладжвае грані і перадае ў закальную печ. Такіх печаў ёсьць дзьве.

*Абрэзачнае аддзяленьне № 1.* У аддзяленьні рэчы, якія выходзяць з гуты, надразаюцца пры дапамозе дыямэнту, а потым гэтыя рэчы ўстаўляюцца ў асобныя гнёзды драўляных колаў і пры іх кручэньні струмень агню ад лямпы праходзіць па лініі надрэзаў, пасьля чаго непатрэбная частка зьнімаецца ад выробленай рэчы па лініі надрэза. На станку працуе 3 чал.: рэжчык, падавальшчык і зьнімальшчык. З абрэзачнага аддзяленьня рэчы ідуць у шліфовачную, а брак і няпрыгодныя часткі паступаюць у ванну для пераплаўленьня.

*Абрэзачнае аддзяленьне № 2* мае 10 станкоў (2 мэханічных і 1 ручны абразацель лямпавага шкла, 1 аўтомат—абразацель, 4 затопачных і 2 шліфовачных), якія прыводзяцца ў рух электраматорам сілаю ў 9 конскіх сіл.

Для абрэзкі шклянак ёсьць аўтомат (пастаўлены ў г. г.). Процэс абрэзкі аналёгічны процэсу ў аддзяленьні № 1, толькі замест паасобных гнёзд для ўстаноўкі рэчаў тут ёсьць аўтомат з некалькімі гнёздамі, што патрабуе толькі 2 рабочых (замест 3), павялічвае вытворчасьць, памяншае брак. Праца ідзе ў 3 зьмены, выраб у адну зьмену 8.000 шклянак.

Абрэзка лямпавага шкла робіцца 2 мэханічнымі і 1 ручным абразацелямі. Процэс абрэзкі адрозьніваецца ад абрэзкі шклянак аўтоматам толькі тым, што надрэз дыямэнтам робіцца ня рукамі, а машынай. Выработка адным абразацелем дасягае 1.000 шт. у дзень. У ручным абразацелі абрэзка робіцца рукамі аб наждачны камень; выработка—8.000 шт. у дзень.

*Затопачнае аддзяленьне.* Пасьля абрэзкі лямпавыя цыліндры цаступаюць на „затопачныя“ станкі для адшліфоўкі, „затопкі“ верхніх канцоў шкла. Цыліндры ставяцца на кола, якое праходзіць праз бэнзынавы агонь і, гэткім чынам, верхнія канцы цыліндраў „затапліваюцца“. У аддзяленьні працуе 4 затопачных станкі, а пры кожным станку па 2 рабочых. Вырабка кожнага станка каля 6.000 шт. у дзень. Праца ідзе ў 3 зьмены.

Пасьля шліфоўкі (на камені з пяском) лямпавае шкло паступае ў *пячатнае аддзяленьне,* дзе на кожнае шкло ставіцца фабрычная пячатка (штамп). Выразаны з гумы штамп кожны раз пакрываецца асобным маслам і накладаецца на шкло; месца штампу пасыпаецца мядзяным пылам, пасьля чаго на шкле застаецца моцны адбітак пячаткі. У аддзяленьні працуе 4 рабочых: 1 пячатніца і 3 памочніцы. Праца ідзе ў 2 зьмены. Ва ўсіх аддзяленьнях выдаецца належная спэцвопратка.

У *райбовачным аддзяленьні* шкляныя заткі даганяюцца ў горлышкі графінаў. Затка ўстаўляецца ў драўляную форму, якая надзяваецца на валік райбовачнага станка; станок прыводзіцца ў рух пры дапамозе электраматора. У горлышка графіна кладзецца мокры пясок і графін горлышкам надзяваецца на затку. Пры кручэньні станка затка дага-

няецца да горлышка графіна. Праца машынная ў 2 зьмены па 3 чал. (майстар і 2 памоцнікі). Выраб коля 8.000 шт. у дзень.

У *шліфовачным аддзяленьні* ёсьць станкі: чайбачныя (30), займовачныя (6) і углеркі (28), якія прыводзяцца ў рух электраматорам пры дапамозе трансмісіі. На чайбачных станкох шліфуюцца дно і верх пасуды на асобных камнях, пасыпаных пяском. На займовачных станкох загладжваюцца шарахаватасьці ў сярэдзіне каля краёў пасуды. На углерках (станкох) вырабляюцца шліфоўкай розныя малюнкі на паверхні пасуды. Усяго ў аддзяленьні працуе 160 чал. у 3 зьмены. У памяшканьні досыць сыра і брудна.

Пасьля шліфоўкі пасуда паступае ў сартыравальнае аддзяленьне, дзе сартуецца паводле гатункаў і якасьці і потым ідзе ў упаковачнае аддзяленьне.

*У ўпаковачным аддзяленьні* пасуда, як цукерніцы, лямпавае шкло, сподкі—абкручваюць паперай, зьвязваюць у пачкі і абкручваюць саломай; шклянкі і чаркі абкручваюцца толькі саломай і складаюцца ў скрынкі паасобна кожныя рэчы, колькасьцю ад 300 да 500 шт. Упакоўка робіцца амаль што выключна жанчынамі. Праца ручная ў адну зьмену.

*Такарна-модэльнае аддзяленьне.* У аддзяленьні ёсць адзін такарны станок, які прыводзіцца ў рух электраматорам у 2 конскіх сілы. На станку выробляюцца драўляныя формы для адліўкі ўсіх відаў шкляной пасуды: графінаў, ваз, шклянак і г. д. Найлепшым матар'ялам для форм зьяўляюцца: драўніна грушы, яблыні і наогул неслаістыя пароды дрэў. У аддзяленьні працуе майстар і практыкант у адну зьмену. Продукцыя вытворчасьці ў дзень: 30 форм для графінаў альбо 60 для шклянак ці 100 для чарак.

*Ганчарнае аддзяленьне.* У асобным памяшканьні на двары ёсьць ганчарнае аддзяленьне, дзе з агнятрывалай гліны выробляюцца брусы для дна і сьценак ванны на гуце. Гліна ўжываецца наступных гатункаў: часаярская, варонеская, кашырская. Найлепшай лічыцца кашырская гліна. Процэс апрацоўкі складаецца з наступных момантаў: гліна перабіраецца. аддзяляюцца прымесі; перабраная гліна мелецца на „бягунох" (прыводзяцца ў рух канём), потым прасяваецца і атрымліваецца т. зв. сырэц. Гэты сырэц потым насыпаецца ў спэцыяльную печ і перапальваецца; атрыманая „калёнка" зноў перамалваецца, прасяваецца; да гэтае „парашковае калёнкі" дабаўляецца сырэц, заліваецца вадой у скрынцы і разьмякае 2 дні, пасьля чаго маса разоў 12 перамешваецца, кладзецца ў асобныя формы рознай велічыні. Вынутыя з формы брусы кладуцца ў асобныя горны для пракальваньня. Такія агнятрывалыя брусы вытрымліваюць тэмпэратуру 1.500-2.000°. У аддзяленьні працуе 11 чалавек у адну зьмену. Праца глінамялаў досыць цяжкая, часта яны хвараюць на рэўматызм, бо ім прыходзіцца мясіць гліны голымі нагамі ў сьцюдзёную пору, нават узімку. Працу ў ганчарні магчыма мэханізаваць.

*Слясарнае аддзяленьне* мае 2 такарных станкі для вытачваньня розных дробных частак машын, 4 станкі для сьлясарных работ і 2 станкі для сьвярдленьня дзірак. У аддзяленьні працуе 13 чал. (10 сьлесароў і 3 такары). З недахопаў трэба адзначыць адсутнасьць належнае вэнтыляцыі, што асабліва адчуваецца ўзімку.

Пры гуце ёсьць *кузьня* з 2 горнамі, якая абслугоўвае ўсе патрэбы фабрыкі. Працуе 6 чалавек.

### VIII. Продукцыя вытворчасьці.

Продукцыя вытворчасьці характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Кварт. | 1925-26 г. у рубл. | 1926-27 г. у рубл. | За другі кварт. 1927 г. Назва прадметаў | Кольк. у тонах | Сабекаштоўн. у рубл. |
|---|---|---|---|---|---|
| I . . | 133880 | — | Сталовай пасуды . . | 179 | 157608 |
| II . . | 295470 | 293399 | Сартовай . . . . . | 134 | 58271 |
| III . . | 323071 | — | Лямпавае шкло . . . | 118 | 75794 |
| IV . . | 146878 | — | Лямпачных прылад. . | 4 | 1726 |
| | 899299 | | | | 293399 |

З табліцы можна бачыць вялікае паніжэньне вытворчасьці ў чацьвертым квартале 1925-26 г. Тлумачыцца гэта тэхнічнымі няспраўнасьцямі генэратарных каналаў, якія прапускалі ўгарны газ. Ліпнёўская сьпека і недахоп вэнтыляцыі таксама ў значнай меры перашкаджала нормальнай вытворчасьці працы. У жніўні і верасьні месяцы вялікая ванна рамантавалася. Прычынай нявыстарчаючай вытворчасьці зьяўляўся і недахоп кваліфікаваных рабочых, якія не згаджаліся ехаць у Барысаў з прычыны кватэрнага крызісу.

Вытворчая праграма прадугледжвала ў 1925—27 г. выраб на суму 1.440.000 руб. (павялічэньне на 6 проц. у параўнаньні з мінулым годам). Вытворчая праграма ў першыя два кварталы выконвалася на 72 проц. Продукты вытворчасьці па чыгунцы адпраўляюцца ў розныя канцы СССР (галоўным чынам на поўдзень) паводле нарад шклянога трэсту. Якасьць продукцыі лічыцца здавальняючай.

### IX. Кіраўніцтва гутай.

Шкляная гута „Домбаля“ ўваходзіць у Беларускі шкляны трэст („Белшклотрэст“) і зьяўляецца вытворчай адзінкай трэсту на ўласным гаспадарчым разрахунку. Трэст забясьпечвае гуту сыравінай і дае вытворчыя пляны, а гута здае гатовую продукцыю вытворчасьці трэсту. На чале прадпрыемства стаіць кіраўнік яго, які прызначаецца трэстам па згодзе з Ц.П. саюзу хімікаў. Кіраўнік нясе адказнасьць за ўсё становішча прадпрыемства, сочыць за разьвіцьцём і палепшаньнем вытворчасьці, робіць справаздачы перад трэстам.

### X. Склад і організацыя рабочых.

З агульнага ліку рабочых (839 чал.) на гуце сябрамі саюзу хімікаў зьяўляюцца 822 чал., якія падзяляюцца такім чынам: муж. 525 чал., жанчын 193 і падлеткаў—104; па нацыянальнасьці:

| Беларусаў | Яўрэяў | Расійцаў | Палякаў | Украінцаў | Латыш. | Інш. | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 549 | 106 | 73 | 72 | 7 | 4 | 11 | 822 |

Па партыйнасьці:

| Членаў і канд. | КПБ(б) ЛКСМБ | Непартыйн. |
|---|---|---|
| 61 | 104 | 657 |

Завком [складаецца з 11 членаў і 4 кандыдатаў] клапоціцца аб палепшаньні ўмоў жыцьця і працы рабочых, абараняе іх інтарэсы перад адміністрацыяй і разам з тым прымае належныя меры да павышэньня і палепшаньня продукцыі гуты. Пасяджэньні завкому адбываюцца штотыдзень; два разы ў месяц адбываюцца сходы дэлегатаў ад усіх цэхаў з мэтай азнаямленьня шырокіх мас рабочых з працай завкому і для высьвятленьня прынцыповых пытаньняў саюзнай працы. Адзін раз у месяц адбываюцца агульныя саюзныя сходы, на якіх заслухоўваюцца даклады і справаздачы завкому. Праца завкому пастаўлена досыць добра, і завком карыстаецца аўторытэтам сярод рабочых і адміністрацыі.

Сваю непасрэдную працу сярод членаў саюзу завком вядзе праз камісіі: РКК, аховы працы, культасьветную, вытворчую камісію і вытворчыя нарады, ёсьць каса ўзаемадапамогі.

У досыць кароткі час камісія па ахове працы дабілася правядзеньня ніжэйнаступных мерапрыемстваў: 1) пабудовы цэмантавай падлогі ва ўсіх цэхах на гуце; 2) установкі спэцыяльных прыбораў для зьнішчэньня дыму; 3) пабудовы шафаў для адзеньня рабочых; 4) установкі ўмывальнікаў і душа; 5) сваечасовай выдачы спэцвопраткі і наладжаньня належных гігіенічных умоў працы.

Каса ўзаемадапамогі на 1-X-1926 г. налічвала 280 сяброў, а на 1-VII-1927 г.—173 (20,5 проц. агульнага ліку рабочых і служачых) з капіталам у суме 1366 руб. Памяншэньне ліку сяброў тлумачыцца тым, што некаторыя з іх вельмі няўважліва і нядбайна адносіліся да абавязкаў сяброў касы (несваячасова альбо і зусім не зварочвалі атрыманай пазыкі і інш.), з прычыны чаго адбылася рэорганізацыя касы. Апрача таго, служачыя і рабочыя вышэйшай кваліфікацыі, якія атрымоўваюць большую зарплату, неахвотна ўступаюць у касу ўзаемадапамогі. За паўгодзьдзе (студз.—чэрв. 1927 г.) выдана 74 пазыкі на суму 1566 руб.; беззваротных дапамог не выдавалася.

У мэтах падняцьця вытворчасьці і палепшаньня якасьці продукцыі склікаюцца раз у паўтара месяцы вытворчыя нарады, падрыхтоўчую працу для якіх праводзіць вытворчая камісія (працуе 2 разы ў месяц). Праз вытворчую камісію і нарады праведзены ніжэйнаступныя мерапрыемствы: а) выпраўлены штаты і ўрэгулявана зарплата рабочым розных катэгорый; б) ліквідаваны частыя гарачыя рамонты ванны і пачалі ўжываць асобы агнятрывалы матар‘ял для ванны; в) дасягнута памяншэньне бою пасуды да 15 проц. у той час як раней бой даходзіў да 30 проц.

Камісія працуе над вырашэньнем наступных пытаньняў:

а) зьмяншэньня да мінімуму боя шкла,

в) зьніжэньня цэн на продукты вытворчасьці,

с) рэгуляваньня зарплаты і перагляд штатаў.

Рабочыя прымаюць самы актыўны ўдзел у працы вытворчых

нарад і дапамагаюць вырашэньню пытаньняў падняцьця вытворчасьці і палепшаньня працы рабочых.

### XI. Бытавыя рысы.

Рысы новага быту ў жыцьцё рабочых прасачваюцца вельмі памалу з прычыны досыць нізкага культурнага ўзроўню рабочых (ёсьць 71 чал. няпісьменных і шмат малапісьменных), неаднолькавага рабочага стажу і нявыстарчаючага пролетарскага і культурнага выхаваньня і інш. Маюць месца яшчэ рэлігійныя сьвяткаваньні, хрысьціны, наведваньне царквы ці касьцёлу. Праявы грубасьці, лаянкі, а то і пабоі маюць месца як у ўзаемаадносінах рабочых паміж сабой, так і ў сем'ях. Аднак-жа трэба сказаць, што за апошнія часы ёсьць і значныя дасягненьні ў палепшаньні таварыскіх і сямейных узаемаадносін.

Па жаданьні рабочых пры гуце ЦРК адчынена сталоўка, якой карыстаецца значная колькасьць рабочых і служачых. Абед для рабочых каштуе 35 кап.

### XII. Культасьветная праца.

Пры гуце ёсьць наступныя грамадзкія організацыі: „Мопр'а, ОСО Авіяхіму, шэфскае т-ва (шэфствуе над Забашавіцкім сельсаветам Барысаўск. р.). Значны ўдзел у гэтых організацыях прымаюць комсамольцы.

У чырвоным кутку праводзіцца масавая і гуртковая праца. Гурткі наступныя: політычны, вайсковы, спортыўны, драматычны. У летні час працавалі толькі спортыўны ды вайсковы гурткі.

Бібліотэка адчынена толькі нядаўна і налічвае каля 1.500 экз. кніг. Праца наладжана ня зусім здавальняюча. У куток выпісваюцца газэты: „Известия ЦИК СССР", „Правда", „Звезда", „Савецкая Беларусь", „Комсомольская правда", „Рабочая газета" і інш. Выпускаецца насьценная газэта. Ёсьць гурток рабкораў у 60 чал., але актыўна працуе чалавек 30.

Няпісьменных на гуце налічваецца 71 чал. Зімой працаваў лікпункт, які скончыла 18 чал., частка рабочай моладзі вучыцца ў рабочай школе ў Н.-Барысаве. Пры гуце працуе дзіцячая пляцоўка (на 50 дзяцей).

Наогул-жа культасьветную працу сярод рабчых неабходна значна пашырыць і паглыбіць.

На бліжэйшы час намечана правядзеньне наступных мерапрыемстваў для падняцьця вытворчасьці і правядзеньня рэжыму экономіі:

1) памяншэньне бою шкла;
2) экономія паліва і памяншэньне расходу электрычнай энэргіі;
3) пракладка вузкакалейкі для падачы апалу;
4) нарыхтаваньне мэханічнай расьпілоўкі дроў.

**У. Уладзіміраў.**

# Лекавыя расьліны ў народнай мэдыцыне Барысаўскае акругі.

*(Матар'ялы сабраны вучнямі школьн.-краязнаўч. гуртку 7-ае Нова-Барысаўскае сямігодкі. Апрацаваны У. Уладзіміравым).*

## I. Ад Мэдычна-Санітарнага Консультацыйнага бюро ЦБК.

Паданы ніжэй артыкул аб лекавых расьлінах Барысаўскае акругі трэба лічыць толькі матар'ялам для сталых навуковых досьледаў у галіне народнае мэдыцыны на Беларусі, і для ўкладаньня сталага дакладнага атлясу лекавых зёлак, якія дзіка растуць па лясох, балотах і палёх нашага краю.

Што-што, а вывучэньне нашае рэспублікі з боку мэдыка-санітарнага яшчэ толькі пачынае нараджацца. Распачала гэтае вывучэньне Мэдычная сэкцыя Інбелкульту. У шэрагу іншых заданьняў, якія паставіла перад сабой Мэдсэкцыя, былі таксама—досьледы ў галіне народнае мэдыцыны і зьбіраньне і вывучэньне лекавых расьлін у сэнсе ўжываньня іх у народнай мэдыцыне і ў сэнсе перспэктыў зьбіраньня дзіка-растучых і разьвядзеньня найбольш рэнтабельных гатункаў гэтых расьлін як для мэтаў экспорту, так і ўласнага ўжытку.

Дактароў і наогул мэдпрацаўнікоў, якія-б пачалі краязнаўчую працу ў мэдычным напрамку, пакуль што зусім няма і таму кожную работу ў гэтай галіне трэба вітаць, хаця-б яна і была сырым, мала апрацаваным матар'ялам.

У даным выпадку асабліва важным і цэнным зьяўляецца той факт, што працай гэтай зацікавіліся вучні краязнаўчага школьнага гуртка. Факт гэты сьведчыць аб тым, што краязнаўчая праца расьце і пачынае захапляць усе бакі нашага жыцьця. А падругое, ён сьведчыць аб тым, што падышоў ужо час для ўсебаковага мэдыка-санітарнага вывучэньня Беларусі і павінен быць навуковы мэдычна-краязнаўчы цэнтр, які-б плянаваў гэтае вывучэньне, кіраваў ім, трымаў сувязь з мясцовымі краязнаўчымі сіламі і г. д.

Пры сучаснай беднасьці літаратуры (гл. далей) аб лекавых зёлках і спосабах іх ужываньня на Беларусі даная невялічкая работа зьяўляецца каштоўным укладам. Каштоўна яна таму, што ў ёй ёсьць указаньні на крыніцы, адкуль узяты назвы і спосабы ўжываньня кожнае расьліны, адзначана імя і прозьвішча зьбіральніка, месца, дзе зьбіраліся матар'ялы і, урэшце, імя і прозьвішча,ад каго зьбіральнік сабраў даныя.

Крыху аб самых матар'ялах. Трэба адзначыць, што лацінскія назвы расьлін не заўсёды адпавядаюць лацінскім назвам гэтых-жа расьлін у іншых літаратурных крыніцах. Прыклады: 1) „касталому"—адпавядае лацінская назва Gallium Molliogo L. (сям. Rubinaceae—марэных); у кнізе д-ра мэд. А. Краскоўскага („Аб чалавечым целе здаровым, хворым і спосабах яго лячэбнай самаабароны", Вільня, 1924 г.) паказаны дзьве расьліны—адна пад назваю „касьцілом"—Artemisia campestris, другая пад назваю „касталом" Cynoglossum officinale L. Магчыма, што народная мэдыцына ўжывае ўсе тры расьліны пры лячэньні ламоты ў касьцях (раўматызму?) 2) „сардэчніку" адпавядае лац. назва Cardamine pratensis L. (сям. Cruciferae), а ў Краскоўскага ёсьць два „сардэчніка"—адзін пад назваю Erythraea centaurium L., а другі пад назвай Parnassia palustris L. Адзначым яшчэ, што на лацінскую назву Erythraea centaurium у ніжэйпаданай працы ёсьць асобная расьліна з беларускай назвай „цантаўра" і гэтак далей. Словам, тут мабыць ёсьць нейкая блытаніна, якую давядзецца разьвязваць таму, хто будзе пісаць спэцыяльны досьлед.

Літаратура аб лекавых расьлінах на Беларусі:

1. *Д-р мэд. Ант. Краскоўскі. „Аб чалавечым целе здаровым, хворым і спосабах яго лячэбнай самаабароны.* Вільня, 1924 г. (Разьдзел IV, ад стар. 52 да 95). Апісана 142 расьліны; даны назвы беларускія, лацінскія і расійскія; адзначана ад якой хваробы ўжываецца і ў якім выглядзе; даецца морфолёгічнае апісаньне расьліны і месцы, дзе яна расьце.

2. *D-r Kraskowski. Biełaruskija lakarskija ziołki.* Wydanię „Krynicy". Wilnia—1921. Апісана 53 расьліны.

3. *А. А. Антонов. О врачебныхъ растенияхъ, дико растущихъ въ Витебской губерніи, и употребляемыхъ населениемъ ея въ домашней народной медицинѣ.* Витебскъ—1888 г.

Апісана 112 расьлін. Назвы даны беларускія, лацінскія і расійскія. Дано апісаньне знадворнага выгляду расьлін, кветак, распаўсюджаньня і г. д.

4. *Крейер Г. К. Исследовательская работа Могилевской опытной станции лекарственных растений за 1921—25 г. г.* Изд. „Серп и Молот". Могилев—1926 г.

*Доктар І. Цьвікевіч.*

II.

На тэрыторыі Барысаўскае акругі да гэтага часу насельніцтва шырака карыстаецца дапамогай так званай народнай мэдыцыны. Народны „лекар" часта яшчэ мае значную популярнасьць ня толькі сярод насельніцтва свайго пункту, ці ваколіцы, але досыць далёка за межамі іх. Такое зьявішча тлумачыцца рознымі прычынамі. Як на першую з такіх—можна паказаць на нізкі культурны ўзровень самага насельніцтва, сярод якога захаваліся ўсялякія забабоны, павер'і, „калдоўствы", анімізм. Беларус-селянін часта яшчэ глядзіць на прыроду, як на нешта загадковае, жывое, з чым звычайны доктар ня зладзіць, дзе патрэбен чалавек які знаецца з гэтымі „добрымі і нядобрымі сіламі". Многа ёсьць і такіх хвароб, аб якіх беларус ня хоча сказаць доктару толькі таму, што саромяецца аб іх казаць. Асабліва жанчыны.

Нельга цалкам адмаўляцца ад таго, што ніжэйпаказаныя расьліны маюць лекавае значэньне, але заўважана, што многа расьлін у розных мясцовасьцях даюцца ад неаднальковых хвароб, не дадаецца ніякая дыета пры ўжываньні лекавых расьлін, у большасьці ўжываецца разам уся расьліна: і кветка, і лісьце, і сьцябло, і корань; ужываецца расьліна часта ў залежнасьці ад фазы месяца луны): чаго, напрыклад, нельга прымаць у першую квадру, тое можна—у маладзік і наадварот.

Асобы, якія займаюцца народнай мэдыцынай, захоўваюць свае веды ў сакрэце. Гэта яны тлумачаць тым, што, калі расказаць усякаму, хто цікавіцца, то лячэньне ня будзе мець сваёй сілы. Асабліва, калі хто не паверыць у моц самога лячэньня.

Расьліны, якія ўжываюцца ў народнай мэдыцыне, загатаўляюцца без асаблівых спосабаў. Засушваюцца проста ў пучкох на сьвежым паветры, або падтыкаюцца пад страху, часта нават у адным пучку, або торбачцы, разнальковыя расьліны.

*Паўлавец Міхась, вучань 5 клясы, сабраў даныя ў вёсцы Меччы таго-ж с/с Барысаўскага раёну ў Ганны Галдукевіч, 90 год.*

Solidago Virga aurea (сям. Compositae—складанакветных).

**Прыкідзь**. Ужываецца ад прыкідзі болек. Сьцябло, лісьцё, кветкі высушваюцца і сьціраюцца ў парашок, якім прысыпаецца незажываючая ранка. Павінна засохнуць.

Veronica officinalis L. (сям. Scrophulariaceae—норычнікавых).

**Расходнік**. Ужываецца ад залатухі. Парацы цэлую высушаную расьліну і п'юць адвар.

Vaccinium Vitis idáea L. (сям. Vacciniáceae—брусьнічных). Ужываецца **брусьнічнік** ад кашлю. Параць і п'юць адвар.

Fragaria vėsca L. (сям. Rosaceae—ружакветных).

**Сунічнік**. Ужываецца ад прастуды. П'юць навар.

Lėdum palustre (сям. Ericaceae—верасковых).

**Багун**. Ужываецца ад болю ў грудзёх. П'юць адвар. Даюць таксама коням ад кашлю. Сякуць і даюць з аўсом. Падкурваюць кароў, „каб ведзьма не адняла малака".

*Грук Рыгор, вуч. 5 клясы, сабраў веды ў вёсцы Зялёная Дуброва Мётчанскага с/с Барысаўскае акругі.*

Galium Molligo L. (сям. Rubiáceae—марэных).

**Касталом**. Ужываюць ад касталому, або ламоты ў касьцёх. П'юць адвар і яшчэ ўмываюцца ім.

Matricària snaveolens Buchen (сям. Compositae—складанакветн.).

**Садавы рамонак**. Ужываецца адвар пры затрыманьні радоў.

Viola tricolor L. (сям. Violaceae—фіялкавых).

**Дзівабраткі**. Адвар ужываецца ад болю ў грудзёх.

Hipericum perforatum L. (сям. Guttiferae—зьверабойных).

**Сьвятаяня.** Адвар ужываецца ад крывавага паносу.

Aretostaphylos Uva ursi Spr. (сям. Ericaceae—верасковых).

**Мачан.** Адвар ужываецца ад малакроўя.

Potentilla argentea L. (сям. Rosaceae—ружакветных).

**Дуброўка**. Ужываецца адвар ад залатухі. Акрамя адвару для піцьця яшчэ адварам умываюцца. Ужываецца яшчэ ад парушэньня.

Helichrysum arenarium DC (сям. Compositae—складанакветн.).
**Жоўты цьмян**. Ужываецца адвар для піцьця.

*Эйсмонт Язэп, вуч. 5 кл., сабраў веды ад некалькіх асоб у пасадзе Н.-Барысаў.*

Anthyllis Vulneraria L. (сям. Leguminosae—бабовых).
**Піралёт**. Ужываецца ад перапалоху. Сабраны ў момант цьвіценьня і высушаны кладзецца на гарачыя вугольлі і дымам тры разы ў дзень абквурваецца хворы.

Avena sativa L. (сям. Gramineae—злакаў).
**Насеньне аўсу**. Адвар ужываецца ад кашлю.

Rubus idaéus L. (сям. Rosaceae—ружакветных).
**Маліньнік**. Адвар ягад і сьцябла ўжываецца ад кашлю.

Pinus silvestris L. (сям Abietaceae—яловых).
**Сасновыя пупышкі**. Сабраныя ў сакавіку або красавіку ў сушаным відзе заварваюцца і тры разы ў дзень па шклянцы даюцца хвораму сухотамі.

Allium Cepo L. (сям. Liliaceae—лілейных).
**Цыбуля**. Вырэзваюць пласток, падпякаюць над агнём і прыкладаюць да болькі.

Picea excelsa L. (сям. Abietaceae—яловых).
**Яловая смала** разаграецца і прыкладаецца да болькі.

*Крыжаноўская Ірына, вуч. 6 кл., сабрала веды ў саўх. Палялеўцы Забашаўскага с/с. Барыс. раёну ад Тацяны Грымовіч.*

Mentha piperita L. (сям. Labiatae—губакветных).
**Мята**. Лісьцё заварваецца і тры разы ў дзень па шклянцы даецца піць ад паносу. Гушча прыкладваецца да жывата.

Viburnum Opulus L. (сям. Caprifoliáceae—жымаласных).
**Каліна**. Адвар ягад, сабраных у верасьні, даецца два разы ў дзень па шклянцы ад прастуднага кашлю.

Menyanthes trifoliata L. (сям. Centianaceae—гарачаўкав).
**Бабок**. Адвар ужываюць ад сухотаў.

*Сакалоўскі, вучань 5 кл., сабраў веды.* (У рукапісу не паказана мясцовасьці і ад каго сабраны веды. Рэд).

Daphne Mezereum L.
**Воўчае лыка**. Ужываецца ад болю горла. Параць кару і палошчаць горла.

Centaurea Jàcea (сям. Compositae—склад. кветн.).
**Крываўка**. (Васілёк лугавы). П'юць адвар ад крывавага паносу.

Tilia cordáta Mill. (сям. Tiliaceae—ліпавых).
**Ліпавы цьвет**. Ужываецца навар ад запаленьня лёгкіх.

Artemisia Absinthium L. (сям. Compositae—скл. кветн.).
**Палын**. Ужываецца ад катару страўніка. П'юць адвар.

*Янучкоўская Бран. вуч. 5 клясы, сабрала веды ў хут. Гумнішчы Лошніцкага с/с. ад Бабіцкай.*

Valeriana officinalis L. (сям. Valerianàceae—маўнавых).
**Валяр'янавы корань**. Настойваецца на сьпірытусе і настойка даецца хвораму піць тры разы ў дзень, ад нэрваў.

Cardamine pratensis L. (сям. Cruciferae—крыжакветных).
**Сэрдэчнік лугавы**. Параць кветкі і п'юць ад біцьця сэрца.

Erythráea Centàurium Pers. (сям. Centianaceae—гарачаўкавых).

**Цантаўра**. Адвар ужываецца ад болю жывата.

Centauréa Cyànus L. (сям. Compositae—скл. кветных).

**Валошка** (Васілёк польны). У адвараную жыжу мочаць анучку і прыкладваюць да хворых вачэй.

Thymus Serpyllum L. (сям. Labiàtae—губакветных).

**Чомбар**. Заварваецца і п'ецца, як гарбата, ад болю ў грудзёх.

Arctium tomentósum Schrank (сям. Compositae—скл. кветных).

Arctium Lappa L.

**Калючы дзед**. Настайваецца на сьпірытусе і п'юць ад перапалоху.

Alnus glutinósa L. і A. incàna L. (сям. Betulàceae—бярозавых).

**Альховая кара**, зьмешаная з суравымі ніткамі, варыцца, і адвар даюць піць хвораму ад жаўтачкі.

{ Farmica rufa—чырвоныя мурашкі.
{ Vaccinium Vitis idàea L. (сям. Vacciniaceae—брусьнічных).

**Брусьнічнік** і мурашкі заварваюцца разам і прыкладваюцца да хворага месца пры раматызьме.

Stallaria media Vill. (сям. Caryophyllàceae—гвазьдзічных).

**Макрычнік** ужываецца ад ламоты сярэдзіны. Націраюць хворае месца адварам.

Lycopodium clavàtum L. (сям. Lycopodiaceae—плавуновых)

**Дзеразовы пылок** ужываецца для засыпаньня раны.

Daucus Carota L. (Сям. Umbelliferae fuss.—парасонакветн.

**Корань морквы** варыцца на малаку і даецца хвораму ад малакроўя.

Tanacetum vulgare L. (сям. Compositae—склад. кветных).

**Піжмавы корань** варыцца і даецца хвораму піць ад глістоў.

Equisetum praténse Ehrh. (сям. Equisetaceae—хвашчовых).

Urtica urens L. (сям. Urticaceae—крапіўных).

**Хвошч палявы і крапіва-жыгучка** ўжываюцца ад сухотаў. П'юць навар.

Syringa vulgaris L. (сям. Oleaceae—масьліных).

**Бэзавыя кветкі** ўжываюцца ад прастуды.

Trifolium arvénse L. (сям. Leguminosae—бабовых).

**Каткі** ўжывацца ад крывавага паносу, п'юць адвар.

Acorus Cálamus L. (сям. Arácaeae—аротнікавых).

**Корань аера** ад залатухі. У адвары купаць хворага.

Arnica montana L. (сям. Compositae—скл. кветн.).

**Арніка** заварваецца і прыкладаецца гушча да раны.

Calluna vulgarus Salisb. (сям. Ericáceae—верасковых).

**Вераскавы** настой на сьпірытусе бяруць для націраньня хворага месца пры раматызьме.

Quercus pedunculata L.

**Дубовая кара** адварваецца, і адварам палошчуць дзёсны для ўзмацненьня. Ужываецца таксама ад хваробы валасоў.

Salvia pratensis L. (сям. Labiatae—губакветных).

**Шалфей** адварам лісьця палошчуць рот, калі баляць зубы.

Urtica urens L. ужываецца ў сырым відзе для націраньня сярэдзіны, як адчуваецца ламота.

Helianthus annuus L. (сям. Compositae—скл. кветных).

**Сланэчнікавыя дудкі** вараць і адвар п'юць пры хваробе трасцы.

Plantago májor L. (сям. Plantagináceae—падарожнікавых).

**Трыпутнік** ужываецца ад нарываў; прыкладаюць больку сырым лісьцем.

Lonicera xylósteum L. (сям. Caprifoliáceae—жымаласных).

**Воўчыя ягоды** для атруты.

Rhámnus cathartica L. (сям. Rhamnaceae—крушынавых).

**Крушынавая кара** заварваецца і даецца піць, як слабіцельная.

Parus Málus L. (сям. Pomaceae—яблычных).

**Яблычныя шалупайкі** заварваюць і п'юць ад болю ў грудзёх.

---

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

## Плян працы раённага т-ва краязнаўства.

### Увагі да пляну.

Плян укладзены ЦБК згодна пастановы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду і зьяўляецца толькі орыентовачным. На падставе яго кожнае раённае т-ва складае свой каляндарны плян працы, уносячы ў яго мясцовыя пытаньні, разьбіваючы плян на конкрэтныя заданьні і даручаючы выкананьне іх гуртком, сэкцыям альбо паасобным сябром т-ва.

Плян, які прапануе ЦБК, ахапляе ўсе магчымыя формы працы т-ва і ў мэтах большай сыстэматычнасьці мае разьдзелы: 1) праца організацыйна-популярызацыйная, 2) праца мэтодычная і 3) праца зьбіральніцка-дасьледчая. Зразумела, апошняя форма працы т-ва, як організацыі навуковай, зьяўляецца найбольш каштоўнай, але дзякуючы яшчэ няпоўнаму афармленьню нашага краязнаўчага руху і слабой падрыхтаванасьці нашага масавага краязнаўца, у пляне працы райт-ва неабходна значнае месца адвесьці організацыйна-популярызацыйнай і мэтодычнай працы т-ва. Гэта мае на ўвазе орыентовачны плян працы, які склала ЦБК для райт-ваў.

#### I. Організацыйна-популярызацыйная праца.

1. Заснаваць сталую сувязь з партыйнымі, профсаюзнымі і савецкімі ўстановамі і організацыямі раёну. Інформаваць іх аб мэтах, зьмесьце і выніках працы райт-ва. Уцягнуць у сябры т-ва кіраўнікоў гэтых установ і асоб, якія фактычна вядуць краязнаўчую працу—агрономаў, дактароў, супрацоўнікаў мэтстанцый, статыстыкаў, загадчыкаў хат-чытален і інш.

2. Уцягнуць у шэрагі краязнаўчых організацый актыўную частку моладзі—комсамольцаў і піонэраў. Організаваць пры клюбах, хатах-чытальнях, юнсэкцыях, ячэйцы ЛКСМ, школах-сямігодках краязнаўчыя гурткі моладзі.

3. Зьвязацца з студэнцкаю моладзьдзю раёну і ўцягнуць яе ў краязнаўчую працу.

4. Організаваць па раёне адпаведна тэрыторыяльным адміністрацыйным адзінкам краязнаўчыя гурткі (сельсавецкія).

5. Прыняць належныя меры да організацыі раённага краёвага музэю.

6. Організаваць 2 фэнпункты на раёне.

7. Падтрымліваць рэгулярную сувязь з вышэйшымі краязнаўчымі організацыямі—Акруговым Т-вам краязнаўства і ЦБК. Адзін раз у паўгода даваць справаздачу аб сваёй працы Акруговаму Т-ву Краязнаўства і раз у год інформацыю аб гэтым даваць ЦБК.

8. Пашырыць сярод сваіх сяброў і насяленьня падпіску на „Наш Край“.

9. Організаваць выданьне свайго рукапіснага краязнаўчага часопісу і наладзіць зьмяшчэньне прац сяброў т-ва ў цэнтральных і акруговых выданьнях. Прыняць меры да асобнага выданьня прац раённага т-ва.

10. Весьці падлік сваёй працы. Формы падліку: 1) вядзеньне протоколаў пасяджэньняў праўленьня і агульных сходаў т-ва; 2) корэктаваньне працы па намечаным пляну і адзначэньне выкананай працы; 3) справаздачы праўленьня перад агульным сходам; 4) раённая краязнаўчая конфэрэнцыя.

11. Популярызаваць краязнаўчую працу сярод рабочых, сялян і служачых розных установ раёну. З гэтай мэтай правесьці шэраг дакладаў, лекцый і гутарак па агульных пытаньнях краязнаўства і на тэмы з жыцьця раёну. Прыкладныя тэмы дакладаў аб раёне: 1) народная гаспадарка раёну; 2) саматужніцтва раёну; 3) гісторыя раёну; 4) народная творчасьць раёну—фольклёр, музыка, танцы; 5) народнае мастацтва раёну; 6) санітарнае становішча раёну і г. д.

12. Популярызаваць сярод моладзі неабходнасьць вывучэньня і скарыстаньня вытворчых сіл раёну. Даклады і гутаркі сярод моладзі аб паляводзтве, жывёлаводзтве і саматужніцтве раёну. Кожную галіну разглядаць з 4 бакоў: 1) сучасны стан тэй ці іншай галіны народнай гаспадаркі; 2) умовы, якія перашкаджаюць яе разьвіцьцю; 3) умовы спрыяючыя яе разьвіцьцю; 4) як можна палепшыць гэтую галіну гаспадаркі.

13. Популярызаваць краязнаўчую працу шляхам організацыі краязнаўчых вечарын: інсцэніроўкі народных казак, выступленьне народных сьпевакоў, ілюстрацыя народных абрадаў і звычаяў і г. д.

14. Популярызаваць краязнаўчую працу шляхам наладжваньня выставак сабраных краязнаўчых матар‘ялаў.

### II. Мэтодычная праца.

1. Праўленьню райт-ва азнаёміцца з мэтодычнай літаратурай і матар‘яламі друку па пытаньнях краязнаўства. Правесьці шэраг дакладаў і гутарак па мэтодыцы краязнаўства. Падабраць, сыстэматызаваць і наладзіць вывучэньне сябрамі т-ва ўсяе мэтодычна-краязнаўчае літаратуры і ўсяго рукапіснага і друкаванага матар‘ялу аб раёне.

2. Дапамагчы мэтодычнымі ўказаньнямі клюбам, гурткам моладзі і школам, як весьці фэнолёгічныя нагляданьні, як зьбіраць экспонаты для краёвага музэю (складаць гэрбарыі, зьбіраць лекавыя травы, колекцыі глебы і выкапняў), як весьці фотографічную і зарысовачную працу, як рабіць запісы фольклёру і г. д.

### III. Зьбіральніцка-дасьледчая праца.

1. Зьбіраць, сыстэматызаваць і вывучаць прадметы матар‘яльнай і духоўнай культуры насяленьня раёну: кніг, брошур, часопісаў, газэт-

ных выразак, нататак, рукапісных часопісаў, насьценных газэт і іх архіваў, лістоў, дзеньнікаў, мэмуараў, фотографій, афіш, карт, абвестак, дыяграм і інш.

2. Укласьці мясцовую бібліографію раёну ў першую чаргу па цэнтральных і акруговых газэтах, часопісах, кнігах і брошурах.

3. Зьбіраць і апрацоўваць матар'ялы ўрадавых і грамадзкіх устаноў раёну: справаздачных дакладаў розных раённых устаноў—саветаў, больніц, хат-чытален; мэтэоролёгічных бюлятэняў, статыстычных даных, актаў абсьледваньняў і г. д.

4. Зьбіраць і належным чынам апрацоўваць экспонаты для раённага краёвага музэю па пляну, які зьмешчаны ў „Працах 2 Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“ і ў кнізе Дзенс-Літоўскага „Познание местного края“. Скарыстаць у мэтах запаўненьня музэю экспонатамі раённыя і юбілейныя выстаўкі.

5. Прывесьці ў належны выгляд усе матар'ялы, якія прысылаюцца гурткамі і паасобнымі аматарамі. Формы апрацоўкі матар'ялаў: скласьці апісаньні на розныя тэмы з жыцьця раёну, ілюстраваць іх фотографіямі, малюнкамі, выставіць матар'ялы ў раённым музэі.

6. Наладзіць экскурсыйнае і стацыянарнае абсьледваньне розных бакоў прыроды, экономікі і жыцьця насяленьня раёну. Паставіць, дзе магчыма, неабходныя экспэрымэнты для праверкі зробленых вывадаў і падагульненьняў (напр., вопытныя вучасткі зямлі, біосадзікі і г. д.).

7. Правесьці экскурсіі моладзі: 1) у прыроду раёну, 2) у бліжэйшую вёску, 3) на поле для азнаямленьня з магчымымі паляпшэньнямі яго; 4) на дасьледчае поле, 5) на заводы і г. д.

8. Выкарыстаць усе сабраныя матар'ялы для складаньня монографічнага апісаньня свайго раёну.

9. Выконваць чарговую працу па заданьнях ІБК і ЦБК: запаўненьне анкет аб хатніх рамёствах, монографій паселішч, складаньне адказаў на програмы па вывучэньні беларускіх гаворак і апісаньняў па схеме санітарна-бытавога дасьледваньня вёскі.

---

# Організацыя мэдычна-санітарнага вывучэньня вёскі.

З кожным годам краязнаўчая праца ў БССР пашыраецца. Зараз няма ніводнага раёну, дзе-б ня было краязнаўчае організацыі. Нават па вёсках ёсьць шмат краязнаўчых гурткоў. А ў гарадох і падаўна. Да гэтага часу краязнаўчая праца складалася пераважна з вывучэньня гісторыі, культуры і экономікі нашага краю (мова, літаратура, этнографія, быт, экономіка гаспадаркі, прыродныя багацьці і інш.).

Мэдыка-санітарнае вывучэньне краю, якое мае вялікае значэньне ў агульнай краязнаўчай працы, пакуль што займае малае месца. У краязнаўчай працы медпрацаўнікі, у прыватнасьці дактары, прымаюць удзел толькі як паасобныя адзінкі.

А між тым краязнаўчая праца ёсьць праца грамадзкая, і павінна выявіцца больш грамадзкай актыўнасьці ўсіх сяброў Саюзу „Мэдсанпрацы", і асабліва па лініі Доктарскіх Сэкцый. Мыдыка-краязнаўчая праца павінна выявіць прычынную залежнасьць паміж санітарным станам населеных пунктаў (горад, вёска, мястэчка, хутар, засьценак) і экономічным і культурным узроўнем іх, а таксама—выявіць санітарна-бытавы стан вёскі і мястэчка і фізычны стан іх насельнікаў. Зараз Рэсбюро Дакт. Сэкцыі і ЦБ Краязнаўства пры Інбелкульце з боку організацыйнага прапануюць наступнае:

1. У акруговых гарадох пры Доктарскім Саюзе Мэдсанпрацы стварыць мэдыка-краязнаўчыя гурткі пад кіраўніцтвам аднаго члена Доктарскай Сэкцыі. У гурткі ўваходзяць ня толькі дактары, а і іншыя члены Саюзу „Медсанпрацы", (як фармацэўты, лекпомы, мэдыцынск. сёстры і інш.).

Увага: У тых лячэбных установах, дзе ёсьць значны лік працаўнікоў, могуць стварацца асобныя гурткі пад кіраўніцтвам асоб. вылучаных Дакт. Сэкцыяй і Прэзыдыумам Саюзу „Мэдсанпрацы". Падобныя гурткі праводзяць сваю працу ў шчыльнай сувязі з Цэнтральным Акруговым Гуртком пры Саюзе „Мэдсанпрацы".

2. Організацыя гурткоў утваецца паводле Статуту Краязнаўчых Гурткоў, апублікаванага ў № 12 „Нашага Краю" за 1926 г.

3. Праца ўсіх мэдыка-краязнаўчых гурткоў праводзіцца ў шчыльнай сувязі з Акруговымі Краязнаўчымі Таварыствамі. Сувязь трымаецца праз кіраўніка мэдыка-краязнаўчага гуртка.

4. На раёнах, з прычыны малой колькасьці мэдпрацаўнікоў, асобных мэдыка-краязнаўчых гурткоў не ствараць, а лепш уваходзіць непасрэдна ў склад агульных краязнаўчых раённых таварыстваў.

5. Краязнаўчая праца мэдпрацаўнікоў, у прыватнасьці дактароў, у аснове сваёй павінна складацца з:

1) Консультацыйнай дапамогі краязнаўчым гуртком і краязнаўчым таварыствам у галіне сваёй спэцыяльнасьці.

2) Уласнае працы пераважна мэдыка-санітарнага вывучэньня залюдненых месц.

6. Асноўнымі об'ектамі мэдыка-санітарнага вывучэньня зьяўляецца:

а) Вывучэньне фізычнага стану, хваравітасьці і сьмяротнасьці насельніцтва;

б) Вывучэньне пануючых, эпідэмічных, эндэмічных і соцыяльных хвароб;

в) Вывучэньне лекавай дапамогі, лекавых расьлін, народнае мэдыцыны;

г) Вывучэньне агульнага санітарнага дабрабыту залюдненых месц (кватэрных умоў, водазабясьпекі, карыстаньня лазьнямі, санітарных умоў школ і інш.)

д) Вывучэньне санітарна-бытавых умоў.

Увага: Для гэтых прац часта можна скарыстаць ужо зробленую працу іншых гуртkоў, альбо сяброў, напрыклад: пры выяўленьні культурнага ўзроўню насельніцтва, экономікі, гаспадаркі, прыроды і інш., ці непасрэдна можна ўвязаць сваю працу па вызначанай лініі з працай іншых гурткоў альбо асоб краязнаўства.

7. Цэнтральнай кіруючай і консультацыйнай краязнаўчай організацыяй зьяўляецца Ц. Б. Краязнаўства пры Інбелкульце, пры якім існуе Мэдыцынскае Консультацыйнае Бюро, куды і належыць зьвяртацца па ўсіх справах мэдыка-краязнаўчага характару.

8. Мэдыка-краязнаўчыя працы можна друкаваць у часопісу Ц. Б. Краязнаўства „Наш Край“, альбо ў зборніках Акруговых Краязнаўчых Таварыстваў.

Вызначаныя пункты зьяўляюцца асновай у сэнсе організацыі краязнаўчае працы па лініі Саюзу Мэдсанпрацы, у прыватнасьці Доктарскай Сэкцыі. На мясцох гэтая прапанова можа дапаўняцца альбо зьмяняцца ў залежнасьці ад об'ектыўных умоў.

Для мэдыка-краязнаўчай работы па санітарных досьледах вёскі можна карыстацца дадатнай да гэтага „Схэмай санітарнага дасьледваньня і апісаньня вёскі“. Гэтую схэму можна прыстасаваць да вывучэньня і іншых залюдненых месц (гораду, мястэчка) і ў больш шырокім масштабе, як раён.

Краязнаўчая праца мэдпрацаўнікоў мае вялікае значэньне і для саміх працаўнікоў у сэнсе лепшага вывучэньня ўмоў і быту працоўных і ў сэнсе рацыянальнага падыходу да аздараўленьня гэтых умоў і гэтага быту. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на ўцягненьне ў краязнаўчую працу санітарных дактароў, для якіх гэта праца па сваім характары найбольш блізкая.

---

# Аб організацыі фэнолёгічных нагляданьняў.

Організацыя сыстэматычных фэнолёгічных нагляданьняў у сталых пунктах, сетка якіх ахапляе ўсю тэрыторыю краіны, мае вялікае значэньне ў сэнсе вывучэньня біоклімату і вызначэньня законамернасьці сэзонных зьяў у прыродзе. Вынікі фэнолёгічных нагляданьняў, разам з абагульненьнямі мэтэоролёгічных зьяў, выкарыстоўваюцца пры накіраваньні сельскай гаспадаркі. Культурныя замежныя дзяржавы (Нямеччына, П.-Ам. Злуч. Штаты) і некаторыя рэспублікі СССР (Украінская ССР) фэнолёгічную справу праводзяць, як справу дзяржаўную, побач з мэтэоролёгічнай справай. Вынікі фэннагладаньняў патрэбны і ў чыста навуковых мэтах—пры вывучэньні флёры і фаўны краіны.

На тэрыторыі БССР фэнолёгічная справа ўжо распачалася (па ініцыятыве некаторых мясцовых краязнаўчых організацый), але ня будучы плянава-програмнай і ня маючы аб'яднаючага цэнтру, такая праца не магла даць належных вынікаў. Дзеля гэтага пры ЦБК заснавана Цэнтральная Фэнолёгічная Камісія, організацыю і дзейнасьць якой ухваліў апошні пленум ЦБК—23-25 кастрычніка б./г. Разам з гэтым пленум пастанавіў:

1. Даручыць Цэнтральнай Фэнолёгічнай Камісіі організаваць у БССР сетку фэнолёгічных нагляцальных пунктаў, з разьлікам ня меней 2 на раён, якія павінны дасылаць свае нагляданьні для абагульненьняў у Акруговыя Т-вы на 1 і 15 чысло кожнага м-ца, а апошняе ў ЦБК за кожны месяц.

2. Фэнолёгічнай камісіі, абагульненьні па БССР і належныя вывады з іх пэрыодычна—3 разы ў год—друкаваць у „Нашым Краі".

3. ЦБК—надрукаваць патрэбны лік блянкаў для запісу першапачатковых нагляданьняў і для абагульненьняў.

4. Надрукаваныя абагульненьні па БССР дасылаць усім пунктам.

5. Цэнтр. Фэнол. Камісіі зрабіць дакладнае апісаньне об'ектаў нагляданьняў і разам з мэтодычнымі тлумачэньнямі даслаць на месцы.

У выкананьне гэтай пастановы пленуму, прэзыдыум ЦБК прапануе акруговым і раённым таварыствам краязнаўства наступнае:

### Выбар фэн. пунктаў.

1. Праўленьням Акруговых Т-ваў—узгодніўшы з раённымі, вызначыць у кожным раёне ня менш двух пунктаў—для вядзеньня ў іх фэнолёгічных нагляданьняў, пажадана,—адзін у раённым цэнтры, іншыя—

у адлегласьці ад яго, улічваючы рэльеф мясцовасьці. Маючы на ўвазе неабходнасьць сыстэматычнага і бязупыннага вядзеньня фэннаглядань-няў, пажадана наглядальныя пункты вызначыць пры такіх установах, якія могуць зьвязаць іх са сваёй працай, як школы,—асабліва сямігодкі і ШСМ,—агрономічныя пункты, лясьніцтвы і інш., у якіх працуюць сябры краязнаўчых організацый, сьвядомыя і зацікаўленыя ў фэнолёгічнай справе.

Пажадана таксама да гэтае справы прыцягнуць і паасобных—больш сьвядомых сялян-земляробаў, якія, па ўмовах сваёй працы і жыцьця, могуць даць сваечасовыя і карысныя весткі аб зьявах у прыродзе.

Патрэбна дакладна вызначыць географічную даўжыню (ад Грынвіча) і шырыню намечаных фэнол. пунктаў, што можна зрабіць па карце—трохвёрсцы. Цэнтр. Фэнол. Камісіі праверыць і направіць гэтае азначэньне.

**Правядзеньне фэн. нагляданьняў.**

2. Нагляданьні праводзяцца паводле програмы для БССР, прынятай Цэнтр. Фэнолёгічнай Камісіяй пры ЦБК. Програма гэтая цалком зьмешчана ў блянку для абагульненьняў фэннагляданьняў па акрузе, у якім зьявы разьмеркаваны па разьдзелах: расьлін, птушак, кузурак, розных жывёлін, розных зьяў прыроды і розных сельскагаспадарчых зьяў; наглядаемыя зьявы па кожным разьдзеле разьмеркаваны ў прыблізным каляндарным парадку. У програму ўнесены фэнолёгічныя об'екты ў мінімальнай колькасьці і толькі такія, якія ўсім добра вядомы і нагляданьні за якімі можа праводзіць аматар прыроды без асаблівай спэцыяльнай падрыхтоўкі. Аднак, каб пазбавіцца няправільнасьцяй і недарэчнасьцяй пры нагляданьнях, ЦБК мае на мэце зьмяшчаць у „Нашым Краі“ (у дадатак да тых, якія ўжо надрукаваны) спэцыяльныя артыкулы, тлумачэньні і заўвагі. На ўсякія запытаньні па гэтай справе будзе непасрэдна даваць адказы і Цэнтр. Фэн. Кам.

**Фіксацыя фэн. зьяў.**

3. Асноўнае запатрабаваньне пры запісах фэнолёгічных зьяў,—рабіць іх сваечасова, дакладна адзначаючы зьявы і даты. Дзеля большай пэўнасьці ў сваечасовасьці заўважанай зьявы, патрэбна ведаць наперад яго прыблізную (сярэднюю) дату (з папярэдніх мясцовых нагляданьняў ці з адпаведнай літаратуры),—як-бы чакаць яго,—знаючы паступовасьць і сувязь паасобных фэнолёгічных зьяў.

Запоўненыя за 2 тыдні першапачатковыя карткі-паведамленьні фэнолёгічнымі пунктамі дасылаюцца безадкладна і непасрэдна ў Акруговыя Т-вы К-ва. Адбіткі запісаў—у сшытках застаюцца на фэнпунктах.

**Акруговыя абагульненьні фэн. нагляд.**

4. Па атрыманьні вестак ад фэнолёгічных пунктаў з раёнаў, Акруговыя Т-вы робяць абагульненьні за м-ц і не пазьней 10-га наступнага м-ца дасылаюць у ЦБК. Дакладныя адбіткі абагульненьняў за кожны м-ц пакідаюцца ў справах Акр. Т-ваў разам з атрыманымі з фэнпуктаў першапачатковымі паведамленьнямі-карткамі. Дзеля вядзеньня гэтае справы ЦБК раіць Акр. Т-вам вызначыць аднаго з сваіх сяброў, ад сэкцыі прыродна-географічнай.

### Аб мэтодычнай падрыхт. да фэн. нагляд.

5. Каб забясьпечыць дакладнасьць і пасьпяховасьць фэнолёгічнай справы і падрыхтаваць наглядальнікаў, Акруговым і Раённым Т-вам Кр-ва патрэбна чарговай задачай сваёй працы зрабіць пастаноўку на сваіх сходах і пасяджэньнях спэцыяльных дакладаў аб фэнолёгіі, аб спосабах, тэхніцы фэнолёгічны нагляданьняў, прыцягнуўшы да гэтае справы найбольш сьвядомых сяброў-прыродазнаўцаў. Як дапаможнікаў ў гэтым пытаньні, можна рэкомэндаваць між іншымі наступную літаратуру:

1) Д. О. Святский. Фенология в краеведческой работе. Изд. Брок. и Ефрон. (ц. 1 р.).

2) Н. Щербиновский. К методике школьных фенологических наблюдений. Изд. „Раб. Просв.“ 2 изд. (ц. 50 к.).

3) Інструкцыя і програма фэнолёг. назіраньняў—у „Працах 2-га Ўсебелар. Краязн. Зьезду—(стар. 44-50).

4) Адпаведныя артыкулы і інструкцыі ў „Наш. Края“. (№№ 1, 9-10, 11-12, 19, 21-22 і інш.).

### Аб школьн. фэн. нагляд.

6. Аб правядзеньні школьных фэнолёгічных нагляданьняў і аб увязцы іх з школьнымі програмамі па прыродазнаўству рыхтуецца мэтодычны ліст ад Н. Мэт. Камітэту НКА і ЦБК.

Заклікаючы ўсе краязнаўчыя організацыі да неадкладнага наладжваньня фэнолёгічнай справы на мясцох, ЦБК лічыць, што гэтая справа павінна зрабіцца часткай сталай плянавай дзейнасьці таварыстваў кр-ва.

# ХРОНІКА

## Протокол Пленуму Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

*(23—25 кастрычніка 1927 году).*

Прысутнічаюць: ЦБК у поўным складзе—8 асоб, ад аддзелаў і Камісій ІБК—15, ад цэнтральных устаноў Менску—8. ад Акруговых т-ваў краязнаўства—8 асоб.

Пленум запрашае ў Прэзыдыум членаў ЦБК, членаў Прэзыдыуму ІБК.

Старшыня ЦБК т. Бялуга аглашае абвестку скліканага Пленуму ЦБК.

1. Інформацыя аб удзеле краязнаўчых організацый у сьвяткаваньні 10-годзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі—(т. *Казак).*

2. Разгляд проекту статуту ЦБК (т. *Бялуга).*

3. Прыкладны плян працы Раённага Таварыства Краязнаўства (т. *Шашалевіч*).

4. Мэтодычныя пытаньні:

а) Вывучэньне асаблівасьцяй беларускіх гаворак (проф. *Бузук);*

б) Організацыя фэнолёгічнае справы ў БССР (т. *Жураўскі).*

в) Санітарнае дасьледваньне вёскі (т. *Цьвікевіч*).

г) Програма апісаньня мястэчка (т. *Аляксандраў).*

5. Краязнаўчая справа ў Фінляндыі (т. *Касьпяровіч).*

6. Бягучыя справы:

а) Інформацыя аб краязнаўчай справе ў Гомельшчыне.

б) Інформацыя Этнографічнай Камісіі (т. *Сербаў).*

в) Увязка працы Дзяржаўнага Музэю з мясцовымі краязнаўчымі музэямі.

**1. Інформацыя т. Казака аб удзеле краязнаўчых організацый у сьвяткаваньні Кастрычнікавай рэволюцыі.**

ЦБК зрабіла наступныя мерыпрыемствы для ўцягненьня краязнаўчых організацый у сьвяткаваньне Кастрычнікавай рэволюцыі; 1) выданьне спэцыяльнага № „Нашага Краю“, прысьвечанага юбілею; 2) заклік да краязнаўчых організацый аб неабходнасьці захаваць і скарыстаць усе мясцовыя юбілейныя матар‘ялы. Па першым пытаньні ЦБК сваечасова намеціла зьмест нумару і падрыхтавала неабходныя матар‘ялы для гэтага. Юбілейны № „Нашага Краю“ ахапляе ўсе галіны краязнаўчай працы на Беларусі за 10 год і паказвае нашыя дасягненьні ў гэтым напрамку.

Па другім пытаньні неабходна заўважыць наступнае: усім нам вядома, якая вялікая праца праводзіцца савецкімі, партыйнымі і профсаюзнымі органамі ў падрыхтоўцы да юбілею, наладжваюцца выстаўкі, на якіх паказваюцца нашыя дасягненьні. Неабходна зьвярнуць увагу на скарыстаньне ўсяго гэтага каштоўнага матар‘ялу ў краязнаўчых мэтах (схэмы, дыяграмы, плякаты, лёзунгі і г. д.). Мясцовым краязнаўчым організацыям неабходна дагаварыцца з камісіямі па сьвяткаваньні аб спосабах захаваньня гэтых матар‘ялаў. Апошнія неабходна аддаваць у музэі, дзе яны ёсьць, а дзе няма, там трэба імкнуцца, каб сабраныя матар‘ялы сталі пачаткам заснаванага раённага музэю краязнаўства. Усе пералічаныя мерапрыемствы ЦБК лічыць неабходнымі і ў гэтым напрамку ўсе краязнаўчыя організацыі інформаваны, як непасрэдна, так і праз газэты „Савецкая Беларусь“, „Зьвязда“ і час. „Наш Край“. Ёсьць весткі, што мясцовыя краязнаўчыя організацыі ўжо пачалі рыхтавацца. Полацкае Акруговае Таварыства ўхваліла організаваць куток рэвруху на Полаччыне ў Акруговым музэі, адчыніць музэй на тыдзень у часе сьвяткаваньня і прыцягнуць увагу да гэтай працы раённых краязнаўчых організацый.

Ухвалілі: „Заслухаўшы інформацыю ЦБК аб удзеле краязнаўчых організацый у сьвяткаваньні 10-годзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі, Пленум ЦБК ухваляе ўсе мерапрыемствы, якія ЦБК вызначыла ў гэтым напрамку і заклікае ўсе краязнаўчыя организацыі зрабіць належныя крокі да ажыцьцяўленьня іх“.

Рэзолюцыя прымаецца.

**2. Разгляд проекту статуту ЦБК.**

Даклад старшыні ЦБК т. *Бялугі.*

Да гэтага часу ЦБК апрацавала статуты краязнаўчых організацый рознага тыпу; пачынаючы ад школьна-краязнаўчых гурткоў, канчаючы Акруговымі Таварыствамі Краязнаўства. Ва ўсіх статутах праведзена пэў-

ная думка аб сувязі організацый у непасрэднай працы, таварыскай солідарнасьці і дапамозе. Толькі само ЦБК да гэтага часу ня мела статуту. Прычына ў тым, што ЦБК мела цесную сувязь з ІБК, які перажываў пэрыод пераорганізацыі і немагчыма было высьветліць адносіны ЦБК да ІБК. Цяпер канчаткова высьветлілася організацыйная структура ІБК і зьявілася магчымасьць скласьці статут ЦБК, які і прапануецца для разгляду.

Статут зачытваецца і разглядаецца па §§.

Статут з унесенымі папраўкамі і дадаткамі прымаецца і будзе надрукован асобна.

*Пасяджэньне Пленуму 24/X.*

**3. Орыентовачны плян працы раённага таварыства краязнаўства.**

Даклад т. *Шашалевіча.*

ІІ-гі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд выказаў пажаданьне, каб ЦБК апрацавала орыентовачны плян працы раённага т-ва краязнаўства. Неабходнасьць гэтага ў тым, што большасьць краязнаўчых аб'яднаньняў організацыйна аформіліся, але ня ўмеюць перайсьці да дасьледчай працы. Пляны іх працы расплывістыя, не рэальныя, вельмі шырокія. ЦБ Краязнаўства пазнаёмілася з умовамі працы раённных таварыстваў краязнаўства і на падставе гэтых матар'алаў прапануе на разгляд пленуму складзены ЦБК орыентовачны плян працы раённых т-ваў краязнаўства. На падставе яго кожнае раённае т-ва можа скласьці свой конкрэтны плян працы, прыняўшы пад увагу: склад сяброў т-ва, кваліфікаванасьць і зацікаўленасьць іх да краязнаўчай працы, матар'яльныя сродкі і тэхнічныя магчымасьці. Плян, які склала ЦБК, мае на ўвазе організацыйную працу т-ва, мэтодычную і дасьледчую. Паколькі нашы райтаварыствы не стаяць яшчэ моцна на нагах, організацыйнай працы т-ва ў пляне адведзена значнае месца. Т-ву нельга спыняць шырокай кампаніі па ўцягненьні насяленьня ў краязнаўчую працу, але формы популярызацыі трэба зьмяніць. Популярызацыя — у дэмонстраваньні вынікаў краязнаўчай працы (лекцыі, гутаркі, даклады аб быце і гаспадарцы раёну, выстаўкі мясцовых краязнаўчых матар'ялаў, краязнаўчыя вечарыны, інсцэніроўкі). Для аб'яднаньня ўсіх краязнаўчых сіл раёну плян намячае скліканьне ня менш аднае краязнаўчае раённае конфэрэнцыі. Далей для організацыйнага ўмацаваньня раённага таварыства яму па пляну неабходна ставіць інформацыйныя даклады аб сваёй працы на пасяджэньнях савецкіх, профсаюзных, партыйных організацый. Падтрыманьня з боку гэтых організацый можна дабіцца ўстанаўленьнем формаў супрацоўніцтва між грамадзкімі організацыямі і раённым таварыствам. У мэтах ажыўленьня краязнаўчай працы ў раёне плян намячае організацыю краязнаўчых гурткоў сярод комсамольскай моладзі, пры хатах-чытальнях, клюбах, школах 7-ках. Організацыя сельсавецкіх гурткоў таксама чарговае заданьне т-ва. Мэтодычная праца рай-тва па пляну будзе выяўляцца ў вывучэньні ўсяе мэтодычна-краязнаўчае літаратуры, якая ёсьць у раённага таварыства краязнаўства, у прасоўваньні і популярызацыі гэтае літаратуры ў настаўніцкіх і вучнёўскіх масах, у скарыстаньні яе на практыцы. Дасьледчая праца райтаварыства па пляну — галоўным чынам зьбіральніцкая: падбор, сыстэматызацыя ўсіх матар'ялаў датычных раёну (кнігі, брошуры, газэты, мэмуары, лісты, фотографіі, статыстычныя матар'ялы і г. д.).

Блішэйжыя заданьні ў працы т-ва згодна пляну такія: скарыстаньне раённых выставак у мэтах заснаваньня краязнаўчых музэяў, выданьне краязнаўчага рукапіснага часопісу, пашырэньне падпіскі на „Наш Край". Канечнай мэтай краязнаўчай працы раённах таварыстваў у гэтым годзе павінна быць складаньне даведчай кніжкі аб тым ці іншым раёне.

Ухвалілі: Плян прыняць у аснову, дапоўніць і пераапрацаваць яго, разьбіўшы на аддзелы: 1) організацыйная праца райтаварыства, 2) мэтодычная праца, 3) навукова-дасьледчая і зьмясьціць у часопісу.

**4 г) Програма апісаньня мястэчка.**

Даклад т. *Аляксандрава.*

Вывучэньне мястэчка — чарговае заданьне ў працы нашых краязнаўчых організацыяй. Да рэвалюцыі па многіх прычынах мястэчка не вывучалася, усе весткі, якія былі датычны мястэчка, паглыналіся агульнымі данымі аб павеце, да якога належала мястэчка. Яшчэ і цяпер на мястэчка не зварачваюць належнай увагі, між тым мястэчка вельмі характэрная зьява і цікава для нас з 3-х бакоў: 1) заняткамі насельніцтва яго; 2) павольным тэмпам свайго разьвіцьця і 3) сваім нацыянальным складам. Да рэволюцыі думалі што мястэчка ёсьць спэцыфічна яўрэйскае паселішча. Цяпер такі погляд зьмяніўся. Адбыліся значныя зьмены ў жыцьці, і цяпер мястэчка такі тып пасяленьняў, у якіх перакрыжоўваюцца самыя рознастайныя экономічныя і нацыянальныя інтарэсы. Але ў нас вельмі мала, а правільней кажучы; зусім няма матар'ялаў, якія характарызавалі-б гэта скрыжаваньне гораду і вёскі, яўрэйскай і беларускай культур. Цяпер экономіка мястэчак перажывае пераломны пэрыод. Можна заўважаць, што шэраг мястэчак Мазырскае акругі выяўляюць тэндэнцыю росту, а Менскай — наадварот — тэндэнцыю занападу, другімі словамі, акруга адсталая ў прамысловасьці, выяўляе тэндэнцыю да павялічэньня местачковага насяленьня. З другога боку ў мястэчках усіх акруг можна заўважыць зьмяншэньне яўрэйскага насяленьня і павялічэньне неяўрэйскага. Гэта

можна ілюстраваць лічбамі, якія ў мяне ёсьць адносна 100 мястэчак. Напр., па статыстыцы 1897 г. у 46 яўрэйскіх мястэчках яўрэйскага насяленьня было 130.000, г. зн. 65% усяго насяленьня ў мястэчках, а па даных за 1923 год яўрэйскага насяленьня ў мястэчках усяго 125.000, г. зн. зьменшылася на 28 проц. Лічбы 1926 г. нічога ў гэтым малюнку не зьмянілі. Зьмены можна заўважыць ня толькі з боку нацыянальнага складу, але і ў профэсыйным складзе. Раней пануючым тыпам насяленьня ў мястэчку быў тып пасрэдніцкага насяленьня, а цяпер пануючы тып—саматужнік і тып, які набліжаецца да земляробскага насяленьня. Цікава высьветліць натуральныя і мэханічныя фактары, якія ўплываюць на нараджальнасьць, сьмяротнасьць і шлюб у мястэчках. Да рэволюцыі зьмяншэньне насяленьня тлумачылася эміграцыяй у Амэрыку, цяпер наглядаецца эміграцыя ў цэнтры і губэрні РСФСР. Гэта пытаньне зусім ня вывучана. Ня вывучана і асаблівая форма сялянскай гаспадаркі ў мястэчку. Гэта тып гаспадаркі, якая набліжаецца да прыгарадовае гаспадаркі. У бюджэце такой гаспадаркі, як паказалі досьледы ў Нароўлі, неземляробскія заняткі складаюць палову бюджэту. Падругое, саматужніцтва ў мястэчку зусім ня вывучана, нават невядома, колькі саматужнікаў у БССР. Вясковыя саматужнікі дасканала вядомы нашым статыстычным органам, а местачковыя зусім не. Адносна гандляроў у мястэчку трэба сказаць, што іх можна па пальцах пералічыць, але з 24-25 г. можна заўважыць рост дробнага гандлю. Гэта азначае, што проц. беднаты ў сувязі з нашым гаспадарчым ростам павінен зьменшыцца, але 10—15 проц. насяленьня ў мястэчку такога эканомічнага стану, адносна якога цяжка сказаць, чым яно жыве. Вывучэньне яўрэйскай беднаты ў мястэчках зьяўляецца надзвычайна цікавым. Таксама ня вывучана гісторыя мястэчак. Клясавая дынаміка ў мінулым мястэчка покуль што terra incognita, а між іншым гісторыя рабочага руху на Беларусі ёсьць гісторыя яўрэйскага рабочага руху і карані яго трэба шукаць, бязумоўна, у мястэчках. Неабходна зьвярнуць увагу і на вывучэньне быту мястэчак. Так, напр., зусім ня высьветлена пытаньне аб зьмешаных шлюбах сярод насяленьня мястэчак. Досьледы ў м. Нароўлі паказалі, што 15 проц. усіх шлюбаў ёсьць зьмешаныя. Урэшце, мястэчкі цяпер у большасьці зьяўляюцца раённымі цэнтрамі, але вестак аб іх ня зьбіраюць. Можна вызначыць шэраг задач, якія дадуць магчымасьць мясцовым працаўнікам адчуваць сябе запраўднымі дасьледчыкамі.

Ухвалілі: I. Схэму вывучэньня мястэчка надрукаваць у чарговым № „Н. К.“ з дадаткам бібліографічных вестак.

II. Прапанаваць Акруговым Таварыствам вызначыць, як бліжэйшае заданьне вывучэньне аднаго мястэчка сваёй акругі.

III. Прасіць Гістарычна-Археолёгічную і Соцыяльна-Экономічную Камісіі ІБК распрацаваць і апублікаваць матар'ялы па гісторыі і экономіцы мястэчка.

### в) Санітарнае дасьледваньне вёскі.

*Дакл. т. І. Цьвікевіча.*

Зьяўленьне схэмы санітарнага дасьледваньня вёскі выклікалі такія прычыны. Вясною 1924 г. пры ІБК была організавана Мэдычная Сэкцыя, якая мела мэтай дасьледваць Беларусь з санітарнага боку. Трэба сказаць, што краязнаўчы ўхіл у працы Мэдсэкцыі даволі рана ўзяў перавагу. Сэкцыя пачала дасьледваць хваравітасьць беларускага насельніцтва, санітарна-гігіенічны стан гарадоў і вёсак і г. д. Сэкцыя падзялялася на камісіі: тэрмінолёгічную, антрополёгічную і іншыя. У працу камісій была ўцягнута профэсура. У сэкцыі працавала да 50 сяброў. Вынікі працы ёсьць: 60 дакладаў на працягу году, некаторыя матар'ялы ўжо знаходзяцца ў друку, напр., досьлед аб самагубствах на Беларусі. Цяпер Мэдсэкцыя спыняе сваё існаваньне, але адну з задач Мэдсэкцыі—санітарна-бытавое вывучэньне вёскі трэба і далей праводзіць. З прычыны гэтага намі складзена схэма санітарнага дасьледваньня вёскі і, мы думаем, гэта вывучэньне вясьці праз ЦБК. Схэма так складзена, што ня толькі дактары, але і другія культурныя працаўнікі могуць даць вычэрпваючыя матар'ялы аб вёсцы. Адказы па гэтых схэмах дадуць нам магчымасьць скласьці карту санітарнага стану Рэспублікі. Мы хочам мець сталую сувязь з мясцовымі краязнаўчымі організацыямі. Мы дагаварыліся з ЦБК, што на мясцох трэба імкнуцца да заснаваньня мэдычна-краязнаўчых гурткоў, а ў цэнтры пры ЦБК будзе давацца консультацыя па пытаньнях мэдычна-краязнаўчай працы.

Ухвалілі: 1. Прызнаць, што ў сувязі з рэконструкцыяй ІБК, мэдычна-краязнаўчая праца набывае больш сьцісла краязнаўчы кірунак і зусім цесна яднаецца з ЦБК Краязнаўства.

2. Мэдычна-краязнаўчую працу мэтазгодна паглыбіць па лініі санітарна-бытавога вывучэньня насельніцтва.

3. З прычыны таго, што мэдпрацаўнікі вельмі мала ўцягнуты ў дасьледчую працу, ухваліць заснаваньне пры ЦБК Мэдычна-Краязнаўчага Консультацыйнага Бюро, якое з аднаго боку цесна зьвязана з ЦБК, а з другога—з Саюзам Мэдсанпрацы і доктарскімі сэкцыямі саюзаў.

4. Неабходна, каб усе краязнаўчыя організацыі дапамагалі ўтварэньню мэдычна-краязнаўчых гурткоў і дапамагалі ім сваёй працай, вопытам, таварыскай солідарнасьцю.

5. Пажадана, каб раённыя т-вы краязнаў-

ства ў плян сваёй працы ўнесьлі санітарна-бытавое вывучэньне населеных пунктаў у раёне.

**5. Краязнаўчая справа ў Фінляндыі.**

Даклад т. *Касьпяровіча*

(будзе надрукованы асобна).

Спрэчкі па дакладу.

*Смоліч.* Вельмі цікавы даклад Касьпяровіча, шмат дае для мэтодыкі краязнаўства. Весткі, якія сабраў Касьпяровіч, неабходна як-мага больш папулярызаваць сярод краязнаўцаў і беларускіх культурных працаўнікоў. Я прапаную выдаць асобную брошуру аб камандыроўцы т. Касьпяровіча ў Фінляндыю.

*Мялешка.* Неабходна было-б, каб т. Касьпяровіч зачытаў свой даклад на Акруговых краязнаўчых конфэрэнцыях. Гэта значна ажывіла-б нашу працу і дало-б правільны напрамак нашай організацыйнай і дасьледчай працы.

*Бялуга.* Хоць і цяжка нам зараз гаварыць аб выданьні кніжкі аб Фінскім краязнаўстве, бо нам на выданьне „Нашага Краю" адпускаюць вельмі мала сродкаў, але мы будзем дабівацца, каб надрукаваць магчыма ў поўным выглядзе даклад Касьпяровіча. Мне здаецца, што ў гэтым напрамку пленуму трэба вынесьці пастанову.

Ухвалілі: 1. Даручыць Прэзыдыуму ЦБК скарыстаць у практыцы беларускага краязнаўчага руху ўсе дадатныя якасьці фінскага краязнаўства ў галіне мэтодычна-організацыйнай.

2. Камандыраваньне ЦБК свайго прадстаўніка за межы для азнаямленьня з краязнаўчым рухам, якое адбылося ў гэтым годзе, прызнаць цалкам сваечасовым і апраўданым і лічыць карысным працяг гэтай працы ў наступных гадох.

3. Даручыць Прэзыдыуму ЦБК рэгулярна інформаваць беларускі краязнаўчы рух праз „Наш Край" аб замежным краязнаўчым руху ва ўсіх краінах, а таксама ва ўсіх Савецкіх Рэспубліках.

4. Прасіць Прэзыдыум ІБК аб выдачы сродкаў на выданьне брошуры аб разьвіцьці і стане краязнаўства ў Фінляндыі.

**6. в) Увязка працы Дзяржаўнага Музэю з мясцовымі краязнаучымі музэямі.**

Даклад т. *Ластоўскага*

(друкуецца асобна)

Ухвалілі: 1. У мэтах аб'яднаньня сеткі краязнаўчых музэяў вакол Беларускага Дзяржаўнага Музэю прызнаць неабходным, каб краязнаўчыя музэі склалі падрабязныя апісаньні сваіх колекцый і копію іх пераслалі праз ЦБК у Бел. Дзярж. Музэй не пазьней 1 траўня 1928 г., а надалей кожнага паўгода прысылалі сьпісы паступіўшых у музэі папаўненьняў.

2. Для ўпрадкаваньня ўзаемаадносін Дзяржаўнага Музэю і краязнаўча-музэйнай сеткі лічыць неабходным скліканьне летам 1928 г. у Менску Ўсебеларускай конфэрэнцыі ўсіх музэйных працаўнікоў.

**б) Інформацыя Этнографічнай камісі ІБК.**

Даклад *т. Сербава.*

Этнографічная праца займае віднае месца ў чыннасьці краязнаўчых організацый. На мясцох вядуцца запісы фолькльору, народных абрадаў, жывой народнай мовы. Уся гэта праца выконваецца здавальняюча. Што датычыцца другіх галін этнографіі, асабліва быту, дык на іх краязнаўчыя організацыі не зварачваюць належнай увагі. У нас няма вестак, як зьмяняецца быт, сьветапогляды, у нас няма апісаньняў сялібы, будынкаў, вопратак, ежы і г. д. Таксама мала высьвятляецца народнае мастацтва Этнографічная Камісія ІБК, калі будзе згода пленуму, распрацуе падрабязныя програмы і пляны працы па этнографіі.

Ухвалілі: Прасіць Этнографічную Камісію ІБК у бліжэйшы час апрацаваць програму этнографічных досьледаў і правілы зьбіраньня этнографічных колекцый.

**4. а) Вывучэньне асаблівасьцяй беларускіх гаворак.**

Даклад проф. *Бузука.*

Пытаньне аб межах беларускае мовы, на наш погляд, не зьяўляецца цалкам вырашаным. Жадаючы зрабіць програму агульна-беларускай, мы, магчыма, склалі яе троху вялікай. У ёй магчымы паўтарэньні, пропускі і іншыя хібы. Усё гэта ад таго, што ня ўсе зьявы беларускае мовы вядомы этнографам. У програме ёсьць цяжкасьці і складанасьці, напр., вырашэньне пытаньняў аб дыфтонгах і дысіміляцыйным аканьні. Наколькі гэта складана, паказвае такі прыклад. Проф. Растаргуеў вывучаў дыялектолёгію Гомельскай губ., яе-ж вывучаў і Сержпутоўскі, і вось у запісах Сержпутоўскага паказаны дыфтонгі, а ў Растаргуева іх няма. І справядліва кажа адзін леніградзкі профэсар, што нельга шукаць запраўдных дыфтонгаў, што дыфтонгі— гэта адхіленьні ад чыстага вымаўленьня. Лепш гэтую зьяву называць ня дыфронгам, а поліфтонгам. Другі прыклад: у Акуліцкай воласьці Бранскай губ. рабіліся досьледы над мовай проф. Буддэ і акадэмікам Карскім, але вынікі былі розныя. З гэтае прычыны я лічу неабходным організацыю краязнаўчых курсаў, на якіх абавязкова выкладалася-б элемэнтарная фонэтыка беларускае мовы.

Адносна тэхнічнага боку справы неабходна сказаць наступнае. Ужо пачынаюць прысылацца адказы на анкеты. Атрыманы 3 такіх адказы. У некаторых адказах няма вестак, дзе напісана програма, хто складаў. Бязумоўна, трэба даваць дакладны адрас для географічнага вывучэньня тэй ці іншай зьявы,

Неабходна адзначаць, якая чыгуначная станцыя і ў колькіх вярстох ад вёскі, мова якой рэгіструецца ў програме. У раёне неабходна перш за ўсё зварачвацца да настаўнікаў 7-годак. Добра было-б, каб раённыя т-вы раскінулі програмы раўнамерна па раёне.

Сабраныя програмы ня ўсе, але лепшыя з іх будуць надрукаваны, за лепшыя з іх, магчыма, будуць выдадзены прэміі.

*Даўкша*. Прадмова да програмы вельмі сумарная. Ёсьць у програме хіба: не падкрэсьлена, што зьбіральнік павінен быць пахаджэньнем з таго раёну і добра ведаць свой раён. Прыклад Чавускі раён, у якім у аднэй вёсцы кажуць „еты", а ў 7 вярстох „гэты" а зьбіральнік, які запіша першую зьяву можа пашырыць яе на ўвесь раён.

*Казак*. Вывучэньне асаблівасьцяй беларускіх гаворак мы ўнесьлі ў плян свае працы. Па раёнах мы разаслалі па 10 экз. програм і прасілі вылучыць адказных за гэтую працу асоб. Цяпер ад некаторых таварыстваў мы ўжо атрымалі і адказы. Проф. Бузук гаварыў, што адказы будуць друкавацца ў працах ІБК, а я лічу, што некаторыя адказы трэба было-б надрукаваць і ў „Нашым Краі".

*Багдановіч*. Немагчыма вымагаць, каб зьбіральнік абавязкова быў з тае мясцовасьці, гэта тэхнічна будзе цяжка зрабіць. Неабходна затое дадаць да програмы весткі, дзе радзіўся, як пазнаёміўся з беларускай мовай і г. д. Няясна яшчэ ў програме, чым кіравацца ў выбары мясьцовасьці для запісаў.

*Крукоўскі*. На ўласнай практыцы мы пераканаліся, што чалавек, які робіць запісы дыялектолёгічныя ня ў тэй мясцовасьці, дзе радзіўся і доўга жыў, заўсёды ўнясе ў гэта характэрныя рысы свае мовы. Проф. Бузук, які шмат досьледаў рабіў на Мазыршчыне, няхай-бы апублікаваў іх, каб мясцовыя дасьледчыкі маглі рабіць параўнаньні.

*Сербаў*. Выступленьне Даўкшы цікава тым, што паказвае магчымасьць правесьці мяжу між крывічамі і радзімічамі ў Чавусаўскім раёне каля р. Басі. У Мазыршчыне шмат існуе дыялектаў самастойных, характэрных і чым больш будзе дасьледчыкаў, тым лепш.

*Мікалаеў*. У гэтай справе неабходны якіясьці мэтодычныя заўвагі, бо можа быць, што атрыманыя адказы не адаб'юць пераважных беларускіх гутарак. У зборы матар'ялаў па дыялектолёгіі павінен быць пэўны мэтодычны падыход.

*Бузук*. Усяго паступіла з адказамі 3 програмы: ад Шашалевіча, Замбржыцкага і яшчэ аднаго студэнта. Цікава было атрымаць програму ад Замбржыцкага, бо яна падкрэсьліла факт, што нават у аднэй і тэй-жа мясцовасьці існуе дзьве дыялектолёгіі: шляхта інакш кажа, чым няшляхта. Нельга вымагаць, каб запішчык быў з самае мясцовасьці, напр Сербаў і Раманаў далі запісы з другіх мясцовасьцяй. Запісы неабходна рабіць ад людзей, якія радзіліся ў самай мясцовасьці. Канешне, чым больш вестак аб самым запішчыку, тым лепш. З якіх мясцовасьцяй пажадана мець запісы? Добра было б, каб запісы з усіх вёсак былі сабраны. Тады рэдактарам магчыма будзе зрабіць абагульненьні. Атрыманыя матар'ялы будуць апублікаваны і ўжо рыхтуюцца да выданьня.

Ухвалілі: Даклад прыняць да ведама. Прызнаць правільнай пастанову ЦБК аб унясеньні ў плян працы краязнаўчых організацый вывучэньне асаблівасьцяй беларускіх гаворак па програме Бузука і Некрашэвіча; заклікаць яшчэ раз краязнаўчыя організацыі да правядзеньня гэтай працы, згодна зробленых т. Бузуком заўваг; прасіць аўтараў програмы даць на падставе высьветленых недахопаў дадатковыя тлумачэньні; лічыць неабходным унясеньне ў програму летніх настаўніцкіх або краязнаўчых курсаў элемэнтарных ведаў з фонэтыкі беларускае мовы; прасіць Гуманітарны Аддзел ІБК дасылаць краязнаўчым організацыям усе мэтодычныя матар'ялы па гэтым пытаньні; лічыць мэтазгодным выданьне матар'ялаў па досьледах мовы, якія праведзены ў тых ці іншых мясцовасьцях.

## б) Організацыя фэнолёгічнае справы ў БССР.

Даклад т. *Жураўскага*.

Вывучэньне клімату краіны ёсьць неразлучная частка вывучэньня прыроды наогул. У БССР вывучэньне клімату вядзецца з боку мэтэоролёгічных даных. Але нам вядома, што кліматолёгія ня мысьліцца без вывучэньня фэнолёгічнага. З гэтага боку ў БССР вядзецца некаторая праца. Нагляданьні фэнолёгічныя вяліся нашым Мэтбюро, але апублікаваць іх ня было магчымасьці і справа абагульненьня так і засталася ў паперах Мэтбюро. На ІІ-ім Усебеларускім Краязнаўчым Зьезьдзе была вынесена пастанова, каб нашы краязнаўчыя організацыі наладзілі фэнолёгічную справу. На зьезьдзе была прапанована програма гэтых нагляданьняў, былі дадзены некаторыя інструкцыі; на старонках „Нашага Краю" было зьмешчана некалькі артыкулаў па фэнолёгіі. Але мы ня бачым, каб гэтая праца дала прыкметныя вынікі. Толькі адна Мазырская акруга зрабіла значныя посьпехі ў гэтай справе. ЦБК, каб паставіць фэнолёгічныя нагляданьні належным чынам, склала пры ЦБК Фэнолёгічную камісію. І цяпер камісія апублікавала першую табліцу падагульненьняў. Табліца больш усяго (на 80 проц.) адбівае Мазыршчыну, у якой існуе 23 наглядальных пункты. Поўную табліцу ня было магчымасьці скласьці, бо мелася на ўвазе 67 момантаў, а ўсяго атрыма-

на адказаў 9 проц. Некаторыя пункты мала даюць адказаў, падыход да нагляданьняў да гэтага часу яшчэ вельмі разнастайны. Як вынік гэтага—паказаньні разыходзяцца. Напр., запісы ў Горках вельмі супярэчны. Фэнолёгічная камісія вызначыла плян працы: заснаваць па ўсёй БССР сетку фэнолёгічных пунктаў з разьлікам, каб у кожным раёне быў нагляда́льны пункт і была вылучана Райт-вам асоба, адказная за гэтую працу. Зразумела, у большасьці выпадкаў, наглядальнікамі будуць настаўнікі школ сямігодак. Раённыя т-вы павінны сачыць, каб гэтая справа ня спынялася. Мы імкнемся, каб пункты засноўваліся пры 7-ках і былі пад наглядам Рай-тваў. Некаторыя акругі зацікаўлены, каб вынікі нагляданьняў заставаліся на месцы для выданьняў. Фэнолёгічная камісія, каб забясьпечыць рэгулярнасьць працы, апрацавала форму блянкаў. Весткі па гэтай форме пасылаюцца 1 і 15 кожнага месяца ў 2-х экзэмплярах у акругу, адкуль 1 экзэмпляр пасылаецца ў ЦБК для канчатковай апрацоўкі. У програме, складзенай намі, да 80 об'ектаў нагляданьня, усё ў мэтодычных мэтах падзелена на VI разьдзелаў. У I разьдзеле (расьліны) лік об'ектаў скарочан—замест ранейшых 47, усяго 25. Усе гэтыя нагляданьні можа весьці кожны наглядальнік пад кіраўніцтвам настаўніка-прыродазнаўца. Зразумела, што школьным гуртком вельмі карысна весьці фэнолёгічныя нагляданьні. Маючы гэта на ўвазе, мы ўзгоднілі гэта пытаньне з Наркамасьветы і думаем, што гэта праца цяпер наладзіцца.

*Ляўчук.* Дакладчык кажа, што гэта праца не патрабуе шмат часу, што яе можа выканаць вучань. Я прывяду факт з уласнай практыкі. Мы ў Бярэзыні ў школе вялі нагляданьні і досыць доўга, але ня было інструкцый ад ЦБК і нашы даныя запрапалі. Калі будзем спадзявацца на вучняў, дык фэнолёгічныя назіраньні не дадуць вынікаў, альбо іх будзе мала. Гэтую працу наогул цяжка наладзіць. З нашае акругі нагляданьні прысылаюцца толькі ад 2-х таварыстваў.

*Даўкша.* У апублікаванай табліцы можна заўважыць няроўнасьць разьмеркаваньня фэнолёгічных нагляданьняў. Неабходна прыняць пад увагу тэрыторыю Беларусі. Нельга думаць, што Магілеўская акруга ня мае нікога, хто ўзяўся-б за гэтую справу. А ў нас выходзіць, што нагляданьні дае толькі адна Мазыршчына. У програме ёсьць недакладнасьці адносна часу нагляданьняў. Напісана: „час зьніканьня сьнегу". Адзін зразумее: пачатак зьніканьня, а другі канец яго. Таксама нявыразнае паняцьце „рух соку".

*Крукоўскі.* Фэнолёгічная Кямісія вызначыла заснаваньне аднаго фэнолёгічнага пункту ў раёне і абавязкова ў раённым цэнтры. З гэтым немагчыма згадзіцца. Мы, напр., заўважылі, што на Мазырскіх узвышшах замаразкі былі на тыдзень раней, чым у Жытковічах. На раёне неабходна мінімум 2 пункты, каб магчыма было контраляваць нагляданьні. Ня вельмі добра адчыняць пункт у самым цэнтры раёну, бо тут няма прыродных умоў (лес, птушкі). Організаваць фэнолёгічныя нагляданьні ня так цяжка. Як паказвае наша практыка, нават ёсьць тэндэнцыя да павялічэньня лікпунктаў. Ніякіх компэнсацый за гэта ня трэба, апрача пасылкі падагульненьняў наглядальнікам. Неабходна толькі лепш выдаваць іх, ня трэба скарачаць. Голую програму ня трэба выдаваць, неабходны тлумачэньні да яе.

*Макарэўскі.* Фітофэнолёгічныя нагляданьні маюць навуковае і практычнае значэньне. Іх можа выкарыстаць дзяржава ў кон'юнктурным сэнсе. Мы можам даць фэнолёгічныя константы. Спрэчак адносна гэтага ня можа быць. Падругое нам неабходна мець сталую сетку фітофэнолёгічных пунктаў на працягу 15-20 гадоў. Патрэцяе, не абавязкова, каб на раёне быў толькі адзін пункт, вельмі добра было-б, каб у кожнай вёсцы было гэта, але на першы раз нас задаволіла-б існаваньне аднае станцыі на раён. Яшчэ я дадаў-бы, што, зразумела, на настаўніка ўсё навальваюць і ён часта пераходзіць з аднаго месца на другое. Лепш было-б, каб нагляданьні вёў селянін, які ўвесь час жыве ў мёсцы. Да табліцы, зразумела, неабходна і програма. Ня трэба зьмешваць вядзеньне мэтнагляданьняў і фэннагляданьняў, а лепш весьці паасобна. Як прадстаўнік Беларускага Мэтбюро, я хочу падкрэсьліць яшчэ неабходнасьць заснаваньня на раёнах сьнегамерных станцый. Для дзяржавы гэта зусім неабходна. Каб у нас у кожным сельсавеце былі гэтыя пункты, дык мы ведалі-б, трэба перасяваць ці не, колькі на гэты перасеў трэба і г. д. Адносна надрукаванай табліцы трэба сказаць, што гэта першы вопыт, але надрукаваць неабходна было.

*Сербаў.* Крукоўскі сказаў, што ў мястэчках лепш ня ставіць пунктаў, бо няма прыродных умоў, але ў мястэчку таксама і сьнег ляжыць, і дрэвы ёсьць і пералёт птушак бывае. Програму неабходна папоўніць, у ёй прапушчана зазюля. Пра яе глуха сказана, трэба паказваць, калі яна прылятае і адлятае. Таксама неабходна было-б паказваць рух соку ў клёне, калі зазелянела жыта, авёс, калі пачынаюць пасьвіць жывёлу і калі канчаюць. Неабходна рэгістраваць навальніцу зімою, як напрыклад летась у студзені месяцы ў Менску была навальніца. Іншыя пункты програмы ясны.

*Васілеўскі.* Фэнолёгічны нагляданьні досыць пашыраны па школах, але яны не выкарыстоўваюцца і зьнікаюць адразу пасьля школьных выставак. Прыходзіцца гаварыць не аб організацыі гэтых нагляданьняў, а толькі аб іх коордынацыі. Апрацоўка картак бу-

дзе абцяжарваць Акруговыя Т-вы, лепш іх непасрэдна перасылаць у ЦБК. Памойму павінны быць апорныя пункты ў раёне, якія неабходна зьвязаць з ЦБК і неапорныя, якія могуць зьвязвацца толькі з акругай.

*Касьпяровіч.* Неабходна высьветліць арганізацыйна-мэтодычныя моманты справы. Калі мы ўкладалі мінімальную праграму фэннагляданьняў, нам прыходзілася скарачаць. Поўныя праграмы для спэцыяльных фэннагляданьняў зьмешчаны ў „Нашым Краі", напр., нагляданьні за дрэўнай расьліннасьцю. I я не стаяў-бы за павялічэньне об'ектаў нагляданьня. Ляўчук кажа, што настаўнікі абцяжараны. Я скажу, што чым бліжэй да гораду, тым больш крыку аб гэтым. Па Менскай акрузе настаўнікі не далі ніводнага фэннагляданьня. Правільна кажа Васілеўскі, што нагляданьні вядуцца, але іх не выкарыстоўваюць. Нам неабходна дабіцца, каб яны вяліся сялянамі. Сетку заснаваць зусім магчыма. Мы намецілі заснаваньне 1-га пункту на раён і я вітаю пажаданьне, высунутае на Пленуме, каб было два пункты на раёне. Мы тады зможам лепш выявіць выхад ізофэн з Мазырскае акругі ў другую акругу. Па погляду Аршанскага Т-ва лепш было-б, каб ЦБК апрацоўвала гэтыя карткі. А нам здаецца, што Акруговыя Таварыствы павінны быць Акруговымі Таварыствамі і працаваць па статуту. Па прычынах самастойных досьледаў неабходна, каб Акруговы Т-вы самі вялі гэтую працу. У Воршы ёсьць прыродазнаўцы, але яны ня хочуць весьці гэтую працу. Неабходна паслаць гэрбарыі ў заснаваныя пункты і даць апісаньні об'ектаў нагляданьня ў „Нашым Краі".

*Зьбіткоўскі.* Фэнолёгічныя нагляданьні— паступовыя зьмены зьяў, якія зьвязаны з павялічэньнем тэмпэратуры. Кожная зьява мае пачатак, пашырэньне і канец, ёсьць заўсёды паступовае нарастаньне. З гэтае прычыны фэннагляданьні не такія лёгкія, як здаецца. Паасобныя нагляданьні будуць добра весьціся, але будуць адхіленьні. Масавасьць пунктаў можа выправіць памылкі. Праграма няпоўная, але хацелася „обнять необ'ятное" і зьвязаць з другімі праграмамі. Гэта прывяло к некаторым скарачэньням. Нагляданьні гэтыя справа аматараў, і прывязаньне да сталых пунктаў не палягчае рост справы, а перашкаджае. У „Нашым Краі" шмат праграм, але адказаў няма. Неабходна сувязь аматараў на мясцох з спэцыялістымі ў цэнтрах.

*Даўкша.* Касьпяровіч думае, што Інбелкульт можа быць на мясцох. Але гэта песьня далёкіх часоў. Калі даваць шырокія магчымасьці апрацоўваць даныя на мясцох, гэта будзе рызыкоўна. Мы ня ведаем добра, ці падрыхтавана да гэтае тое ці другое Акруговае Таварыства. На настаўнікаў ня трэба вялікіх надзей ускладаць.

*Жураўскі.* Лік прамоўцаў паказвае, што справа блізкая і патрэбная. Мы разумеем, што фэнолёгічная станцыя ня ёсьць прылада, а толькі чалавек, які хоча весьці нагляданьні. Ня трэба спрачацца, колькі такіх пунктаў неабходна ў раёне. Для нас адзін пункт—гэта мінімум. Курс на шпаркае пашырэньне павінен быць асьцярожным. Раённаму Таварыству відней, дзе трэба пункт паставіць. Местачковая сямігодка мае магчымасьць шырэй працу разгарнуць, бо ў ёй вучні з розных пунктаў раёну. Адносна апрацоўкі нагляданьняў неабходна падкрэсьліць, што Акруговыя Т-вы будуць падагульняць, а ЦБК канчаткова апрацоўваць. Да праграмы зразумела патрэбна тлумачэньне. У далейшым праграму можна пашырыць. Наогул праграма складзена здавальняюча, бо асаблівых супярэчаньняў адносна пунктаў яе ня было.

Ухвалілі: Арганізацыю фэнолёгічнага цэнтру ў форме камісіі ЦБК лічыць сваечасовай і неабходнай; даручыць Цэнтральнай Фэнолёгічнай Камісіі арганізаваць сетку фэнпунктаў—з разьлікам ня менш 2 на раён, якія павінны пасылаць свае нагляданьні ў Акруговыя таварыствы на 1 і 15 чысло кожнага месяца; а Акруговыя Т-вы ў ЦБК на 1 чысло кожнага месяца; Фэнкамісіі даручыць друкаваць абагульненьні 3 разы ў год у „Нашым Краі"; даручыць ЦБК надрукаваць патрэбны лік блянкаў першапачатковых нагляданьняў, блянкаў—абагульненьняў, даць апісаньне об'ектаў нагляданьняў і ўсё гэта разаслаць па мясцох; надрукаваць абагульненьні, і як прэміі, пасылаць наглядальным пунктам.

**6. а) Інформацыя аб краязнаўчай справе ў Гомельшчыне.**

Даклад т. *Мікалаева.*

Гомельскае Акруговае Т-ва організавалася з быўшага Гомельскага губ. бюро краязнаўства 7 лютага г. г. 27-га красавіка быў склікаты першы агульны сход сяброў т-ва і было абрана праўленьне ў ліку 11 сяброў і рэвізійная камісія ў ліку 3-х чалавек. Лік сяброў т-ва ў сучасны момант 41. У праўленьне пераважна ўваходзяць працаўнікі асьветы і гэта палажэньне ня зусім нармальнае ў адносінах да т-ва, акое будзе працаваць у акруговым маштабе. Праца таварыства вядзецца ў 5 сэкцыях: грамадзка-экономічнай, культурна-гістарычнай, прыроднагеографічнай, школьнага краязнаўства і яўрэйскай культуры. У пэрыодзе афармленьня сэкцыя польскай культуры. У складзе прыродна-географічнай сэкцыі працуе падсэкцыя аховы прыроды, а ў складзе культурна-гістарычнай сэкцыі — Слоўнікавая Камісія. Кіраўнікамі сэкцый зьяўляюцца сябры праўленьня. Кожная Сэкцыя склала плян працы, які зацьвердзіла праўленьне. Грама-

дзка-эканомічная сэкцыя сваёй працы не разгарнула, хоць і намеціла зусім конкрэтны плян працы. Прычына—адсутнасьць да апошняга часу краязнаўчых пунктаў на мясцох Сэкцыя зрабіла спробу правесьці абсьледваньні саматужных предпрыемстваў пры дапамозе райпэдсаветаў і саветаў школы, але толькі нязначная частка гэтых організацый адклікнулася. Культурна-гістарычная сэкцыя за гэты час правяла чатыры пасяджэньні і на іх абмеркавала пытаньні: аб складаньні культурна-гістарычнага зборніка аб Гомелі, аб бібліографіі Гомельшчыны, аб карыстаньні Гомельскімі архіўнымі матар'яламі, аб зьбіраньні слоўніка Гомельшчыны і аб удзеле сэкцыі ў археолёгічнай экспэдыцыі Інбелкульту ў Бердыш Чачэрскага раёну. Летам г. г. па даручэньні сэкцыі сябром яе былі праведзены раскопкі каля Старага Сяла і ва ўрочышчы Астахава Гара Гомельскага раёну. Прыродна-географічная сэкцыя правяла 4 пасяджэньні. Сэкцыя азнаёмілася з пастаноўкай мэтнагляданьняў у Н. Беліцы, даручыла сябру сэкцыі т. Струніну распрацаваць пытаньні адносна гідролёгічных нагляданьняў на Гомельшчыне, пачала зьбіраць матар'ялы па флёры акругі, паслала ў Горкі свайго прадстаўніка для азнаямленьня з працай ботанічнага саду. Сэкцыя заслухала такія навуковыя паведамленьні: 1) „геоботанічныя досьледы па рэках Узе, Бялічанцы, Рандоўцы і Кабылянскім балоце"—даклад т. Кужалевіч. Гэты даклад быў зачытан і ў Менску на конфэрэнцыі па вывучэньні вытворчых сіл; 2) Аб пустазельлі і шкодніках палёў—даклад т. Крылова; 3) Агляд рыбнай гаспадаркі Гомельскай акругі—даклад т. Хіжнякова і 4) Аб бабровых колёніях на Гомельшчыне—даклад т. Хіжнякова. Сэкцыя зрабіла хадайніцтва перад АВК аб неабходнасьці закладкі заказьніка на Лявонцяўскай дачы, дзе ёсьць дзікія козы, аб ахове старых дубоў на лугох в. Хвёдараўкі і аб неабходнасьці аховы колёній бброў у Камарынскім раёне. Акруговым Т-вам праведзена такая організацыйная праца. Для популярызацыі краязнаўства ў газэце „Полеская правда" надрукавана некалькі артыкулаў і заметак па гэтым пытаньні. Праведзены даклады і гутаркі на конфэрэнцыі сакратароў ячэек КСМ Гомельскага раёну, на нарадзе райпэдсаветаў, на курсах палітасьветпрацаўнікоў Гомельскае акругі. Для організацыйнага афармленьня краязнаўчага руху на Гомельшчыне была склікана 1-ая Гомельская Акруговая Конфэрэнцыя краязнаўчых організацый, на якой прысутнічала больш 30 сяброў. У сучасны момант, дзякуючы падтрыманьню ЦБК, у раёнах Гомельскае акругі створаны ініцыятыўныя групы, якія закладаюць раённыя таварыствы краязнаўства. Так пры дапамозе інструктажу ЦБК заснаваліся раённыя таварыствы краязнаўства ў наступных раёнах акругі: Чачэрскім, Веткаўскім, Лоеўскім, Камарынскім, Брагінскім, Хойніцкім. Нядаўна яшчэ організаваліся таварыствы ў Церахоўцы і Уваравічах. Сродкі Таварыства вельмі нязначныя і выключна складаюцца з сяброўскіх адлікаў. Ня ў прыклад іншым Акругам, Гомельскі АВК у мінулым бюджэтным годзе нічога не даваў Акруговаму таварыству. Таварыства працавала на вельмі мізэрныя сродкі (149 р. у год) і разгарнуць працу не магло. У гэтым годзе намі складзены каштарыс у суме 3.300 руб., але АВК зацьвердзіў 1500 руб. Гэтая, сума скасавана нарадай акруговых фінінспэктароў у Менску. Калі ўдасца абараніць наш каштарыс, дык Таварыства зможа ў гэтым годзе шырака разгарнуць працу. У портфэлі Таварыства ёсьць падрыхтаваныя матар'ялы для зборніка „Гомельшчына".

Ухвалілі: Інформацыю т. Мікалаева прыняць да ведама. Даручыць ЦБК організаваць грамадзкую думку Гомельшчыны вакол пытаньня аб краязнаўчай працы ў акрузе і зрабіць захады перад адпаведнымі органамі ўлады аб адводзе памяшканьня для Гомельскага Акруговага Таварыства Краязнаўства.

### Інформацыя археолёгічнай камісіі.

Даклад т. *Ляўданскага.*

Беларусь у фізычна-географічных адносінах для археолёгіі зьяўляецца надзвычайна цікавай. Праз яе адбываўся ўвесь гандаль у стары час. Тут перакрыжоўваліся шляхі з Балтыцкага ў Чорнае мора, з усходу на захад. Таксама надзвычайна важна вывучэньне палеоліту і наогул каменнага веку на Беларусі. Палеоліт на Беларусі мае значную цікавасьць і для Эўропы, бо ён дае магчымасьць знайсьці адсутнічаючыя зьвёны і вырашыць пытаньне аб міграцыях плямён. Да рэволюцыі палеоліт на Беларусі амаль зусім ня быў вядомым. Неабходна таксама вывучаць помнікі на Беларусі, бо яны дадуць магчымасьць высьветліць межы неславянскіх і славянскіх плямён. З гэтай мэтай неабходна вывучаць курганы, гарадзішчы, селішчы. У гарадзішчах можна адшукаць бытавы матар'ял. Археолёгічная Камісія зараз праводзіць вучот помнікаў, складае картолёгічны каталёг. Неабходна, каб краязнаўчыя таварыствы дапамаглі нам у гэтым. Урэшце неабходна наладзіць ахову помнікаў. Апошнія разбураюцца ўсялякім чынам. Камісій аховы прыроды больш ня існуе, неабходна каб мясцовыя краязнаўчыя організацыі ўзяліся за гэтую справу.

Ухвалілі: Даклад прыняць да ведама. Зрабіць належныя мерапрыемствы, каб наладзіць ахову помінкаў прыроды і старажытнасьці на мясцох.

**Інформацыя Мэтбюро Беларусі.**
(т. *Макарэўскі*).

У Крыме адбылася вельмі моцнае зямлятрасеньне. Украінскае Мэтбюро вывучае межы распаўсюджаньня гэтае зьявы. Бязумоўна, зямлятрасеньне адчувалася і на Беларусі некаторымі людзьмі. Я зварачваюся да ўсіх вас, асабліва да прадстаўнікоў паўднёвых акруг, зарэгістраваць гэтыя магчымыя выпадкі адчуваньня лёгкіх падземных штуршкоў. Другая просьба: ад імя Геофізычнай службы Беларусі, якая існуе пры Дасьледчым Інстытуце, прашу як-мага пашырыць сьнегамерныя нагляданьні. Па гэтым пытаньні я хацеў-бы перагаварыць пасьля пасяджэньня з прадстаўнікамі Меншчыны, Гомельшчыны, Віцебшчыны.

**Інформацыя рэдакцыі газ. „Зьвязда“.**
(тав. *Купцэвіч*).

Аднэю з мэт нашай газэты зьяўляецца ўсебаковая інформацыя нашых чытачоў аб мясцовым жыцьці. За апошні час краязнаўчы рух зрабіўся масавым і пачынае ўцягваць усё больш лік рабочых і сялян. Краязнаўства адыгрывае вялікую культурную ролю. Рэдакцыя газэты „Зьвязда“ жадае дапамагчы гэтай справе і заклікае ўсіх краязнаўцаў пісаць у газэту аб сваёй працы. Для гэтага „Зьвязда“ адводзіць значнае месца краязнаўству і просіць пашырыць сярод краязнаўцаў і савецкіх працаўнікоў нашую газэту.

**Інформацыя нам. старшыні ЦБК.**
т. *Казака.*

Перад зачыненьнем Пленуму неабходна сказаць аб нашай чарговай працы. На працягу зімовага пэрыоду нам прыдзецца зьвярнуць асаблівую ўвагу на правядзеньне акруговых конфэрэнцый, на якіх мы абгаварылі-б мэтоды працы зімою. Справа ў тым, што ўсё-такі наша праца галоўным чынам праводзіцца зімою, а ўлетку ўсе краязнаўцы разьяжджаюцца. Падругое, нам неабходна задумацца над тым, якім чынам захаваць наш часопіс „Наш Край“. У мінулым годзе зьменшылі каштарыс часопісу, цяпер яго яшчэ больш зьмяншаюць. З прычыны гэтага нам неабходна павялічыць падпіску на „Наш Край“.

*Ляўчук.* 2-гі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд пастанавіў, каб часопіс быў павялічаны ў разьмеры, каб ня было падвойных №№, а цяпер мы гаворым аб скарачэньні. Гэтага не павінна быць. Трэба дабівацца пэўных сродкаў на гэта.

*Крукоўскі.* Мая прапанова.—Акруговыя Таварыствы павінны давесьці падпіску на „Наш Край“ да 100 экз. на акругу. Пры гэтай умове высылаць організацыям часопіс бясплатна. Неабходна адвесьці ў часопісе авансавае месца акругам для прысылкі матар'ялаў.

*Мікалаеў.* Неабходна, каб ЦБК умовілася з Політасьветай аб выпісцы „Нашага Краю“ для хат-чытальнь.

*Мялешка.* Ад імя Пленуму неабходна прасіць ІБК павялічыць сродкі на „Наш Край“.

*Казак.* Адносна павялічэньня сродкаў на „Наш Край“ ня прыходзіцца думаць. Была нават тэндэнцыя зачыніць часопіс і неабходна Пленуму падкрэсьліць каштоўнасьць „Нашага Краю“. Калі мы хочам захаваць яго, неабходна пашырыць падпіску.

*Касьпяровіч* „Наш Край“ ня мае сталага бюджэту. Трэба даручыць ЦБК, каб „Наш Край“ меў сталы бюджэт. Падругое, неабходна спыніць бясплатную рассылку „Нашага Краю“. Гэта будзе стымулам для павялічэньня падпіскі. Крукоўскі правільна прапануе павялічыць падпіску да 100 экз. на акругу. Памойму неабходна яшчэ тым акругам, якія дадуць найбольшы лік падпісчыкаў да вядомага тэрміну, адвесьці спэцыяльны № „Нашага Краю“.

Ухвалілі: Даручыць акруговым таварыствам давесьці лік падпісчыкаў „Нашага Краю“ па сваіх акругах да 100 ў кожнай; даручыць ЦБК дабіцца ў Прэзыдыуме ІБК сталага каштарысу па „Нашаму Краю“; спыніць бясплатную рассылку „Нашага Краю“. Для акругі, якая дасьць найбольшы лік падпішчыкаў к 1 студзеня, выпусьціць спэцыяльны № „Нашага Краю“; даручыць ЦБК пашырыць падпіску па ведамствах.

На гэтым Пленум зачыняецца.

## Krajoznawstwo Polskie w chwili obecnej.

Polska praca krajoznacwza na terytorjum B. S. S. R nie jest bynajmniej zjawiskiem nowym. Rozwijała się ona stale od chwili, gdy ustała zawierucha wojenna, a stworzyły się warunki dogodne dla pracy naukowej... W ciągu lat ostatnich tu i owdzie powstawały samorzutnie nieraz sekcje polskie przy okręgowych lub nawet rejonowych organizacjach krajoznawczych. Pracowały one z mniejszym lub większym zrozumieniem swych zadań, mniej lub bardziej systematycznie, zależnie od wiedzy lub energji swych członków i kierowników, lecz zawsze cierpiały na zasadniczą wadę, której przyczyna tkwiła poza granicami ich kompetencji, a mianowicie na chroniczny brak kontaktu pomiędzy sobą, na brak ideologicznego, naukowego, organizacyjnego kierownictwa z centrum. Do usunięcia tej wady w znacznej mierze przyczyniło się w paźdz. z. r. 1926 stworzenie etatu polskiego instruktora CBK, który to etat obsadzony został dopiero od 1 stycznia r. 1927. Odrazu niemal dał się odczuć pewien ruch w skali ogólno-białoruskiej, oczywiście przedewszystkim w kierunku or-

ganizacyjnym. W połowie stycznia zamieszczony został w prasie artykuł—odezwa p. t. „Zajmijcie się sprawą krajoznawczą", zawierający szereg wskazówek ogólnych, dotyczących działalności organizacji polskich; dnia 21 stycznia wysłano korespondentom polskim instrukcję do zbierania materjałów w celu stworzenia wydziału polskiego przy białoruskim muzeum państwowym, zaś 31/I instrukcja do zbierania słów żywej mowy polskiej. W marcu nawiązany został ścisły kontakt z mińską PTP oraz miejscowemi siedmiolatkami. Najbardziej czynne kółka np. horeckie (przy instytucie), najenergiczniejsi korespondenci, postarali się jak najrychlej nawiązać stosunki z centrum i dostarczyli pewnej ilości materjałów, inni trzymali się wyczekująco... Pierwszym krokiem w kierunku przejścia ze stadjum organizacyjnego do roboty praktycznej, była polska ekspedycja folklorystyczno-krajoznawcza do rejonu Osipowickiego w lipcu r. b. Nie dała ona, co prawda, możności zbadać stan pracy krajoznawczej rejonu, gdyż przypadła na czas wakacyjny t. j. w okresie, gdy najczynniejsi pracownicy na niwie krajoznawczej, nauczyciele i uczniowie wykorzystani być nie mogli. Jednak, pomimo znacznych przeszkód natury zarówno politycznej, jak gospodarczej, ekspedycja zgromadziła sporo materjałów, których opracowanie w danej chwili stanowi jądro pracy naukowo-krajoznawczej w centrum. Jednocześnie w dalszym ciągu rozwija się działalność organizacyjna, która wytknęła sobie jak cel najbliższy ponowną, a jak najdokładniejszą rejestrację wszystkich ośrodków polskich, a zwłaszcza stowarzyszeń krajoznawczych na terytorjum BSSR. Wyż wymieniona rejestracja musi być zdaniem moim w znacznym stopniu oparta na osobistym zbadaniu stanu rzeczy przez instruktorów CBK w celu założenia nowych organizajci krajoznawczych lub instruktowania już istniejących.

Dauksza.

## Зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу.

Да 1 кастрычніка зарэгістравана ў кнігах Слоўнікавай камісіі ўсяго 112.165 адзінак карткаслоўных паступленьняў з месц.

Па акругах гэты матар'ял разьмяркоўваецца ў круглых лічбах:

| | | |
|---|---|---|
| Віцебшчына | да 45.000 | к.-сл. |
| Меншчына | „ 15.000 | „ |
| Бабруйшчына | „ 10.000 | „ |
| Магілеўшчына | „ 10.000 | „ |
| Случчына | „ 8.500 | „ |
| Барысаўшчына | „ 7.000 | „ |
| Калініншчына | „ 5.000 | „ |
| Аршаншчына | „ 5.000 | „ |
| Гомельшчына | „ 2.500 | „ |

Рэштка прыпадае на Заходнюю Беларусь, Мазыршчыну, Полаччыну і Смаленшчыну.

Мазырскай Акруговай Краязнаўчай арганізацыяй сабрана 20.000 к.-сл., Калінінскай—12.000 к.-сл., Аршанскай—10.000 к.-сл. З Полаччыны даведак няма.

З матар'ялаў, што маюцца ў Слоўнікавай Камісіі, 32.914 картак складаюць словы, сабраныя для Віцебскага краёвага слоўніка.

„Віцебскі краёвы слоўнік" зьмяшчае ў сябе 9.703 словы.

Чэрвенскім краязнаўцам М. Шатэрнікам пададзена ў камісію першая палова складзенага ім „Чэрвенскага краёвага слоўніка" на літ. А-Н (5.665 к.-сл.).

З паасобных краязнаўчых організацый найбольш вызначыліся сваёй дапамогай непасярэдна камісіі:

Краязнаўчы гурток студэнтаў Менскага Беларускага Пэдтэхнікуму (да 5.000 к.-сл.).

Краязнаўчы гурток студэнтаў Рагачэўскага Пэдтэхнікуму (да 2500 к.-сл.).

Краязнаўчы гурток студэнтаў Магілеўскага Каморніцкага тэхнікуму (да 2.500 к.-сл.).

Запішчыкаў на мясцох зарэгістравана ў кнігах Слоўкам. да 2.100 асоб.

Вызначаны прэміі наступным асобам:
Ватыня К. (Меншчына—2815 к.-сл).
Ваўчку Л. (Случчына—2200 к.-сл.).
Вінаградаву А. (Барысаўшчына—1320 к.).
Гуршновічу Сьц. (Шацкі раён—1000 к.).
Бабіцкаму А. (Меншчына—990 к.-сл.).
Казлоўскаму А. (Віцебшчына—1062 к.).
Калядку С. (Случчына—1066 к.)
Катаневічу Ів. (Аршаншчына—1747 к.).
Мацьвяёнку Ів. (Магілеўшчына—1178 к.).
Мурашка С. (Меншчына—1000 к.).
Палескаму М. (Віцебшчына—2077 к.)
Сержпутоўскаму А. К.(Случчына—1357 к.).
Самцэвічу П. (Барысаўшчына—1455 к.).
Шашалевічу А. (Калініншчына—2915 к.).
Усяго выдана прэмій 428 р. 30 к.

Рэдакцыйным апаратам Камісіі прарэдагавана ўсяго 35.925 картак-слоў з мейсц.

Нав. сакратар Слоўнікавае камісіі

М. Байкоў.

## Этнографічныя экспэдыцыі.

За мінулы акадэмічны год адбылося 3 этнографічныя экспэдыцыі для вывучэньня акраін этнографічнай Беларусі на поўначы, усходзе і на поўдні.

Першая з гэтых экспэдыцый, пад кіраўніцтвам этнографа А. К. Сержпутоўскага, ахапіла паўночную краіну па Себескім, Невельскім і Вяліскім павету б. Віцебшчыны, а цяпер Пскоўскай губэрні. Летась гэтую краіну ад латвійскай граніцы да Вяліжу прарэзала этнографічная экспэдыцыя пад кіраўніцтвам этнографа І. А. Сербава, а таму А. К. Сержпутоўскі ўзяў на сябе правесьці тут некаторыя этнолёгічныя назіраньні і зьбіраньне фольклёрных матар'ялаў, пераважна казак і прыказак.

Другая экспэдыцыя, у складзе этнографа І. А. Сербава і навуковага супрацоўніка А. А. Шлюбскага, прарэзала паўночна-ўсходнюю краіну Беларусі, па маршруту: Смаленск—Парэчча—Вяліж—Шчучэйскае возера—Белы—Ржэў, Цьвярской губэрні. У задачы экспэдыцыі ўваходзілі наступныя досьледы: правесьці агульна-этнографічныя назіраньні краіны, з боку жывой мовы, народнага быту і культуры матар'яльнай і духоўнай, а таксама зьбіраньне этнографічных матар'ялаў шляхам запісаў і фотографаваньняў.

Трэцяя экспэдыцыя, пад кіраўніцтвам лінгвіста П. А. Бузука, ахапіла ўсходнюю і паўднёвую мяжу Беларусі, па маршруту: Рослаў—Бранск—Гомель — Гародня — Чарнігаў—Лоеў—Рачыца—Мазыр і Тураў да Князь Вазерскага раёну.

Акрамя таго, Сербаў на працягу мінулага лета сабраў этнографічныя матар'ялы па Быхаўскім і Прапойскім раёнах, Магілеўскай акругі.

## Пленум Мазырскага Акруговага Т-ва Краязнаўства.

27—29 верасьня г. г. у Мазыры адбыўся пашыраны пленум Акруговага Т-ва, на якім прысутнічала 10 сяброў ад Акруговаго Т-ва, прадстаўнік ЦБК, 8 прадстаўнікоў ад раённых т-ваў, 3 прадстаўнікі ад Мазырскіх школьна-краязнаўчых гурткоў. Пленум заслухаў: 1) справаздачу праўленьня Акруговага Т-ва (даклад т. Крукоўскага), 2) справаздачу Пятрыкоўскага раённага т-ва (даклад т. Краўчанкі), 3) аб нацыянальных элемэнтах у краязнаўчай працы (даклад т. Бабіцкага і Куркевіча), 4) монографічнае вывучэньне паселішч (даклад т. Лукашэвіча), 5) аб задачах і чарговай працы культурна-гістарычных сэкцый краязнаўчых організацый (даклад т. Сіманава) і 6) аб зборы матар'ялаў для географічнага слоўніка Мазыршчыны (даклад т. Крукоўскага).

За справаздачны год праца праўленьня Акруговага Т-ва была накіравана ў першую чаргу на організацыю і афармленьне краязнаўчай сеткі, на популярызацыю і вызначэньне зьместу працы організацыі, а потым ужо на організацыю навукова - дасьледчай працы т-ваў краязнаўства. У організацыйным напрамку і ў мэтах популярызацыі краязнаўчай працы краязнаўчымі т-вамі Мазырскае акругі праароблена такая праца: аформлены раённыя т-вы краязнаўства, закладзены гурткі пры сельсаветах і навучальных установах; акруговым праўленьнем абсьледваны і праінструктаваны 6 раённых т-ваў краязнаўства, праведзены ва ўсіх раёнах раённыя краязнаўчыя конфэрэнцыі і адна акруговая конфэрэнцыя; у мэтах поупулярызацыі ў самым горадзе на розных сходах і конфэрэнцыях прачытана 22 даклады, а ў адным з раёнаў (Лельчыцкім)— 14 дакладаў. Аналёгічная популярызацыйная праца вялася і другімі райт-вамі. Популярызацыя краязнаўчай працы вялася і праз газэту: за год акруговым т-вам напісана ў газэце 19 артыкулаў і заметак. У мэтодычным напрамку акруговым праўленьнем праароблена значная праца: па раёнах разасланы пляны працы сэкцый, разасланы анкеты і інструкцыі для вядзеньня фэнолёгічных нагляданьняў, па гідролёгіі, па апісаньні глін, жалезнае руды, па зьбіраньні слоўніка жывой мовы, па апісаньні помнікаў старасьветчыны. Праўленьнем выпісана на кожны раён ад 3—5 экзэмпляраў „Нашага Краю".

Усяго па акрузе 711 сяброў краязнаўчых організацый, з іх 502 мужчыны і 209 жанчын. Па партыйнасьці 85 сяброў і кандыдатаў партыі і 149 комсамольцаў. Па профэсыянальнасьці сяброў саюзу працасьветы 355, іншых саюзаў 356. Беларусоў у організацыях 546 і яўрэяў 107.

Праца ў краязнаўчых т-вах звычайна вядзецца па сэкцыях: грамадзка-экономічнай, культурна-гістарычнай, прыродна-географічнай, яўрэйскай. Пры Акруговым Т-ве існуе яшчэ польская сэкцыя. Фотосэкцыя, у задачы якой уваходзіць фотографаваньне і зарысоўкі.

Навукова-дасьледчая праца краязнаўчых організацый акругі за мінулы год была накіравана на зьбіраньне краязнаўчых матар'ялаў. Гэтае зьбіраньне вялося ў 2-х напрамках: 1) для навуковых устаноў БССР і СССР і 2) для акруговага т-ва краязнаўства. У галіне грамадзка - экономічнай організацыямі акругі сабраны матар'ялы: слоў жывой мовы 20.135, з іх узята для слоўніка 8.000 слоў; фольклёру—1.325 №; апісаньняў бытавога характару 26; экономічнага характару — 2. Апрача гэтага сябрамі акруговага т-ва ў 5 раёнах праведзены дыялектолёгічныя досьледы. Акруговае т-ва ўключыла свайго прадстаўніка ў склад экспэдыцыі, якую наладзіў Усесаюзны Музэй Народазнаўства, і такім чынам прадстаўнік т-ва зрабіў 200 зарысовак прадметаў матар'яльнай культуры і сабраў 20 экспонатаў па гэтай галіне. Частку гэтых зарысовак т-ва аддае музэю народазнаўства, у замену чаго ад яго возьме шмат плянаў тыповых сялянскіх двароў і 40 фотографічных здымкаў прадметаў матар'яльнай культуры. Для ІБК на працягу году зьбіраліся матар'ялы аб саматужнай прамысловасьці, монографіі паселішч і матар'ялы аб тэхніцы ральніцтва.

У культурна-гістарычным напрамку сабрана: старых докумэнтаў—5, старажытных рэчаў—20, монэт — 76, вынаходак стаянак першабытнага чалавека—22, апісаньняў культурна-гістарычных 45.

У прыродна-географічным напрамку нашы краязнаўчыя організацыі найбольш разгарнулі сваю працу. За справаздачны год т-вы акругі далі: фэнолёгічных нагляданьняў 146, гідролёгічных апісаньняў 62, геоботанічных 40, гэрбарных экзэмпляраў 297, энтомолёгічных 242, мэтэоролёгічных нагляданьняў 20, апісаньняў розных глін 50, апісаньняў жалезнай руды—10, палеонтолёгічных экспонатаў—5, мінэралёгічных экспонатаў—105.

Гідролёгічныя нагляданьні адсылаліся Ленінградзкаму Гідролёгічнаму Інстытуту, фэнолёгічныя—ЦБК Беларусі і ЦБК РСФСР. Мэтэоролёгічныя—Мэтбюро БССР.

Апрача гэтага прыродна-географічныя сэкцыі складаюць географічны слоўнік Мазыршчыны. Праца гэта толькі распачалася, але ўжо з літаратурных крыніц выбраны апісаньні 87 об'ектаў.

Яўрэйская сэкцыя Акруговага Т-ва апрацавала інструкцыю па зборы фольклёру, па вывучэньні мястэчак, сабрала да 300 слоў жывой мовы. Польская сэкцыя працы яшчэ не разгарнула.

Фотосэкцыя сфотографавала да 50 розных об'ектаў. У мэтах пашырэньня навуковадасьледчае працы Праўленьне Акруговага Т-ва. краязнаўства вяло перагаворы аб выезьдзе ў Мазырскую акругу дзьвюх экспэдыцый з цэнтраў. На Мазыршчыне мінулым летам былі дзьве экспэдыцыі: 1) экспэдыцыя Краязнаўчага Т-ва БДУ на Тураўшчыну, 2) экспэдыцыя Цэнтральнага Музэю Народазнаўства ў Маскве па вывучэньні матар'яльнай культуры. У склад 1-ае экспэдыцыі было прыкамандыравана 12 сяброў Тураўскага раённага т-ва і 2 сябры Мазырскага Акруговага Т-ва; у склад 2-ой экспэдыцыі быў прыкамандыраваны 1 сябра Акруговага Т-ва. Значэньне гэтых экспэдыцый у нашай працы было вельмі вялікае: яны дапамаглі некаторай частцы нашых краязнаўцаў кваліфікавацца. Напр., адзін наш краязнўца, які прымаў удзел у экспэдыцыі БДУ, пасьля вынайшоў 17 стаянак першабытнага чалавека. Падругое супольная праца нашых організацый з экспэдыцыямі ад цэнтральных навуковых установаў дапамагла стварэньню прэстыжу, навуковага аўторытэту нашых краязнаўчых т-ваў.

Заслухаўшы справаздачу праўленьня Мазырскага Акруговага Т-ва, пленум пастанавіў: 1) правесьці кампанію перавыбараў праўленьняў райт-ваў; 2) падрыхтаваць акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю і склікаць яе ў студзені—лютым 1928 г.; 3) наладзіць сэкцыйную працу т-ваў, дзеля чаго пажадана сэкцыйную працу праводзіць групамі, якія могуць быць наступныя: па вывучэньні паселішч, саматужных заняткаў, па вывучэньні бюджэту селяніна ці рабочага, па вывучэньні фольклёру і дыялектолёгіі, ботанікі, геолёгіі, архэолёгіі і г. д.; 4) зьвярнуць вялікую ўвагу на організацыю экскурсій і экспэдыцый, наладзіўшы загадзя падрыхтоўку да іх; асабліва неабходна ў склад экспэдыцый навукова-дасьледчых цэнтральных установаў, якія пасылаюцца на Мазыршчыну, уключаць як-мага больш сяброў краязнаўчых організацый Мазыршчыны; 5) організаваць акруговы краёвы музэй, лябораторыю і дасьледчы гарод; 6) наладзіць выдавецкую чыннасьць акруговага т-ва краязнаўства, у першую чаргу выдаць географічны слоўнік Мазыршчыны і Акруговы краязнаўчы зборнік. Апрача гэтага пленум вызначыў чарговыя працы кожнай сэкцыі Акруговага і раённых т-ваў краязнаўства.

Справаздачны даклад Пятрыкоўскага раённага т-ва краязнаўства падкрэсьліў няспрыяючыя ўмовы для працы. Ня гледзячы на гэта, т-вам за 1926-27 год сабрана: слоў 451, песень 29, фэнолёгічных абагульненьняў—3, гідролёгічных анкет 3, апісаньняў глін—2, апісаньняў гістарычных—1, апісаньняў прыроды—2 і г. д.

У рэзолюцыі па дакладзе аб нацыянальных элемэнтах у краязнаўчай працы пленум прызнаў неабходным: увесьці ў склад праўленьняў райт-ваў упаўнаважаных для вядзеньня краязнаўчай працы сярод польскага і яўрэйскага насяленьня, правесьці організацыю гурткоў краязнаўства пры нацсаветах, вывучаць культурна-гістарычныя і бытавыя моманты жыцьця нацменшасьцяй і наладзіць монографічнае вывучэньне 4 селішч (Азарычы, Давыдаўка, Сытні і Аляксандраўкі).

Па дакладзе аб монографічным вывучэньні паселішч пленум, абгаварыўшы програму гэтага вывучэньня, складзеную акруговым т-вам, прызнаў неабходным распачаць вывучэньне гаспадаркі, быту і соцыяльнагаспадарчых зьмен у вёсцы за апошнія 60—70 гадоў і падрабязнае высьвятленьне падзей на Мазырскай вёсцы за рэволюцыйны пэрыод. Крыніцамі вывучэньня прызнаны: архіўныя даныя, справачнікі земстваў, матар'ялы сучаснай вёскі, апавяданьні насельнікаў.

Па дакладзе аб чарговай працы культурна-гістарычных сэкцый т-ву краязнаўства пленум пастанавіў на працягу гэтага году правесьці поўны падлік і апісаньне помнікаў культуры і адначасна наладзіць ахову іх, скласьці архэолёгічную карту раёну да 1 чэрвеня г. г., сабраць матар'ялы аб рэўруху раёну, запісаць народную творчасьць у 5 мясцох раёну і г. д.

Урэшце па дакладзе аб зборы матар'ялаў для географічнага слоўніка Мазыршчыны пленум прызнаў гэтую працу неабходнай і неадкладнаю ў мэтах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва Мазырскай акругі.

# Праца Сеньніцкага раённага таварыства краязнаўства.

Да сьнежня 1926 г. працы амаль не вялося: пасяджэньні не адбываліся, плян хоць і быў складзены, але ня выконваўся.

Цяперашняе праўленьне было абрана ў сьнежні м-цы мінулага году. У склад праўленьня ўвайшлі членамі: Сяргеенка Я. І., выкладчык бел. мовы і літаратуры сямігодак, Вялішчанскі С. М., загадчык 1-й сямігодкі, Макоўскі А. Л., загадчык АПА Райкому КП(б)Б, Міркіна, Б. М., раённы агроном, Ягадка А. С., выкладчык грамадазнаўства сямігодак, Рамановіч Ф. Ф., настаўнік сямігодкі і Слаўцоў Ю., настаўнік вясковай школы. Такім чынам сувязь з галоўнымі організацыямі і ўстановамі была шчыльная.

З самага пачатку праўленьне падзялілася на рабочы прэзыдыум і агульнае праўленьне, якім былі наданы пэўныя межы ў працы. Так, рабочы прэзыдыум падрыхтоўваў і распрацоўваў усе матар'ялы і пытаньні, а потым выносіў у гатовым відзе на абгаварэньне ў агульнае праўленьне. Такім чынам дасягалася большая продукцыйнасьць працы.

З самага пачатку праўленьне зьвярнула ўвагу па павялічэньне ліку членаў і організацыю сельсавецкіх гурткоў. К вясьне ўжо меліся ў гэтым напрамку значныя, у параўнаньні з тым, што было, дасягненьні —лік сяброў павялічыўся на палавіну—35 чал., і ў чатырох сельсаветах былі організаваны гурткі. Апрача гэтага быў організаваны гурток пры Сеньніцкіх школах-сямігодках, які даў значныя вынікі. Рабіліся захады, каб скласьці гурток пры Бяліцкай с.-гас. школе, але тут прышлося сустрэцца з неразуменьнем задач краязнаўства з боку некаторых асоб, занятых працай у школе.

За прашоўшы час было склікана тры конфэрэнцыі, з якіх дзьве апошнія далі значныя дасягненьні: зьвярнулі ўвагу шырокіх колаў грамадзянства на краязнаўчую працу, паказалі некаторыя дасягненьні т-ва.

У самы апошні час вядзецца кампанія за адчыненьне раённага музэю і ёсьць досыць пэўная надзея, што памяшканьне будзе пакінута за т-вам. Справа ў тым, што т-ва прымала актыўны ўдзел у сельска-гаспадарчай раённай выстаўцы, дзе быў організаваны спэцыяльны Краязнаўчы аддзел. Шмат гледачоў гэтага аддзелу выказаліся за тое, каб выстаўка краязнаўства не існавала, як музэй. Гэта дапамагала праўленьню атрымаць запэўненьне ад мясцовых кіруючых установ, што памяшканьне застанецца за т-вам.

Апрача гэтага, праўленьню прысуджаны ганаровы ліст за ўмела організаваную выстаўку.

У дасьледчай часьці праўленьнем распачата праца па наступных галінах: 1. Вывучэньне гісторыі г. Сянно; 2. Зьбіраньне вестак аб месцазнаходжаньні карысных выкапняў у раёне; 3. Зьбіраньне фольклёру; 4. Зьбіраньне вестак па афарбоўцы тканін згодна анкеты ЦБК; 5. Вывучэньне экономічнага і культурнага стану г. Сянно і вёсак; 6. Зьбіраньне зельніку раёну; 7. Зьбіраньне вестак аб рэволюцыйным руху на Сянненшчыне; 8. Выпраўка карты раёну; 9. Абсьледваньне кірмашоў у г. Сянно; 10. Складаньне архэолёгічнай карты раёну.

Ува ўсіх гэтых напрамках праца вялася і ёсьць досыць шмат матар'ялу, але ён пакуль толькі часткова апрацован, бо брак часу не дае весьці інтэнсыўна гэтую працу.

Маючы на руках досыць каштоўныя матар'ялы, праўленьне задумала выдаць свой асобны зборнічак, які зьмяшчаў-бы матар'ялы патрэбныя для школ, але ў летні адпачынак, шмат якія сябры прымушаны былі выехаць за межы раёну і праца спынілася. Зараз зноў паўстае гэтае пытаньне і, калі не перашкодзяць якія-небудзь прычыны, дык зборнік будзе выданы.

Зараз праўленьне надпоўнена дабранымі сябрамі і складаецца з наступных асоб— Сяргеенка Я. І., Рамановіч Ф. Ф., Слаўцоў Ю., Сянкевіч А. З., настаўніца вясковай школы, Міркіна Б. М., Паўлоўская жанарганізатар Райкому КП(б)Б і Баканоўскі М., настаўнік сямігадовай школы. Выдзелена асоба для організацыі яўрэйскай сэкцыі пры праўленьні—загадчык яўрэйскай школы т. Брук. Складзен плян працы на зімовы пэрыод і зроблен па пляну каляндарны расклад.

Зараз т-ва складаецца з 79 асоб, з якіх— мужчын 51 ч., жан. 28 чал., партыйцаў і сяброў ЛКСМБ 20 чал., сялян 15 чал. У кожным сельсавеце ёсьць сябры ці корэспондэнты т-ва, якія зараз вядуць працу па заданьні праўленьня, а ў 4-х с/с ёсьць краязнаўчыя гурткі.

Перашкодамі ў працы можна лічыць наступнае: 1. Адсутнасьць грошай; 2. Малы лік сялян, уцягнутых у працу т-ва; 3. Адсутнасьць літаратуры аб мясцовым краі, якая вышла за апошнія дзесяцігодзьдзі; 4. Малы актыў сяброў т-ва і г. д. Гэтыя перашкоды пакуль яшчэ існуюць, але паступова зьмяншаюцца і ў скорым часе павінны прапасьці.

Я. Сяргеенка.

# БІБЛІОГРАФІЯ.

**Зорин Н.** *Вопрос об этнографическом составе населения Невельского уезда в связи с диалектическими особенностями местного говора, с данными истории местного края и экономическими центрами его тяготения.*

*„Познай свой край!“*—сборник Псковского Общества Краеведения. Вып. 3. Псков. 1927; стр. 33—64.

Аўтар артыкула, Зорын, мае на мэце высяьніць этнографічны склад насельніцтва Невельскага павету, былое Віцебскае губэрні, якое, як вядома, у этнографічнай літаратуры лічыцца беларускім. Кажучы аб спэцыяльных экспэдыцыях Інстытуту Беларускае Культуры ў Невельшчыну, Зорын піша: „Мы, Невельские краеведы, по мере сил и возможностей, тоже стремились разрешить этот сложный вопрос (нацыянальны). При разрешении первой части вопроса—об этнографическом составе населения нашего уезда—мы шли двумя путями: во-первых, путем тщательного изучения диалектических особенностей местного говора, во-вторых,—путем тщательного изучения фактов прошлого. При разрешении второй части вопроса—об экономических центрах тяготения, мы также шли двумя путями,—во-первых, путем изучения статистических данных экономического состояния нашего уезда в прошлом и настоящем, во-вторых, путем анализа настроений населения нашего уезда, отражаемых в произведениях народного творчества“ (стр. 33).

Пасьля разгляду прац Бацюшкава, Карскага, Шахматава, Анучына, Сакалова і некаторых іншых асоб, аўтар рабіць наступных чатыры вывады:

1) твердо установленных и научно обоснованых этнографических границ между северо-великорусскими говорами и белорусскими в наших местах нет;

2) мнения ученых исследователей в этом вопросе расходятся по причине существования таких переходных и смешанных говоров, которые могут быть с равным основанием причислены и к одному и к другому наречию;

3) существующие этнографические и др. карты носят условный, приблизительный характер;

4) Невельский, Себежский и Велижский уезды мало обследованы в этнографическом отношении (стр. 35).

Зрабіўшы такія вывады аўтар заняўся вывучэньнем мовы Невельскага павету. Навуковы мэтод дасьледваньня мовы (якое, трэба адзначыць: у артыкуле Зорына зьяўляецца самай галоўнай часткай) вельмі прымітыўны: ён бярэ шэраг моўных зьяў Невельшчыны, у тым ліку частку зьяў беларускае мовы, і базуючыся на тым, што яны сустракаюцца іншы раз і ў Вялікарусі, ён, не дасьледуючы чаму яны сустракаюцца ў Вялікарусі, робіць катэгорычны вывад, што мова Невельшчыны вялікаруская, пры такім наіўна-прымітыўным мэтодзе дасьледваньня мовы любую мову можна перахрысьціць у іншую. Што мова беларускіх этнографічных акраін наогул, у тым ліку і Невельшчыны, мае русіцызмы, аб гэтым ніхто ня стане спрачацца, гэта ясна кожнаму бесстароннаму воку, якое хоць крыху знаёма з умовамі жыцьця гэтых краін; але сур'ёзны мовазнаўца ня стане зрусіфікаваную мову пэўнай часткі насельніцтва, якая атрымана праз расійскую школу, праз расійскую армію, праз расійскія фабрыкі і г. д., лічыць асноўнай мясцовай моўнай стыхіяй. Адсюль і тая незразумелая для Зорына працілегласьць поглядаў расійскага мовазнаўства, паводле якіх адны дасьледчыкі гутаркі Невельшчыны і часткі старой Пскоўшчыны лічаць беларускімі (як, напр., акад Карскі, дэ-Ліўрон, Прэйс і інш.), а другія дасьледчыкі гэтыя-ж самыя гутаркі лічаць вялікарускімі (як, напр., папячыцель Віленскага Вучэбнага вокругу—тайны саветнік Бацюшкаў, Н. Сакалоў і інш.).

Расійскае пахаджэньне мовы Невельшчыны аўтар спрабуе даказаць і пры дапамозе зусім дзіцячых гістарычных довадаў. Ён піша, што полацка - пскоўска - смаленскія землі засяляліся *крывічамі,* говорыць аб гістарычнай і моўнай сувязі насельніцтва гэтых краін, прычым рэзка падкрэсьлівае, што крывічы былі рускім племем і нічога агульнага з беларусамі ня мелі, што беларусы з часам спрабавалі распаўсюдзіць уплыў свой на поўнач, але беларуская мова спаткаўшыся з крывіцкай мовай не пайшла далей мяжы, якую ў сучасны момант займаюць Себескі, Невельскі, Вяліскі паветы і Смаленшчына.

Аўтар трымаецца дарэволюцыйнай тэорыі, якая была абаснавана для рускіх палітычных і вялікадзяржаўных мэт, што ў грунце ўсіх усходня-славянскіх моваў ляжыць „общерусский язык", што беларуская мова пачынае зьяўляцца толькі з XIV ст.; з гэтае прычыны ён ня хоча ведаць новага асьвятленьня моўных і нацыянальных фактаў, якія адмаўляюць існаваньню „обще-русского языка", якія высоўваюць пытаньне аб самастойным разьвіцьці беларускай і украінскай моваў і залежнасьць ад іх афармленьня пазьнейшай— вялікарускай мовы; аўтар ня хача ведаць, што галоўным славянскім пляменьнем, якое лягло ў грунт сучасных беларусоў, і былі якраз *крывічы*, патомкаў якіх ён ня хоча назваць беларусамі; ён не ведае таго, што ў некаторай частцы беларускай літаратуры да назоў: „беларус", „беларусь", „беларускі" ўводзяцца раўналеглыя назовы: „крывіч", „крывічанскі", „крывія", як гістарычна больш падыходзячыя для народу. А калі-б Зорын не захоўваў усіх гэтых акалічнасьцяй, яны-б далі новае накіраваньне яго працы, ён-бы тады ня пісаў, што на Невельшчыне моўная „кривическая стихия" (с. 55), а не беларуская.

Паміж іншым Зорын піша: „В большей части говора Невельскаго уезда и нецокающих смешанно-переходных говорах Смоленскай губ. (уездов—Смоленского, Ельнинского Порецкого, Красненского, Духовизинского, Бельского, Рославльского) мы находим много общих черт, сразу бросающихся в глаза" (стр. 55)—так, бясспрэчна, падобнага паміж Смаленшчынай і Невельшчынай шмат чаго як з боку сьлядоў памянёнай царскай русіфікацыі, так і з боку беларускасьці гэтых паветаў. На абавязку дасьледчыка ляжыць навуковае аддзяленьне наносных выпадковых, нехарактэрных для краю элемэнтаў, ад культуры асноўнай. Гэтага не зрабіў Зорын.

Праф. П. Бузук, навукова бесстаронна вывучаючы мову Невельшчыны ў 1926 г. знаходзіць асноўнай моўнай стыхіяй Невельшчыны—якраз стыхію беларускую (*Бузук*. Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага і Вяліскага паветаў. Менск, 1926). Каб вывесьці якасьць моўных фактаў Зорына, прывяду адно параўнаньне.

Зорын, кладучы ў грунт свайго дасьледваньня матар'ялы здабытыя з прыпевак і іншых падобных малакаштоўных крыніц, на стар. 49 піша: „что в Невельском говоре нет дзеканья, это не наше только наблюдение,—об этом говорят и ранейшие исследователи и русские и белорусские". А ў проф. Бузука, які пры дасьледваньні мовы ў той самы час, калі яе дасьледваў і Зорын, браў пад увагу ўсе этнографічныя моманты, чытаем адносна гэтае зьявы зусім іншае: „Дзеканьне і цеканьне, паўночная граніца якога заходзіць далёка ў Пскоўскую губ., у Невельскім павеце трымаецца вельмі моцна, так што я ня лічу нават патрэбным падаваць прыклады. Між іншым, усюды на станцыях і ў самым Невелі дзекае і цекае нават тая інтэлігенцыя, якая імкнецца гаварыць парасійску" (с. 6-7).

Гэтага прыкладу, якіх можно сабраць шмат, досыць, каб з поўным недавер'ем аднесьціся да ўсіх „вучоных" меркаваньняў і вывадаў Н. Зорына.

Далей чытаем у Зорына: „наиболее точным барометром настроения являются песни.. Нами собрано до 2.000 частушек..." (с. 62), якія аўтар часткова падае, як прыклады народнай творчасьці. Кожны этнограф ведае, што прыпеўкі зьяўляюцца новым відам народнай творчасьці, які ў вялікай колькасьці заносіцца да нас з Вялікарусі, які ня мае абсолютна ніякай значнасьці пры вызначэньні нацыянальнасьці—выяўленьні асноўнай старадаўнай народнай культуры, як наносны, чужы элемэнт. Зорын, як відаць, заўмысьля не паказвае старадаўнай абрадавай песьні...

Да ведама Зорына павінен давесьці, што для выяўленьня нацыянальнага складу насельніцтва прыпевак і прыкладаў з зрусіфікаванай мовы малавата; для вырашэньня гэтага вельмі складанага і адказнага пытаньня бяруцца пад увагу не выпадковыя даныя, а ўсе этнографічныя асаблівасьці мясцовасьці. Возьмем, напр., этнографічна музычнае вывучэньне Себежчыны і Невельшчыны, якое ў 1926 г. зроблена было музычным этнографам А. Грыневічам. У яго справаздачы чытаем, напр., наступнае: „Запісы мэлёдый і тэксту песень рабіліся мной паводле таго, як яны чуліся на месцы. Для працы запрашаліся пераважна жанчыны, якія, агулам ведама, найбольш ведаюць песень. Вялікага выбару з іх аднак ня было, бо з ростам культуры як народныя песьні, так і песнахоры хутка выводзяцца. Да рэчы сказаць, такое зьявішча наглядаецца цяпер ня толькі на блізкіх шляхох да Ленінграду і Масквы, але ўжо і ў асяродку Беларусі. Як відаць з гэтага, выміраньне народнай песьні ідзе хуткім тэмпам, і на пачатку працы пры такіх мясцовых умовах, мне здавалася, што даўнейшую крывіцкую песьню шукаць на пагранічччы этнографічнае Беларусі ўжо зусім позна. *Аднак, наперакор спадзеям песьні знайшліся і нават у чыстым відзе*. Гэта пацьвярджаецца ня толькі аналізам характару самых песень, але і параўнаньнем іх з вядомымі друкаванымі матар'яламі з месц прылеглых да левабярэжжа Заходняй Дзьвіны на захад ад Віцебску, дзе крывіцкая песьня захавалася ў больш чыстым відзе (параўнай сабраныя матар'ялы з песьнямі Дзісеншчыны ў VII сшытку прац Е. Рамананава „Бѣлорусскія народныя мелодіи" 1910 г., з песьнямі Лепельшчыны ў зборніках „Biełaruskije pies'ni z notami", 1910 г. і „На-

родны сьпеўнік" 1920 г. А. Грыневіча). Гэтую схожасьць найбольш яскрава паказваюць песьні з паўдзённа-заходняй часткі Себескага павету. Тут мы знаходзім схожасьць ня толькі мотываў і тэксту, але і самой мовы... Мэлёдыі песень паволі губяць сувязь з мотывамі левабярэжжа Дзьвіны на захад ад Віцебску і ад Невеля зьбліжаюцца ўжо па сваім характары да песень крывічоў усходняй Віцебшчыны больш-менш усёй Смаленшчыны"...

Гэтая кароткая выпіска паказвае на аднолькавасьць народнай мэлёдыі на тэрыторыі этнографічнае Беларусі і адначасна яна кажа за тое, што шэраг падобных дробных праяў у матар'яльнай і духоўнай культуры, якія абавязкова трэба вывучаць, на якія не зьвярнуў увагу Зорын, даюць малюнак цэласнасьці народнае культуры на абшарах усяе этнографічнае Беларусі.

*Ал. Шлюбскі.*




Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга.** **А. Казак.** **М. Касьпяровіч.**

# ЗЬМЕСТ.





# ВЫСТАЎКА КРАЯЗНАЎЧЫХ ФОТОГРАФІЙ і ЗАРЫСОВАК.

ЦЭНТРАЛЬНЫМ БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА разам з БЕЛАРУСКІМ ДЗЯРЖАЎНЫМ МУЗЭЕМ

БУДЗЕ НАЛАДЖАНА

**ў тэрмін ад 15 красавіка да 15 траўня 1927 г.**

# ВЫСТАЎКА

## КРАЯЗНАЎЧЫХ ФОТОГРАФІЙ

## і ЗАРЫСОВАК.

**ВЫСТАЎКА МАЕ МЭТАЮ:** а) выявіць дасягненьні ў справе фотографаваньня і зарысоўваньня розных краін БССР, а таксама запасы краязнаўчых ілюстрацыйных матар'ялаў; б) зьвярнуць увагу на значэньне рысунку і фотографіі для краязнаўчай працы.

Удзел у выстаўцы прымаюць дзяржаўныя інстытуцыі, краязнаўчыя організацыі, фотографічныя гурткі, аб'яднаньні фотографаў, аб'яднаньні мастакоў, краязнаўцы, мастакі, фотографы, аматары, колекцыянэры і інш.

Зарысоўкі (алоўкам, пастэльлю, пяром, экварэльлю) і фотографіі будуць прымацца на тэмы: а) беларускі краявід; б) жывая і нежывая прырода (зьвяры, жывёлы, птушкі, каменьні, расьліны; іх групы, адзінкі, часткі); в) тып беларуса: жанчыны, дзяўчыны, мужчыны, хлапца, дзіцяці; г) беларускі народны касьцюм мужчынскі і жаночы, як будны, так і сьвяточны; д) мужчынскія і жаночыя галаўныя ўборы: чапцы, намёткі, шапкі і да т. п.; е) беларус за працай і яго вырабы; ё) тыповыя беларускія будынкі—прыватныя, грамадзкія, культавыя; э) нутраное ўбраньне і абсталяваньне хат; ж) дэталі будынкаў; з) музычныя інструманты і музыканты; і) беларуская прамысловасьць; і) беларуская вёска і горад; к) нацыянальныя меншасьці—адпаведна вышэйшым разьдзелам.

За лепшыя экспонаты будуць выдавацца дыплёмы I і II разраду.

Зарысоўкі і фотографіі прымаюцца да 10 красавіка 1928 г. Перасылка іх у ЦБК і назад—бясплатная. Кожны экспонат павінен мець пры сабе весткі: назву, дату, мясцовасьць, аўтара і ўласьніка рэчы, а на портрэтах да таго—прозьвішча асобы. Фотографіі пажадана мець у 2-х экзэмплярах.

Краязнаўчыя організацыі павінны паклапаціцца, каб іх мясцовасьць і яе жыцьцё былі добра паказаны на выстаўцы.

**Рэчы пасылаць:** *Менск, Чырвонаармейская, 3, Дзяржаўнаму Музэю* або: *Менск, Рэволюцыйная, 21, ЦБК.*

Пры пасылках павінен быць сьпіс рэчаў.